В. А. ЧАМЯРЫЦКІ

# БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ ЯК ПОМНІКІ ЛІТАРАТУРЫ

*Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў*

Мінск 1969

**Чамярыцкі В. А.**

**Ч-17** Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мінск, «Навука і тэхніка», 1969. 192 с. (АН БССР. Ін-т літаратуры імя Я. Купалы). 1000 экз. 49 к.

У гэтай працы на вялікім фактычным матэрыяле разглядаюцца беларускія летапісы і хронікі. Галоўная ўвага ўдзяляецца высвятленню паходжання гэтых помнікаў, фарміравання асобных летапісных зводаў і іх далейшай літаратурнай гісторыі.

**7-2-2**
**78-69**

**8Бел1**

*Рэдактар*
*доктар філалагічных навук Я. С. ЛУР'Е*

## УВОДЗІНЫ

Выдатнае месца сярод старажытных помнікаў пісьменнасці беларускага народа займаюць летапісы і хронікі. Багатыя сваім зместам, своеасаблівыя па форме, яны служаць для нас каштоўнай крыніцай пазнання даўняга мінулага Беларусі і Літвы — краін, якія многія стагоддзі пражылі ў цесных эканамічных, палітычных і культурных узаемаадносінах. Выкліканае да жыцця рэальнымі патрабаваннямі рэчаіснасці сярэдневяковай Беларусі летапісанне (хранаграфія) з'явілася вынікам росту гістарычнай самасвядомасці і культуры нашых продкаў.

Будучы помнікамі гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі свайго часу, летапісы і хронікі складаюць разам з тым цэлы этап у гісторыі беларускай старажытнай літаратуры. Лепшыя з іх—яркія ўзоры беларускай літаратурнай мовы і беларускай свецкай прозы даўняй пары. Акрамя таго, гэтыя помнікі — непасрэдныя сведкі інтэнсіўнасці і плённасці культурных узаемасувязей беларускага народа з рускім, літоўскім, украінскім і польскім народамі ў эпоху феадалізму. Усё гэта пераканаўча сведчыць аб вялікім культурна-гістарычным значэнні

беларускіх летапісаў і хронік і паказвае, наколькі важна і неабходна іх глыбокае, усебаковае вывучэнне.

Летапісанне Беларусі мае шматвяковыя традыцыі. У сваім развіцці яно прайшло тры асноўныя этапы: зараджэнне (XII—XIV стст.), росквіт (XV—XVI стст.) і заняпад (XVII—XVIII стст.).

У першы перыяд, у эпоху феадальнай раздробленасці, летапісанне Беларусі, як і іншых усходнеславянскіх зямель, мела мясцовы характар, паколькі пад уплывам новых гістарычных умоў пастунова перамог мясцовы пункт погляду на гісторыю. Кругагляд летапісцаў XII — XIV стст., як правіла, абмяжоўваўся інтарэсамі таго феадальнага цэнтра, які спрычыніўся да адкрыцця свайго ўласнага летапісання. Таму ў цэнтры ўвагі тагачасных летапісцаў былі пераважна падзеі, непасрэдна ці ўскосна звязаныя з гісторыяй пэўнага ўдзельнага княства. Такі выразна мясцовы характар маюць, напрыклад, Кіеўскі летапіс XII ст., Галіцка-Валынскі летапіс XIII ст., наўгародскія летапісы XIII—XIV стст., а таксама першыя летапісныя помнікі, што ўзніклі на тэрыторыі Беларусі: Полацкі летапіс XII ст. і Смаленскі летапіс XIV — пачатку XV ст. Усе яны створаны ў рэчышчы мастацкіх і моўных традыцый літаратуры Кіеўскай Русі.

У XV ст. у сувязі з заняпадам удзельнай сістэмы і ўтварэннем на землях усходніх славян дзвюх магутных дзяржаў — Вялікага княства Літоўскага і Вялікага княства Маскоўскага — узнікаюць новыя палітычныя тэндэнцыі, а з імі і новыя гістарычныя канцэпцыі. Пануючай становіцца аб'яднаўчая ідэя, якая знайшла выражэнне, з аднаго боку, у агульнарускіх сваім характарам маскоўскіх зводах 1408 (1409) і 1418 гг., а з другога — у «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх» і Смаленскім зводзе 1446 г., помніках беларуска-літоўскага летапісання. У беларуска-літоўскіх хроніках XVI ст. пераважаюць

ужо ідэі патрыятызму, дзяржаўнай і нацыянальнай незалежнасці.

Беларуска-літоўскія летапісы як жанр развіваліся спачатку, у XV ст. у цеснай сувязі з маскоўскім і наўгародскім летапісаннем і знаходзіліся пад моцным уплывам літаратурных традыцый старажытнарускага летапісання. Аднак пасля, у XVI ст., яны адышлі ад агульнарускіх узораў і набылі сваю ярка выражаную мастацкую адметнасць, стаўшы фактычна хронікамі — гістарычнымі аповесцямі («Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца» і інш.).

Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне, выкліканае да жыцця надзённымі патрэбамі часу, было адлюстраваннем агульнай палітычнай гісторыі беларусаў і літоўцаў XIV—XVI стст., іх сумеснай барацьбы за нацыянальную і палітычную незалежнасць. Яно скончыла сваё існаванне разам з канчатковай стратай у другой палавіне XVI ст. гэтымі народамі дзяржаўнай самастойнасці.

Заняпад арыгінальнага летапісання (хранаграфіі) на Беларусі быў абумоўлены дзвюма галоўнымі прычынамі: па-першае, надзвычай цяжкім сацыяльным, палітычным і нацыянальным становішчам беларускага народа ў Рэчы Паспалітай і звязаным з гэтым агульным заняпадам беларускай культуры ў другой палавіне XVII—XVIII ст.; па-другое, трансфармацыяй самога летапіснага жанру.

Традыцыйныя віды сярэдневяковай гістарыяграфіі, летапіс і хроніка, на працягу свайго доўгага бытавання не маглі заставацца без змен. Помнікі, створаныя, скажам, у XIV—XV стст., ужо не задавальнялі ўзросшыя духоўныя запатрабаванні грамадства XVII ст. Само жыццё выклікала неабходныя змены не толькі ў змесце, але і ў спосабе адлюстравання рэчаіснасці і ў форме гісторыка-літаратурных твораў. Адбылася паступовая трансфарма-

цыя і дыферэнцыяцыя старых жанраў і замена іх новымі. Выцясненне традыцыйных жанраў (летапісаў і хронік) новымі гісторыка-літаратурнымі жанрамі па сутнасці пачалося ў беларускай старажытнай літаратуры ўжо ў другой палавіне XVI ст., калі з'явіліся «Хроніка» М. Стрыйкоўскага, першая гісторыя Літвы і Беларусі элементарна крытычнага характару, а таксама «Дзённік» Ф. Еўлашэўскага і Баркулабаўскі летапіс — творы гісторыка-мемуарнага жанру. Праўда, у XVIII ст. былі спробы аднавіць старую, летапісную форму апісання мінулага («Гісторыя горада Віцебска» М. Панцырнага і С. Аверкі і «Хроніка беларускага горада Магілёва» А. і М. Трубніцкіх), але беспаспяхова.

Такі ў агульных рысах шлях прайшло беларускае летапісанне ў сваім гістарычным развіцці. Гэты шлях паказальны ў шмат якіх адносінах. Ён сведчыць аб тым, што летапісанне Беларусі развівалася ў самай цеснай сувязі з гісторыяй нашага народа і, магчыма, мацней за іншыя літаратурныя жанры выразіла галоўныя, вядучыя грамадска-палітычныя тэндэнцыі часу. Акрамя таго, жанравая эвалюцыя летапісання Беларусі з'яўляецца найбольш тыповым прыкладам, свайго роду люстрам мастацкай эвалюцыі ўсёй беларускай літаратуры XIV—XVIII стст. Вось чаму даследаванне беларускіх летапісаў і хронік мае прынцыповае значэнне як для лепшага разумення гістарычнага мінулага беларускага народа, так і для ўстанаўлення асноўных заканамернасцей развіцця беларускай старажытнай літаратуры.

Вывучэнне беларускага летапісання пачалося з публікацыі ў 1823—1824 гг. Ігнатам Даніловічам, прафесарам права Віленскага універсітэта, аднаго з летапісных спісаў, знойдзенага ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра. Даследаваннем беларускіх летапісаў і хронік, пераважна XV—XVI стст., займаліся да рэвалюцыі шмат якія поль-

скія, рускія і ўкраінскія вучоныя (І. Шараневіч, І. Ціхаміраў, А. Прахаска, М. Грушэўскі, Я. Якубоўскі і інш.). Аднак найбольш значны ўклад у іх вывучэнне ўнеслі С. Смолька, А. Шахматаў і Ф. Сушыцкі. У апошні час, што асабліва трэба падкрэсліць, да вывучэння гэтых выдатных помнікаў культуры Беларусі і Літвы, нарэшце, падключыліся літоўскія і беларускія даследчыкі (М. Ючас, М. Улашчык і інш.).

Такім чынам, даследаванне летапісання (хранаграфіі) Беларусі мае ўжо амаль паўтарастагадовую гісторыю. За гэты час было выяўлена і апублікавана звыш двух дзесяткаў спісаў беларускіх летапісаў і хронік XV—XVIII стст., у асноўным вызначаны склад і крыніцы асобных помнікаў, устаноўлены час і месца ўзнікнення некаторых летапісных твораў, праведзена тэксталагічнае супастаўленне большасці спісаў, зроблены першыя спробы выявіць узаемасувязі летапісання Беларусі з летапісаннем і хранаграфіяй суседніх ёй славянскіх краін, распачата вывучэнне беларускіх летапісаў і хронік як помнікаў літаратуры і г. д.

Тым не менш, нягледзячы на значныя дасягненні дарэвалюцыйнай навукі, беларускія летапісы і хронікі вывучаны недастаткова. Многія важныя праблемы беларускага летапісання ўсё яшчэ не вырашаны або нават не ўзняты, прычым некаторыя з іх патрабуюць прынцыпова новага падыходу да гэтых помнікаў. Грунтоўнай праверкі, сур'ёзнага ўдакладнення, а месцамі і карэннага перагляду з новых метадалагічных пазіцый і сучаснага ўзроўню развіцця філалагічнай і гістарычнай навукі патрабуюць таксама шмат якія палажэнні і вывады папярэдніх даследчыкаў. Усё гэта і абумовіла неабходнасць з'яўлення дадзенай працы.

Наша даследаванне прысвечана вывучэнню толькі аднаго гісторыка-літаратурнага жанру беларускай пісьмен-

насці — агульнадзяржаўнага летапісання XV—XVI стст., г. зн. летапісання беларуска-літоўскага паводле свайго зместу. Іменна агульнадзяржаўныя летапісы і хронікі эпохі Вялікага княства Літоўскага — найбольш яркі і важкі здабытак беларускага летапісання позняга Сярэдневякоўя як сваёй грамадска-палітычнай, так і гісторыка-культурнай значнасцю. Больш таго, найбольш раннія з гэтых твораў, летапісы першай палавіны XV ст., фактычна з'яўляюцца таксама і першымі арыгінальнымі помнікамі ўласна беларускай старажытнай літаратуры.

Вывучэнне беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік XV—XVI стст. як помнікаў літаратуры мае багата аспектаў даследавання. Аднак на сучасным этапе найбольш важнай, першачарговай задачай з'яўляецца даследаванне паходжання асобных хронік, фарміравання летапісных зводаў, іх складу і крыніц, а таксама літаратурнай гісторыі тэксту кожнага помніка. Без высвятлення гэтых пытанняў немагчыма далейшае вывучэнне ўсяго беларускага летапісання. Таму пераважна іх разгляду і прысвечана гэта праца.

Раздзел I

## ПЕРШЫ ЛЕТАПІСНЫ ЗВОД

Перш чым непасрэдна прыступіць да аналізу асобных помнікаў беларускага летапісання XV—XVI стст., мы лічым неабходным спачатку коратка спыніцца на адным пытанні тэрміналагічнага характару.

Усе даследчыкі XIX — пачатку XX ст., за выключэннем бадай аднаго М. Кастамарава, агульнадзяржаўныя летапісы і хронікі Вялікага княства Літоўскага называлі, як правіла, літоўскімі, літоўска-рускімі, заходнерускімі і нават рускімі летапісамі. Такі погляд быў абумоўлены, па-першае, памылковымі ўяўленнямі аб беларускім народзе і яго гісторыі; па-другое, чыста палітычнымі прычынамі. У той час, калі ўжыванне самой назвы «Беларусь» было афіцыйна забаронена, а масцітыя вучоныя мужы з сур'ёзным выглядам спрачаліся, ці існуе асобнае беларускае «племя», ці не, не магло быць і гаворкі ні пра асобную гісторыю Беларусі, ні пра самастойную старажытную літаратуру беларускага народа. Яна проста аб'яўлялася абласной рускай.

Акрамя таго, вельмі жывучай была і гістарычная традыцыя. На працягу звыш чатырохсот гадоў, калі Беларусь уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, назва «Літва» настолькі стала замацавалася за беларускімі землямі, асабліва заходнімі, што часта спараджала

і дасюль спараджае тэрміналагічную блытаніну. Адсюль узніклі такія недарэчныя геаграфічныя назвы, як Літоўскае Палессе, Брэст-Літоўск і інш., такія недакладныя назвы помнікаў культуры, як Літоўскі статут, Літоўская метрыка, літоўскія летапісы і інш. Вось чаму і Адам Міцкевіч, сумуючы на чужыне па бацькоўскіх краях, па Навагрудчыне, усклікаў: «Litwo! Ojczyzno moja!»

Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі беларускі народ дамогся свайго міжнароднага прызнання як самастойная нацыя са сваім імем, мовай і тэрыторыяй, са сваёй уласнай гісторыяй і духоўнай культурай, справядлівасць была адноўлена. Наш шматпакутны, гераічны народ, нарэшце, атрымаў магчымасць вярнуць сабе сваю ўласную культурную спадчыну мінулага. Толькі ў савецкі час летапісы і хронікі Вялікага княства Літоўскага вучоныя справядліва сталі называць беларуска-літоўскімі.

Гэтыя помнікі — прадукт духоўнага генія беларускага і літоўскага народаў, іх высокай гістарычнай самасвядомасці, іх агульны культурны здабытак. У летапісах і хроніках XV—XVI стст. адлюстравана багатае мінулае гэтых народаў за час іх сумеснага жыцця ў складзе адной дзяржавы, Вялікім княстве Літоўскім, гісторыя якога — гэта таксама і гісторыя Беларусі. Не выпадкова летапісы і хронікі Вялікага княства Літоўскага ў цэлым з'яўляюцца беларуска-літоўскімі і сваім зместам, і сваімі галоўнымі тэндэнцыямі, хоць і створаны яны выключна на беларускай мове і пераважна беларускімі пісьменнікамі. Таму будзе прынцыпова няправільным лічыць гэтыя помнікі толькі літоўскімі або толькі беларускімі, не гаворачы ўжо пра тое, што зусім непрымальнай з'яўляецца іх назва «заходнерускія», ужыванне якой па сутнасці адмаўляе існаванне беларускага народа ў XV—XVI стст. са сваёй адметнай культурай.

## КЛАСІФІКАЦЫЯ ЛЕТАПІСНЫХ СПІСАЎ

Беларуска-літоўскія летапісы і хронікі захаваліся ў шматлікіх спісах. Сёння вядомы 22 асобныя іх спісы: Супрасльскі (1519 г.), Слуцкі (пачатак XVI ст.)[1], Нікіфараўскі (трэцяя чвэрць XV ст.), Акадэмічны (сярэдзіна XVI ст.), Красінскага (сярэдзіна XVI ст.), Альшэўскі (1550 г.), Археалагічнага таварыства (другая палавіна XVI ст.), Румянцаўскі (канец XVII ст.), Патрыяршы А. (другая палавіна XVII ст.), Патрыяршы Б. (другая палавіна XVII ст.)[2], Ціханравава (1636 г.), Познанскі (апошняя чвэрць XVI ст.), Еўраінаўскі (канец XVII ст.), Быхаўца (XVII ст.), «Origo regis» (пачатак XVI ст.), Віленскі (канец XV — пачатак XVI ст.), Дуброўскага (сярэдзіна XVI ст.), ЦДАСА № 20/25 (пачатак XVIII ст.)[3], Пагодзінскі (другая палавіна XVI ст.), БАН № 34.4.32 (XVII ст.)[4], Архангельскі (другая чвэрць XVI ст.) і ЦДАСА № 365/815 (пачатак XVII ст.).

Захавалася таксама некалькі дробных летапісных урыўкаў: «Предословие о великих князех литовских»[5] — скарочаны пераказ «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»; «Сказание о великом князе Витофте»[6], заснаванае на тэксце вядомай «Пахвалы Вітаўту»; запіс пра князя Вітаўта ў кнізе слоў Ісаака Сірына, перапісанай у 1428 г. у

---

[1] Ранейшая назва гэтага спіса (Увараўскі) чыста выпадковая. Паколькі ў XVI ст. ён належаў князям Слуцкім, лічым больш правільным называць яго Слуцкім.

[2] Тэксты Патрыяршага А. і Патрыяршага Б. спісаў — гэта дзве асобныя рэдакцыі адной і той жа беларуска-літоўскай хронікі і змешчаны ў адным рукапісу.

[3] Цэнтральны дзяржаўны архіў старадаўніх актаў (Масква).

[4] Бібліятэка Акадэміі навук СССР (Ленінград).

[5] Полное собрание русских летописей. Т. XVII. Западнорусские летописи. СПб, 1907, слупкі 605—608.

[6] ПСРЛ, т. XVII, сл. 615—616.

Смаленску [7]; апавяданне пра караля Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл, надрукаванае А. Муханавым паводле спіса Радзівілаўскага архіва [8], і інш.

Большасць названых спісаў беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік узнікла ў XV—XVII стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі, частка (прычым менш значных спісаў)—у Расіі і на Украіне. Характэрна, што не захавалася ніводнага летапіснага спіса, перапісанага непасрэдна ў этнаграфічнай Літве, калі не ўлічваць сталіцы княства Вільні, агульнага палітычнага і культурнага цэнтра літоўцаў і беларусаў у мінулым, дзе хронікі не толькі перапісваліся, але і ствараліся.

Хоць гэтыя помнікі былі ўжо добра вядомы польскаму гісторыку XVI ст. Мацею Стрыйкоўскаму, аднак іх сапраўднае навуковае адкрыццё належыць XIX ст. Першым быў адкрыты і апублікаваны летапіс Супрасльскага спіса (І. Даніловіч, 1823—1824 гг.) [9]. Затым на працягу мінулага стагоддзя вучонаму свету сталі вядомы яшчэ каля дзесяці розных спісаў. Усе знойдзеныя к пачатку XX ст. спісы беларуска-літоўскіх літапісаў і хронік былі надрукаваны або выкарыстаны для разначытанняў у XVII томе ПСРЛ. Архангельскі спіс, адшуканы пазней, быў упершыню апублікаваны Г. Бугаслаўскім [10], спісы Ціханравава і ЦДАСА № 365/815 яшчэ не выдадзены.

Намі свядома апускаецца тут так званы летапіс Аўрамкі, бо ён не толькі генетычна не звязаны з агульнадзяржаўнымі беларуска-літоўскімі летапісамі, але і нао-

---

[7] ПСРЛ, т. XVII, сл. 417—420.

[8] Сборник Муханова. СПб, 1866, стар 140—141.

[9] Latopisiec Litewski na początku XV wieku, przez bezimiennego pisarza w ruskim języku ułożony... «Dziennik Wileński». 1823, t. III; Latopisiec Rusi obeymujący prace Nestora i jego przedłużaczów... «Dziennik Wileński». 1824, tt. I, II.

[10] Смоленская старина, вып. 1, ч. 2, 1911, стар. 5—19.

гул не з'яўляецца помнікам беларускай старажытнай літаратуры [11]. Як устанавіў яшчэ акад. А. А. Шахматаў, у аснове зборніка Аўрамкі ляжыць летапісная кампіляцыя, складзеная ў Пскове на аснове наўгародскіх крыніц [12]. Такім чынам, летапіс, перапісаны ў 1495 г. Аўрамкам у Смаленску, прадстаўляе сабою адзін са шматлікіх рускіх летапісных зводаў, што шырока бытавалі ў XV—XVI стст. на тэрыторыі Беларусі.

Вядомыя спісы беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік вельмі неаднародныя паводле свайго складу. Нягледзячы на агульнасць паходжання гэтых помнікаў, узаемнае падабенства і блізкасць у асобных частках, шмат якія іх спісы значна адрозніваюцца сваім зместам, колькасцю і аб'ёмам звестак, характарам апісання асобных падзей і нават рэдактарскай апрацоўкай тэксту. Тэксты летапісаў і хронік некаторых спісаў заснаваны на зусім розных крыніцах. Адзіным агульным для ўсіх спісаў тэкстам з'яўляецца фактычна толькі «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», які складае нязначную частку летапіснага тэксту большасці спісаў.

Неаднароднасць складу летапісаў розных спісаў была даўно заўважана даследчыкамі, што натуральна выклікала патрэбу ў спецыяльнай іх класіфікацыі. Яшчэ І. Даніловіч гаварыў пра існаванне прынамсі трох асобных «літоўскіх» летапісаў: летапісу Супрасльскага спіса і двух летапісаў, якімі карыстаўся М. Стрыйкоўскі (адзін з іх — «Хроніка Быхаўца») [13]. Як тры асобныя

[11] В. А. Чамярыцкі. Беларускія летапісныя зводы і іх рэдакцыі. «Весці Акадэміі навук БССР», серыя грамадскіх навук, 1967, № 1, стар. 86—88.

[12] А. А. Шахматов. Несколько заметок о языке псковских памятников XIV—XV веков. ЖМНП, ч. XXII, июль, 1909, стар. 150—151.

[13] И. Данилович. О литовских летописях. ЖМНП, ч. XXVIII, 1840, отд. II, стар. 70—114.

помнікі — зводы мясцовых хронік — разглядалі агульнадзяржаўныя летапісы Беларусі і Літвы І. Шараневіч [14] і Я. Якубоўскі [15].

Побач з гэтай тэндэнцыяй у навуковай літаратуры, пераважна рускай і ўкраінскай, прысвечанай беларуска-літоўскаму летапісанню XV—XVI стст., праявілася і другая тэндэнцыя, заснаваная на зусім іншым прынцыпе класіфікацыі спісаў. Так, М. Кастамараў [16], а пасля Б. Вахевіч [17] бачылі ў іх адзін помнік, адзін летапісны звод, які захаваўся ў трох рэдакцыях. Падзел усіх вядомых спісаў нашых летапісаў на тры групы-рэдакцыі быў затым удакладнены і прыняты Ф. Сушыцкім, аўтарам грунтоўнай манаграфіі пра беларуска-літоўскія летапісы і хронікі, атрымаўшы ў яго такі выгляд: кароткая (старэйшая) рэдакцыя — спісы Супрасльскі, Увараўскі (Слуцкі), Нікіфараўскі, Акадэмічны, Віленскі і Дуброўскага; складаная (пашыраная) — спісы Красінскага, Румянцаўскі, Археалагічнага таварыства, Патрыяршы, Ціханравава, Рачынскага (Познанскі) і Еўраінаўскі; поўная — спіс Быхаўца [18].

Былі, праўда, і паасобныя прыватныя варыянты. Так І. Ціхаміраў падзяляў беларуска-літоўскія летапісы на

---

[14] I. Szaraniewicz. O latopisach i kronikach ruskich XV i XVI wieku, a zwłaszcza o Latopisie «welikoho kniaźtwa litowskoho i żomojtskoho». Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału historyczno-filozoficznego Akademii Umiejętności. T. XV. W Krakowie, 1882, s. 351—413.

[15] J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed unią Lubelską. Warszawa, 1912.

[16] Н. И. Костомаров. Лекции по русской истории. Ч. I. Источники русской истории. СПб, 1861 (1862), стар. 53—58.

[17] Б. А. Вахевич. Западнорусская летопись по списку Румянцевского музея. Одесса, 1903.

[18] Т. Сушицький. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури. Київ, 1930, стар. 100.

два зводы — кароткі і поўны[19], а М. Грушэўскі налічваў нават чатыры іх рэдакцыі[20]. Аднак пераважная большасць даследчыкаў у асноўным прытрымлівалася аднаго з двух адзначаных вышэй тыпаў класіфікацыі. Прычым найбольшае пашырэнне атрымаў падзел беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік на тры рэдакцыі. Гэты тып класіфікацыі пануе ва ўсёй рускай, беларускай і ўкраінскай навуковай і навукова-папулярнай літаратуры паслярэвалюцыйнага часу.

На першы погляд можа паказацца, што існуюць не два асобныя тыпы, а толькі два варыянты адной і той жа класіфікацыі, паводле прынцыпаў якой усе спісы беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік так ці інакш падзяляюцца на тры групы. Але істотнае, прынцыповае адрозненне гэтых варыянтаў якраз у тым, што ў адным выпадку летапісны твор, прадстаўлены кожнай групай спісаў, называецца зводам, г. зн. асобным помнікам, а ў другім — толькі рэдакцыяй аднаго агульнага помніка.

Калі новая рэдакцыя — гэта этап у літаратурнай гісторыі тэксту пэўнага твора, то новы помнік — гэта пэўны этап у гісторыі цэлага жанру. Карацей кажучы, два розныя тыпы класіфікацыі беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік па сутнасці выяўляюць два розныя падыходы вучоных да гэтых помнікаў. І ад таго, прызнаем мы існаванне толькі аднаго летапісу ці трох, па-рознаму павінна будзе будавацца і сама гісторыя беларускага летапісання XV—XVI стст. Таму ўстанаўленне аб'ектыўна правільнай класіфікацыі летапісных спісаў, якая цалкам

[19] И. Тихомиров. О составе западнорусских, так называемых литовских летописей. ЖМНП, ч. CCCXXXIV, март, 1901, стар. 1—36.

[20] М. Грушевський. Історія України — Руси. Т. VI. Житє економічне, культурне, національне XIV—XVII віків. Київ—Львів, 1907, стар. 357, 360, заувага 4.

адпавядала б рэальнаму стану рэчаў, мае ў дадзеным выпадку прынцыповае значэнне. Без папярэдняга вырашэння гэтай праблемы немагчыма далейшае вывучэнне беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік.

Новая рэдакцыя помніка, як правіла, узнікае ў выніку свядомай, мэтанакіраванай перапрацоўкі яго тэксту. Гэта значыць, што тэксты розных спісаў адной і той жа рэдакцыі не павінны істотна адрозніваццa адзін ад аднаго ні стылістычна, ні па сэнсу, ні з фактычнага боку (за выключэннем хіба толькі чыста механічных пропускаў). Параўнаем, наколькі адпавядаюць гэтым патрабаванням спісы так званай пашыранай (складанай) рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў. Возьмем для прыкладу толькі два спісы: Красінскага[21] і Познанскі (Рачынскага).

У тэксце легендарнай гісторыі Літвы (ад Палемона да Гедыміна) у абодвух названых спісах шмат дзе не супадаюць (свядома зменены) імёны князёў: замест Скірмонта Красінскага спіса ў Познанскім дзейнічае Эрдзівіл, замест Неманаса — Выкент, Гіруса — Жывінбуд, Шварна — Скірмонт, Скіргайлы — Транята.

У летапіс Познанскага спіса ўключана таксама невялікая звестка пра князя Рагвалода-Васіля, сына полацкага князя Гінвіла, у выніку чаго некалькі змянілася генеалогія полацкіх князёў (у версіі аўтара легендарнай гісторыі Літвы). Калі ў тэксце летапісу Красінскага спіса князь Глеб і князёўна Параскоўя — дзеці Гінвіла, то ў Познанскім спісе яны—яго ўнукі і дзеці Рагвалода.

Далей, пасля пераліку сыноў Гедыміна, у летапісу Красінскага спіса выклад гісторыі Вялікага княства Літоўскага працягваецца звычайным парадкам, як і ў тэк-

---

[21] Канец Красінскага спіса, які не захаваўся цалкам, аднаўляецца паводле тэксту Патрыяршага А.

сце першага зводу. Ў летапісу ж Познанскага спіса непасрэдна за гэтым пералікам чытаецца апавяданне пра Біруту, якога няма ў спісе Красінскага. У апошнім няма таксама і звесткі пра далучэнне Вітаўтам Смаленска да Вялікага княства Літоўскага, якая чытаецца ў Познанскім спісе пад 1404 г. Акрамя таго, у гэтым спісе ў параўнанні са спісам Красінскага дадаткова скарочана «Пахвала Вітаўту» і адрэдагаваны некаторыя мясціны летапіснага тэксту.

Найбольш значна адрозніваюцца сваім складам названыя спісы ў канцы тэксту. У летапісу Красінскага спіса самая позняя звестка храналагічна адносіцца да 1517 г. (паведамленне пра смерць сястры караля Жыгімонта Казіміравіча). Прычым тут няма ніводнага паведамлення пра падзеі другой палавіны XV ст. і змешчана толькі некалькі кароткіх звестак пачатку XVI ст. Непараўнальна больш шырока адлюстравана гісторыя Вялікага княства Літоўскага другой палавіны XV — першай палавіны XVI ст. у летапісу Познанскага спіса, дзе мы знаходзім вялікую колькасць звестак за адзначаны перыяд, запазычаных з розных крыніц. У апошняй звестцы (апавяданні пра караля Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл) апісваюцца падзеі 1546—1548 гг. Гэты новы ў параўнанні з летапісам Красінскага спіса матэрыял складае ў Познанскім спісе каля адной пятай усяго яго тэксту.

Больш таго, летапіс Красінскага спіса складаецца з дзвюх асобных, самастойных частак, якія адпаведна названы: «Лѣтописець Великого князьства Литовского и Жомоицьского» і «(З) кроиники о великих князех литовскых». У Познанскім спісе гэтыя часткі арганічна аб'яднаны пад агульнай назвай «Лѣтописец Великого князства Литовского и Жомоитского», але ў тэкст дадаткова ўведзены шматлікія падзагалоўкі, якіх

у летапісу Красінскага спіса няма: «О княжати Палемоне и о трех сынах его», «О княжати литовском Швинторозе, сыне Утенусове», «О великом князе Скирымонте», «О мужах латыгольских, як прышли у Жомоить» і г. д. Мы ўжо тут не спыняемся на больш дробных разыходжаннях як стылістычнага, так і сэнсавага парадку, якімі адрозніваюцца летапісы двух разгледжаных спісаў, хоць многія з гэтых разыходжанняў таксама выклікаӯны зменамі пэўнага, свядомага характару.

Прыведзеныя факты пераканаўча сведчаць, што Познанскі спіс прадстаўляе сабою новы этап у літаратурнай гісторыі тэксту таго летапісу, які чытаецца ў спісе Красінскага. Перад намі, несумненна, тэксты летапісу дзвюх розных рэдакцый.

Яшчэ больш здзіўляе тая акалічнасць, што да адной і той жа кароткай рэдакцыі адносяцца Супрасльскі і Віленскі спісы — два зусім розныя летапісныя помнікі. А між тым «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» — твор, які чытаецца ў Віленскім спісе,—узнік раней летапіснага зводу, што захаваўся ў Супрасльскім і блізкіх да яго спісах, і складае ў апошнім толькі невялікую частку яго тэксту.

Такім чынам, недасканаласць найбольш распаўсюджанай схемы класіфікацыі спісаў беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік (падзел на тры рэдакцыі), яе неадпаведнасць фактычнаму стану рэчаў зусім відавочныя. Пры больш глыбокім знаёмстве са зместам і складам кожнага спіса выяўляецца, што дакладна карыстацца гэтай класіфікацыяй практычна немагчыма, таму што ў некаторых летапісных рэдакцыях даволі лёгка вылучаюцца не толькі новыя рэдакцыі, але нават і новыя летапісныя помнікі. Відаць, не выпадкова такі сур'ёзны даследчык беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік, як Ф. Сушыцкі, блытаючыся, часамі называў адзін і той жа

летапіс то асобным зводам, то асобнай рэдакцыяй, а спісы адной і той жа рэдакцыі дадаткова падзяляў яшчэ на лакальныя групы. Але ў яго не хапіла рашучасці цалкам адмовіцца ад традыцыйнай схемы.

Недасканаласць сучаснай класіфікацыі выразна відаць нават у саміх назвах рэдакцый беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. Напрыклад, летапіс Красінскага, Румянцаўскага і Познанскага спісаў называецца больш поўнай, пашыранай рэдакцыяй у параўнанні з летапісам тыпу Супрасльскага спіса, хоць у першым амаль цалкам апушчаны рускі летапіс — асноўная частка тэксту летапісу Супрасльскага спіса. Гэты спіс кароткай рэдакцыі сваімі памерамі намнога пераўзыходзіць любы спіс пашыранай рэдакцыі, г. зн. фактычна з'яўляецца больш поўным. Часткі, запазычанай з рускіх летапісаў, няма таксама і ў спісе поўнай рэдакцыі.—спісе Быхаўца.

Як бачым, назвы рэдакцый (кароткая, пашыраная і поўная) няўдалыя. Ужыванне іх было б апраўдана толькі ў тым выпадку, калі б у летапісу так званай кароткай рэдакцыі не было рускай часткі, апушчанай у наступных рэдакцыях, паколькі колькасць мясцовага арыгінальнага матэрыялу ў нашых летапісах сапраўды няспынна павялічваецца ад рэдакцыі да рэдакцыі. І ў тым, што ў дадзенай класіфікацыі існаванне адной з найбольш важных састаўных частак летапісу кароткай рэдакцыі як бы не бярэцца пад увагу, яшчэ адзін сур'ёзны яе недахоп.

Падзел беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік на тры асобныя рэдакцыі быў фактычна першым вопытам іх навуковай класіфікацыі, якая, несумненна, адыграла станоўчую ролю ў вывучэнні гэтых помнікаў. Аднак на сёння традыцыйная класіфікацыя ўжо безнадзейна ўстарэла: яна не адпавядае нашым ведам пра беларуска-літоўскія летапісы і хронікі, сучаснаму ўзроўню развіцця

філалагічнай навукі. Занадта агульная, прыблізная гэта класіфікацыя не адлюстроўвае ўсёй разнастайнасці і складанасці літаратурнай гісторыі тэксту кожнага летапіснага помніка і перашкаджае больш дэталёвай і дакладнай дыферэнцыяцыі летапісных спісаў. Не будзе перабольшаннем сказаць, што яна стрымлівае сёння далейшае вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання XV—XVI стст. Таму надышоў час рашуча ад яе адмовіцца.

Галоўны недахоп агульнапрынятай схемы класіфікацыі ў тым, што яе аўтары і прыхільнікі зыходзяць або павінны зыходзіць з палажэння, быццам усе вядомыя спісы беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік—гэта адзін летапісны помнік, адзін звод, які захаваўся ў трох рэдакцыях. Калі летапісны тэкст узнік на аснове аднаго папярэдняга, то часамі бывае сапраўды цяжка адрозніць, ці перад намі новы помнік, ці новая рэдакцыя старога. Калі ж новы тэкст узнікае на аснове некалькіх асобных твораў, то такое творчае спалучэнне, як правіла, дае новы помнік.

Вядомы тэкстолаг і знаўца старажытнай рускай літаратуры Д. Ліхачоў рэкамендуе ўлічваць для адрознення новага помніка ад новай рэдакцыі старога наступныя дзве акалічнасці: «Новы летапісны помнік павінен або вельмі значна (больш значна, чым іншыя літаратурныя жанры) перапрацаваць тэкст ранейшага помніка, або ён павінен аб'яднаць і перапрацаваць некалькі папярэдніх летапісных твораў» [22].

Што ж такое пашыраная рэдакцыя нашых летапісаў у параўнанні з кароткай у святле гэтых крытэрыяў? Так званая кароткая рэдакцыя, прадстаўленая спісамі тыпу

---

[22] Д. С. Лихачев. Текстология. На материале русской литературы X—XVII вв. М.— Л., 1963, стар. 352.

Супрасльскага,—гэта летапісны звод, які ўзнік на аснове перапрацоўкі і злучэння трох галоўных крыніц: агульнарускай, смаленскай і «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». У сваю чаргу кожная з гэтых састаўных частак увабрала ў сябе па некалькі асобных твораў. Так, паводле вывадаў А. Шахматава, руская частка гэтага беларуска-літоўскага летапісу ўкладзена на аснове маскоўскага мітрапалітавага зводу 1446 г., Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў[23]. Далей у кароткім зводзе змешчаны Смаленская хроніка, «Пахвала Вітаўту» і кароткі смаленскі летапіс — творы смаленскага паходжання. У складзе яго апошняй часткі, акрамя ўласна «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», чытаецца яшчэ аповесць пра Падолле — асобны гістарычны твор. Самая позняя звестка летапісу кароткай рэдакцыі адносіцца да 1446 г.

Летапіс жа пашыранай рэдакцыі адкрываецца зусім новым творам — «Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», у якой перадаецца легендарная гісторыя Літвы ад міфічнага князя Палемона да Гедыміна. Акрамя таго, у гэты летапіс дадаткова ўключана вялікая колькасць звестак за другую палавіну XV — першую палавіну XVI ст. (у апошняй з іх апавядаецца пра падзеі 1548 г.). Увесь агульнарускі летапіс, за выключэннем некалькіх звестак, у спісах пашыранай рэдакцыі апушчаны. З летапісу папярэдняй, кароткай рэдакцыі запазычаны толькі арыгінальныя творы мясцовага паходжання: «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», Смаленская хроніка з «Пахвалой Вітаўту» і некалькі смаленскіх запісаў пра падзеі 30 — першай палавіны 40-х гадоў XV ст. Гэтыя творы былі значна перапрацаваны і больш цесна і арганічна, чым у летапісу карот-

[23] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М., 1938, стар. 345.

кай рэдакцыі, аб'яднаны паміж сабою, а таксама з «Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». Акрамя таго, аўтар (ці аўтары) пашыранай рэдакцыі правялі моўную, стылявую і сэнсавую апрацоўку тэксту, запазычанага з папярэдняга летапісу. Наступныя летапісцы апусцілі таксама з летапісу кароткай рэдакцыі асобныя выразы і сказы, скарацілі цэлыя абзацы тэксту, а іншыя месцы значна пашырылі.

Такім чынам, летапіс пашыранай рэдакцыі таксама звод, але звод іншы, які ўзнік не на аснове аднаго ранейшага помніка, а на аснове перапрацоўкі і аб'яднання ў адно цэлае рада асобных твораў, у тым ліку і зусім новых. У большасці спісаў другога зводу (Альшэўскім, Румянцаўскім і інш.) новы матэрыял складае каля палавіны ўсяго тэксту, а ў такіх спісах, як Познанскі і Еўраінаўскі,— амаль дзве трэція яго агульнага аб'ёму. І калі да гэтага дадаць яшчэ, што зводы, прадстаўленыя кароткай і пашыранай рэдакцыямі, узніклі ў розны час і ў розных месцах, створаны рознымі аўтарамі і з рознымі ідэйна-палітычнымі мэтамі і да таго ж істотна адрозніваюцца паміж сабою характарам выкладання падзей (першы звод — у аснове сваёй летапіс, другі — хроніка), то стане відавочным, што перад намі два асобныя летапісныя помнікі. І кожны з іх — пэўны этап у гісторыі развіцця ўсяго летапіснага жанру на Беларусі і ў Літве.

З двума папярэднімі летапіснымі зводамі генетычна звязана і «Хроніка Быхаўца» — адзіны прадстаўнік так званай поўнай рэдакцыі. Як паказваюць склад і характар выкарыстання крыніц у «Хроніцы Быхаўца», у цэлым гэты твор — таксама асобны летапісны звод, новы гісторыка-літаратурны помнік.

Значыць, так званыя тры рэдакцыі — гэта па сутнасці тры асобныя летапісныя зводы, прадстаўленыя

трыма рознымі групамі спісаў. Аднак агульная колькасць летапісных помнікаў, што чытаюцца ва ўсіх вядомых сёння спісах агульнадзяржаўных беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік, не адпавядае дакладна колькасці традыцыйных рэдакцый. Справа ў тым, што ў складзе кароткай рэдакцыі вылучаецца яшчэ адна, чацвёртая група спісаў (Віленскі, Дуброўскага, Пагодзінскі і інш.), якая прадстаўляе сабою помнік, што ні сваім паходжаннем, ні складам, ні характарам не тоесны ніводнаму з трох беларуска-літоўскіх летапісных зводаў. «Лѣтописець великых князеи литовскых», як называецца гэты твор у Супрасльскім і Акадэмічным спісах, узнік незалежна ад першага зводу і раней за яго, а пасля ўвайшоў у склад апошняга як яго састаўная частка. Зразумела, што «Летапісец» — таксама асобны помнік. Гэта і пацвярджаюць яго спісы — сведкі незалежнага ад іншых беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік, самастойнага яго бытавання.

Такім чынам, у залежнасці ад свайго складу, зместу і апрацоўкі летапіснага тэксту ўсе вядомыя спісы беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік падзяляюцца на чатыры групы: «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» — «Origo regis»[24], Віленскі, Дуброўскага, ЦДАСА № 20/25, Пагодзінскі і БАН № 34.4.32; першы звод — Нікіфараўскі, Акадэмічны, Супрасльскі і Слуцкі; другі — Красінскага, Патрыяршы А., Альшэўскі, Археалагічнага таварыства, Румянцаўскі, Патрыяршы Б., Ціханравава, Познанскі і Еўраінаўскі; трэці — спіс Быхаўца. У аснове кожнай з гэтых груп спісаў ляжыць самастойны

---

[24] «Origo regis» — лацінскі пераклад твора, які быў пакладзены ў аснову «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» і далейшая літаратурная гісторыя тэксту якога аказалася арганічна звязанай з гэтым апошнім.

летапісны помнік, што дадаткова пацвярджаецца яшчэ наяўнасцю ў іх сваіх асобных рэдакцый [25].

У прапанаваную класіфікацыю не ўкладваюцца толькі два спісы, Архангельскі і ЦДАСА № 365/815, якія патрабуюць спецыяльнага даследавання. Летапіс гэтых спісаў, відаць, будзе больш правільным лічыць асобным помнікам рускага паходжання, нягледзячы нават на тое, што адной з асноўных крыніц яму паслужыў першы беларуска-літоўскі звод новай рэдакцыі.

Неабходна таксама адзначыць, што не ўсе летапісныя помнікі Беларусі і Літвы XV—XVI стст. маюць свае сталыя назвы. Толькі назвы самай першай беларуска-літоўскай хронікі («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх») і трэцяга летапіснага зводу («Хроніка Быхаўца») даволі даўно ўсталяваліся ў навуцы і іх можна лічыць агульнапрынятымі. Другі летапісны звод часцей за ўсё называецца «Летапісцам Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» ў адпаведнасці з загалоўкам аднаго з найбольш поўных яго спісаў, Познанскага, дзе чытаецца: «Лѣтописец Великого князства Литовского и Жомоитского». Аднак у некаторых іншых спісах гэты «Летапісец» называецца «Хронікай»: «Wielkiego księstwa Litewskiego i Żmodskiego *kronika*» (Альшэўскі спіс), «*З кройники* [26] Великаго княжства Литовского и Жомоитскаго» (Румянцаўскі спіс). Ад «кронікі», пэўна, паходзіць і «*Книга* Великого княжства Литовскаго и Жемоицкаго» (Еўраінаўскі спіс).

На наш погляд, слова «хроніка» ў назве другога беларуска-літоўскага зводу больш апраўдана і больш першапачатковае, чым «летапісец». Гэты помнік быў скла-

---

[25] В. А. Чамярыцкі. Беларускія летапісныя зводы і іх рэдакцыі, стар. 86—94.

[26] У рукапісу памылкова: «Закройники...»

дзены з двух асобных твораў: «*Хронікі* Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» (легендарнай гісторыі Літвы) і «*Летапісца* вялікіх князёў літоўскіх», запазычанага з папярэдняга летапіснага зводу. Паколькі тэкст другога зводу адкрываўся «Хронікай...», а не «Летапісцам...», то яе назва аўтаматычна перайшла затым і на ўвесь звод (Альшэўскі, Румянцаўскі спісы). Але адзін з перапісчыкаў, свядома ці несвядома, пераблытаў першыя словы ў назвах гэтых дзвюх састаўных частак, падаўшы спачатку назву «*Летапісец* Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», а пасля — «*Хроніка* вялікіх князёў літоўскіх» (гл. спіс Красінскага). Так узнік новы варыянт назвы другога зводу (Познанскі спіс).

Назва «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» ўяўляецца нам больш прымальнай яшчэ і таму, што яна цалкам адпавядае жанравай прыродзе другога беларуска-літоўскага зводу і не выклікае тэрміналагічнай блытаніны: традыцыйную назву «Летапісец» носіць адзін пэўны помнік нашага летапісання, іменна «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Што ж датычыцца першага зводу, то ён мае ўсе падставы называцца першым беларуска-літоўскім летапісам [27].

Думаецца, што прапанаваная класіфікацыя, якая ўзнікла ў выніку спецыяльнага вывучэння летапісных тэкстаў і сінтэзу накопленага папярэднімі даследчыкамі вопыту, з'яўляецца больш дасканалай, чым агульнапрынятая сёння: яна знімае шмат якія недарэчнасці існуючай класіфікацыі і лепей улічвае літаратурную гісторыю

---

[27] У «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 1. Мінск, 1968) тры беларуска-літоўскія летапісныя зводы названы намі адпаведна Беларускім I, Беларускім II і Беларускім III летапісамі. Гэтыя назвы ўведзены галоўным чынам для таго, каб палегчыць успрыняцце беларускім чытачом зусім новага для яго матэрыялу.

беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. Акрамя таго, яна дае магчымасць больш дакладна вылучаць асобныя рэдакцыі гэтых помнікаў, што будзе садзейнічаць больш глыбокаму іх вывучэнню.

## КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СПІСАЎ ПЕРШАГА ЗВОДУ

Першы беларуска-літоўскі летапіс, які складаецца з трох асноўных частак, кароткай выбаркі з рускіх летапісаў, смаленскай крыніцы і «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», захаваўся ў чатырох спісах: Нікіфараўскім, Акадэмічным, Супрасльскім і Слуцкім. Усе гэтыя спісы дэфектныя: у Слуцкім і Нікіфараўскім няма ні пачатку, ні канца, згублена таксама большая частка тэксту Акадэмічнага спіса. Толькі ў Супрасльскім спісе першы звод захаваўся амаль не пашкоджаны часам.

Супрасльскі спіс у параўнанні з іншымі найбольш поўны; у ім, за выключэннем пропуску асобных звестак (за 985, 986, 990, 1329, 1330 гг., частка апавядання 1237 г. і інш.), прадстаўлены ўсе састаўныя часткі першага беларуска-літоўскага летапісу. У той жа час у Нікіфараўскім спісе апушчан рад звестак за другую палавіну XIII—XIV ст. і зусім няма «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». Шмат звестак (асабліва пачатку XV ст.) не хапае і ў Слуцкім спісе, у якім да таго ж значна скарочаны пачатак першага зводу: выклад гісторыі Кіеўскай Русі пачынаецца ў гэтым спісе не з 854 (6362) г., як у Супрасльскім, а з часоў Уладзіміра Святаславіча, з 970 (6478) г.[28]

---

[28] У беларускім летапісанні XV ст. летазлічэнне вядзецца ад «стварэння свету», якое адрозніваецца ад летазлічэння «ад нараджэння Хрыста» на 5508 г.

Названыя спісы не тоесныя і парадкам размяшчэння састаўных частак летапісу. У Супрасльскім і Акадэмічным спісах звод адкрывае выбарка з рускіх летапісаў, пасля якой змешчана некалькі твораў смаленскага паходжання і «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Як сведчыць вядомая частка рукапісу, у такой паслядоўнасці размешчаны матэрыял і ў Нікіфараўскім спісе.

Сваёй яркавыражанай індывідуальнасцю вылучаецца Слуцкі спіс. Ён адкрываецца «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх», пасля якога змешчана частка рускіх звестак (за 1395—1418 гг.), затым — аповесць пра Падолле (ёю заканчваецца першы беларуска-літоўскі звод у Супрасльскім спісе), далей чытаецца смаленская крыніца, і толькі ў канцы змешчана выбарка з рускіх летапісаў, дадаткова скарочаная.

Парадак размяшчэння састаўных частак першага беларуска-літоўскага летапісу ў Слуцкім спісе ўяўляецца нам другасным у адносінах да таго, які мы маем у Супрасльскім спісе. Такое размяшчэнне з'яўляецца менш натуральным і арганічным, больш штучным, а значыць, і больш познім. Усё гэта настолькі відавочна, што, думаецца, не патрабуе спецыяльных доказаў. Таму ўслед за С. Смолькам [29] і А. Шахматавым [30] мы лічым парадак размяшчэння асобных частак першага зводу, пададзены ў Супрасльскім спісе, больш раннім, больш блізкім да пратографа, чым у Слуцкім спісе. Такім чынам, Супрасльскі спіс і сваёй паўнатою і парадкам размяшчэння састаўных частак з'яўляецца найбольш дакладным ал-

---

[29] S. Smolka. Najdawniejsze pomniki dziejopisarstwa rusko-litewskiego. Rozbiór krytyczny. Pamiętnik Akademii Umiejętności w Krakowie. Wydziały: filologiczny i historyczno-filozoficzny. T. VIII. Kraków, 1890, s. 16.

[30] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 329—330.

біткам агульнага пратографа, а таму яго трэба лічыць і найбольш тыповым сярод іншых спісаў першага беларуска-літоўскага летапісу.

Але ці можна прызнаць Супрасльскі спіс самым блізкім да арыгіналу першага беларуска-літоўскага летапісу, самым старажытным і сваім тэкстам? Адказ на гэта пытанне не складаў бы праблемы, калі б нам быў вядомы аўтарскі арыгінал складальніка разглядаемага зводу. Паколькі ж арыгінал не захаваўся, нам даводзіцца супастаўляць тэкст вядомых спісаў з тымі рускімі летапісамі, у якіх непасрэдна ці ўскосна адбілася крыніца, блізкая да рускай крыніцы першага беларуска-літоўскага летапісу.

Тэкст агульнарускай часткі пратографа Супрасльскага спіса, як устанавіў А. Шахматаў[31], блізкі да: 1) Наўгародскага 4-га (звесткі да 1309 г. уключна); 2) Сімяонаўскага, Ніканаўскага і часткова Васкрасенскага (з 1310 да 1388 г.); 3) Сафійскага 1-га (з 1383 да 1418 г.)[32] і 4) Ніканаўскага (з 1419 да 1446 г.) летапісаў. Супастаўленне тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу паводле ўсіх вядомых спісаў з адпаведнымі мясцінамі названых рускіх летапісаў дае вельмі важныя для нас разначытанні, класіфікацыя і аналіз якіх дазваляюць даволі дакладна вызначыць месца кожнага з іх у адносінах да тэксту агульнага пратографа.

Назіранні паказваюць, што запазычаная частка тэксту Нікіфараўскага спіса больш блізкая да рускіх летапісаў, чым тэкст Супрасльскага і Слуцкага спісаў.

---

[31] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 335—338.

[32] Калі быць больш дакладным, то фактычна супадзенне тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу з Сафійскім 1-м пачынаецца не са звестак 1383, а 1385 г. (гл.: М. Д. Приселков. История русского летописания XI—XV вв. Л., 1940, стар. 156—157).

| *Наўгародскі 4-ы летапіс (Н.-4) і Нікіфараўскі спіс* | *Супрасльскі і Слуцкі спісы* |
|---|---|
| 6488 г. «нам их не переборо-ти» | «нам их не перебити» |
| «Стрибога» | «Дисьтриб(ог)а» (Супр.) «Дисотирьбога» (Сл.) |
| 6496 г. «от востока» | «на востоце» (Супр.) «на устоце» (Сл.) |
| 6745 г. «князя Володимеря Юрьевича взяша в полон» (Н.-4), «князя Владимера Юрьевича яша» (Нік.) | «князя Юря Володимиро-вича яша» |
| 6746 г. «княже, обошли нас около» | «княже, больше нас окол» |
| «до Шереньскаго лѣса» | «до Шарского лѣса» |
| «мужество и ум в нем жи-вяше» | «мужество в нем живя-ше»[33] |
| 6747 г. «и ведоша и в Глу-хов» | «и ведоша и к глухом»[34] |
| 6748 г. «услыщааше шюм страшен» (Н.-4), «услыша шум страшны» (Нік.) | «услышавшим страшны» |
| «слышавшю ему о Данилѣ» | «и слышавши о Даниле»[35] |

Мы павінны былі абмежавацца тут супастаўленнем толькі часткі рускага летапісу да 1240 г. уключна ў скла-

[33] Разначытанні звестак 6746 г. падаюцца толькі паводле Супрасльскага спіса, бо ў Слуцкім тут пропуск.

[34] У беларускіх спісах пад 6746 г.

[35] ПСРЛ, т. IV, ч. 1. Новгородская четвертая летопись. Вып. 1. Пг., 1915. Тэкст Нікіфараўскага спіса падаецца паводле рукапісу (БАН, № 45.11.16), астатніх спісаў першага зводу паводле друкаванага выдання (ПСРЛ, т. XVII).

дзе нашага зводу, бо Слуцкі спіс наступных звестак (за 1241—1394 гг.) не захаваў. Але і змешчаныя прыклады яскрава сведчаць, што Нікіфараўскі спіс бліжэй сваім тэкстам да Наўгародскага 4-га летапісу, чым Супрасльскі і Слуцкі. Гэта яго падабенства добра відаць і ў тых звестках за IX і X стст., якіх няма ў Слуцкім спісе. Амаль заўсёды, дзе Супрасльскі спіс разыходзіцца ў чытанні тых ці іншых мясцін з Наўгародскім 4-м летапісам, Нікіфараўскі спіс паўтарае тэкст апошняга. Разам з тым здзіўляючая ўзгодненасць асобных чытанняў у Супрасльскім і Слуцкім спісах дае магчымасць гаварыць аб якойсьці аўтаномнай іх сувязі паміж сабою. Гэта пацвярджаецца і параўнаннем пропускаў асобных звестак і выразаў у абодвух спісах.

Супастаўленне ўсіх вядомых спісаў першага беларуска-літоўскага зводу паміж сабою і з рускімі летапісамі дае магчымасць таксама выявіць у кожным са спісаў свае індывідуальныя чытанні, прычым найбольш іх у Супрасльскім і найменш у Нікіфараўскім. Вось некаторыя з індывідуальных чытанняў Супрасльскага спіса.

| *Рускія і беларускія спісы* | *Супрасльскі спіс* |
|---|---|
| 6415 г. «повоева около града» | «повоева окол грады» |
| «у святого Мамы» (Н.-4, С.-1) [36], «у святого папы» (Нік.) | «у старшего папы» |
| «с царевым мужем» | «с церкви мужем» [37] |

[36] Наўгародскі 4-ы і Сафійскі 1-ы летапісы.

[37] Звесткі 6415 г. у беларускіх спісах чытаюцца ў летапісным артыкуле, датаваным 6389 г.

| | |
|---|---|
| 6453 г. «у Коростеня города в Деревѣх» | «у Коростеня города во дверех» [38] |
| 6496 г. «Изяслава в Полоцку» | «Святослава в Полоцку» |
| 6851 г. «Костентину Васильевичю» | «Костентину Ивановичю» [39] |
| 6873 г. «на землю Разаньскую» (Ак.) [40] «на Рязанскую землю» (Сім.) [41] | «на землю Рускую» |
| 6905 г. «князь Василий Смоленьский» (С.-1, Нік.) | «...Московскыи» |
| 6906 г. «и на том на всем» (С.-1, Нік., Сл.) | «и потом на всем» |
| 6915 г. «пригороды» (С.-1, Нік.) [42] | «три городы» |

Сваімі адметнымі чытаннямі вызначаецца і Слуцкі спіс. Напрыклад, у ім падаецца: «в *Черныи* град» замест «Печернии» (звесткі 6745 г.), як чытаецца ў рускіх летапісах і іншых беларускіх спісах; «*поби* три коробли»— «погуби», «*бега тыи* в город» — «бѣ Батыи у города», «взя *богатырскую* землю» — «Болгарскую» (6748 г.); «князь Феодор Патрикеевич *Волоскии*» — «Волыньскии» (6906 г.); «Дмитрия, Даниля» — хоць правільна «Дмитрия да Илью» (6926 г.) і інш.

---

[38] У беларускім зводзе пад 6421 г.

[39] Звестак гэтага года, якія чытаюцца ў беларускіх спісах, у рускіх летапісах няма.

[40] Акадэмічны спіс першага зводу.

[41] Сімяонаўскі летапіс (ПСРЛ, т. XVIII. СПб, 1913).

[42] Сафійскі 1-ы летапіс выкарыстоўваецца намі па двух выданнях: ПСРЛ, т. V. Софийская первая летопись. Вып. 1. Л., 1925; ПСРЛ, т. V. Псковские и софийские летописи. СПб, 1851.

Няцяжка заўважыць, што большасць індывідуальных чытанняў Супрасльскага і Слуцкага спісаў — несумненныя памылкі, якія ўзніклі ад розных прычын, але, відаць, найчасцей у выніку звычайнай няўважлівасці перапісчыкаў гэтых спісаў. Такіх памылковых чытанняў Нікіфараўскі спіс амаль зусім не мае, і гэта пераканаўча сведчыць аб тым, што ён больш дакладна,. чым іншыя спісы першага беларуска-літоўскага летапісу, адлюстроўвае тэкст агульнага пратографа.

Нашы вывады былі дагэтуль заснаваны выключна на аналізе розначытанняў рускай часткі першага беларуска-літоўскага летапісу. Аднак супастаўленне тэксту і смаленскай крыніцы гэтага зводу, паводле ўсіх спісаў, як і трэба было чакаць, дадаткова падмацоўвае папярэдне выказаныя думкі. Параўнаем толькі адну частку гэтай крыніцы, так званую Смаленскую хроніку, якая змешчана ў першым беларуска-літоўскім летапісу пад 6939 (1430) г.

| *Нікіфараўскі і Акадэмічны спісы* | *Супрасльскі і Слуцкі спісы* |
|---|---|
| «на память святого апостола Якова» | «на паметь святого Якова» |
| «придоша в свою землю к Борисову» | «придоша ко Борисову» |
| «распусти силу свою руськую» | «роспусти вои свои» |
| «приде на Руськую землю идоша к Мстиславлю и сташа под Мстиславлем» | «приде на Литовскую землю и сташа под Мстиславлем» |

Розначытанні, якія выяўляюцца пры супастаўленні тэксту Смаленскай хронікі ва ўсіх вядомых спісах, з ад-

нага боку, пацвярджаюць наша папярэдняе меркаванне аб лакальнай блізкасці Супрасльскага і Слуцкага спісаў паміж сабою, а з другога — даюць матэрыял для некаторых новых вывадаў. Назіранні паказваюць, што тыя чытанні, якімі Нікіфараўскі спіс адрозніваецца ад Супрасльскага і Слуцкага спісаў, збліжаюць яго з Акадэмічным спісам. Такія ж вынікі дае і параўнанне той невялікай часткі агульнарускага летапісу, што захавалася ў Акадэмічным спісе, з адпаведнымі мясцінамі Нікіфараўскага спіса. Карацей кажучы, Акадэмічны спіс сваім тэкстам бліжэй да Нікіфараўскага, чым да Супрасльскага і Слуцкага. Наогул жа спісы першага беларуска-літоўскага летапісу аддаляюцца ад тэксту агульнага пратографа ў наступнай паслядоўнасці: Нікіфараўскі — Акадэмічны — Супрасльскі — Слуцкі.

Важныя ўдакладненні да атрыманых намі назіранняў дае тэксталагічнае супастаўленне «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» паводле ўсіх вядомых спісаў. Праўда, ні ў адным спісе тэкст гэтага помніка не захаваўся цалкам. Гэта тлумачыцца тым, што ва ўсіх спісах разглядаемага летапісу «Летапісец» заўсёды займаў месца або ў канцы зводу, або ў яго пачатку. Паколькі ж фізічнаму зношванню хутчэй за ўсё падлягалі першыя і апошнія старонкі рукапісаў, то іменна тэкст «Летапісца» і аказаўся з цягам часу сапсаваным у большасці спісаў. Так, у Слуцкім спісе няма пачатку «Летапісца», у Акадэмічным няма яго заключнай часткі, а ў Нікіфараўскім гэты твор не захаваўся зусім. Нават у найбольш поўным Супрасльскім спісе «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» мае два значныя пропускі. У адным месцы прапушчаны апісанне паходу Януша Мазавецкага на гарады Берасцейскай зямлі, а таксама паведамленні пра злучэнне войск Кейстута і Вітаўта пад Коўна і аблогу імі Трок (ад слоў «и приязни цестя своего» і да «первое немци

обоим неприятели были: и князю великому Кестутию...» уключна) [43]. У канцы «Летапісца» ў Супрасльскім спісе няма звестак пра сустрэчу князёўны Соф'і Вітаўтавай у Маскве, пра атрыманне Вітаўтам віленскага велікакняскага стала і пра яго барацьбу з Карыбутам і Свідрыгайлам (ад слоў «и стретиша великую княжну Софью» і ўключна да слоў «Витовт возма град Витебск и поидѣ пакы к Вилни. Тое ж зимы...»)[44].

Дэфектнасць тэксту «Летапісца» ў большасці спісаў першага беларускага зводу ў якойсьці меры кампенсуецца тым, што гэты помнік часткова захаваўся і ў некаторых іншых рукапісах. Асабліва каштоўны Віленскі спіс і «Origo regis».

Параўнанне ўсіх найбольш важных спісаў «Летапісца» дае магчымасць узнавіць самы поўны тэкст, максімальна блізкі да архетыпу, а таксама выявіць характэрныя, індывідуальныя асаблівасці кожнага са спісаў. Прычым даныя гэтага супастаўлення ў асноўным супадаюць з высновамі, атрыманымі ў выніку аналізу рознычытанняў першых дзвюх частак нашага летапісу.

| *Акадэмічны і Віленскі спісы* | *Супрасльскі і Слуцкі спісы* |
|---|---|
| «...а тои жонцѣ оставити бы в неи, *в которых портѣх выидеть вон, и пак его научить.* И он нарядився...» | «...а тои жонцѣ остати бы в него. И он наредився...» |
| *«Сына же его, князя Юрья, князь великии Скиргаило* обрѣтеся у трупех [45] много | Акрамя выдзеленых слоў, астатняя частка тэксту тут прапушчана |

[43] ПСРЛ, т. XVII, сл. 75, 145—146, 195—196.
[44] Там жа, сл. 80, 93—94, 201—203.
[45] У Акадэмічным спісе тут памылка: «у Троцех».

| | |
|---|---|
| ранена, толко жива суща, и взя его и нача его лѣчити многими лѣкарствы и главу ему постриже ран ради, зане много раненьи, очаявся бе живота». | |
| Вітаўт «съвѣт сотвори со многими князьми и бояры[46] *Литовскои земли*» | «...литовскими» |
| «...князя *Василья* Костянтиновича» | «...Глеба Костентиновича» |
| «Тогда же нѣмци убиша князя *Коргаила*» | «...Скиригаила» |
| «...их же срама ради не писахом» | «...их же скаредно не писахом» (Супр.); «...иж грозы ради не писахом» (Сл.)[47] |

Пададзеныя прыклады яшчэ раз сведчаць аб блізкай узаемасувязі Супрасльскага і Слуцкага спісаў. Разам з тым гэта параўнанне ўказвае на цесную сувязь тэксту «Летапісца» ў Акадэмічным і Віленскім спісах. Аналіз усіх разначытанняў паказвае, што ў названых спісах захаваўся ў цэлым больш блізкі да арыгіналу тэкст гэтага помніка, чым у Супрасльскім і Слуцкім спісах.

Даныя тэксталагічнага супастаўлення першага беларуска-літоўскага летапісу паводле ўсіх вядомых спісаў даюць магчымасць сцвярджаць таксама, што найбольш сапсаваны тэкст першага зводу захаваўся ў Супрасльскім спісе. Мы гаворым іменна сапсаваны, бо пераваж-

---

[46] У Віленскім: «паны».

[47] У левым слупку тэкст падаецца паводле Акадэмічнага спіса, у правым — паводле Супрасльскага.

ная большасць індывідуальных чытанняў гэтага спіса — сведкі якраз не свядомай апрацоўкі тэксту перапісчыкам, а яго элементарнай няўважлівасці, або і проста невуцтва. Можна зразумець яго спробы перакласці некаторыя кніжныя словы на родную мову. Аднак калі гэты перапісчык замест «неприятели поляне» вывеў «не приняли поляне», замест «придоша ко Меньску» — «придоша ко Смоленску», князя Міхаіла Вяземскага Львовіча перарабіў на Валовіча (Смаленская хроніка), выраз «Турецкии царь» прачытаў як «ту рускы царь» («Пахвала Вітаўту»), замест «местичи виленьскии» падаў «местить великых», замест «присла арцибискуп бискупа» — «арцибискупа», «латыгалою» — «латыною» і інш. («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»), то ён толькі нарабіў памылак.

Трэба адзначыць, што ў Супрасльскім спісе больш, чым у іншых, самых разнастайных памылак, вялікая колькасць пропускаў асобных слоў, выразаў і цэлых сказаў, шматлікія перастаноўкі першапачатковага, натуральнага парадку слоў у сказе. І як да месца гучыць тут парадаксальны на першы погляд вывад англійскага тэкстолага А. Кларка, што «найлепшыя тыя рукапісы, якія перапісаны найбольш недасведчанымі пісцамі»[48]. І сапраўды, Супрасльскі рукапіс, спісаны ў 1519 г. такім няўважлівым перапісчыкам, усё ж захаваў для нас у максімальна поўным, першапачатковым выглядзе першы беларуска-літоўскі летапіс. І гэта здарылася, відаць, толькі таму, што гэты кніжнік, будучы простым капіістам, не дазволіў сабе або не ўзняўся да свядомай перапрацоўкі тэксту летапісу, да наўмыснага скарачэння яго звестак і да перагрупоўкі яго састаўных частак. Тыя ж змены і пропускі ў тэксце, якія выяўляюцца ў Супрасль-

[48] Д. С. Лихачев. Текстология, стар. 74.

скім спісе, атрымаліся ў большасці выпадкаў несвядома, супраць волі самога перапісчыка, а таму даволі лёгка могуць быць вызначаны як несумненныя памылкі.

Параўнанне тэксту агульнарускай часткі першага беларуска-літоўскага зводу з рускімі летапісамі (Наўгародскім 4-м, Сафійскім 1-м, Сімяонаўскім і інш.) выяўляе таксама розначытанні, агульныя для ўсіх ці амаль для ўсіх беларускіх спісаў.

| *У беларускіх спісах* | *У рускіх летапісах* |
|---|---|
| 6370 г. «и быша п(е)рвии *насилницы* в Киевѣ варязи» | правільна — «населници» |
| 6389 г. «не платячи *вина»* | 6415 г. «...вины» |
| 6496 г. «епископ же *рускыи...* крести его» | «...Корсуньскии...» |
| 6525 г. Яраслаў «прииде же *в Полыню»* | 6426 г. «...к Волыню» |
| 6746 г. «от вѣры чистыи имѣюще очи» | «отверьсты ему очи сердечныи» |
| 6748 г. «не имѣя во сердци» | «не имѣя страха и сердци» |
| «воевоша до *Мольдавы»* | «...до Володавы» |
| 6886 г. «у рѣкы у *Воложи»* | «...у Вожи» |
| 6917 г. «псковичи взяша мир *псковскым* повелѣнием» | «...новогородьским повелѣнием» |

Чытанні беларускіх спісаў з'яўляюцца другаснымі, больш познімі ў параўнанні з адпаведнымі мясцінамі рускіх летапісаў. Праўда, на падставе толькі гэтых прыкладаў было б няправільным рабіць вывад, што і ўвесь тэкст рускай часткі нашага зводу больш позняга паходжання, чым тэкст Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га

летапісаў. Той факт, што гэтыя чытанні аднолькава выяўляюцца і ў самым старажытным сваім тэкстам Нікіфараўскім спісе, і ў самым першапачатковым сваім складам Супрасльскім, сведчыць аб агульнасці паходжання ўсіх спісаў першага беларуска-літоўскага летапісу.

Такім чынам, даследаванне складу першага беларуска-літоўскага летапісу паводле ўсіх спісаў (Нікіфараўскага, Акадэмічнага, Супрасльскага і Слуцкага), супастаўленне і аналіз яго тэксту ў кожным спісе паасобку і ў параўнанні з адпаведнымі часткамі рускіх летапісаў паказваюць, што першапачатковы тэкст першага зводу не захаваўся ні ў адным з вядомых сёння летапісных спісаў. Найбольш поўным і блізкім да агульнага пратографа сваім складам з'яўляецца летапіс Супрасльскага спіса, а самы старажытны тэкст першага беларуска-літоўскага летапісу чытаецца ў Нікіфараўскім спісе. Значыць, максімальна поўны і блізкі да аўтарскага арыгіналу складальніка першага зводу летапісны тэкст можна атрымаць толькі на аснове зводнага тэксту ўсіх спісаў у сукупнасці.

## АГУЛЬНАРУСКАЯ ЧАСТКА І ЯЕ КРЫНІЦЫ

Першы беларуска-літоўскі звод складаецца з трох асноўных частак. Першыя дзве, агульнаруская сваім характарам і смаленская, аб'яднаны агульнай назвай — «Избрание лѣтописания изложено вкратце», трэцяя названа «Лѣтописець великых князеи литовскых». Першая частка, якая складае больш палавіны ўсяго тэксту нашага зводу, прадстаўляе сабою кароткую выбарку з рускіх летапісаў. У ёй выкладаецца палітычная гісторыя ўсходніх славян ад «начала земли Рустеи» (854 г.) і да 1446 г. уключна. Аднак у параўнанні з іншымі рускімі

зводамі першы беларуска-літоўскі летапіс перадае гэту гісторыю вельмі коратка, няпоўна. Па сутнасці перад намі толькі сціслы, «изложенный вкратце» нарыс гісторыі даўняй Русі. Нягледзячы на гэта, даследаванне рускай часткі мае вялікае значэнне не толькі для высвятлення паходжання і складу першага беларуска-літоўскага зводу, але і для ўзнаўлення больш поўнага і аб'ектыўнага малюнка рускага летапісання першай паловіны XV ст., паколькі ўкладальнік гэтага зводу шырока карыстаўся рускімі летапіснымі матэрыяламі свайго часу. Не выпадкова першы беларуска-літоўскі летапіс прыцягваў пільную ўвагу такіх выдатных даследчыкаў рускага летапісання, як А. Шахматаў і М. Прысёлкаў [49].

Вялікую цікавасць мае ў першую чаргу рэдактарская праца аўтара першага зводу над рускімі крыніцамі, а іменна, што і як ён прапускаў, скарачаў, апрацоўваў і з якой мэтай усё гэта рабіў. Праўда, супастаўляючы адпаведныя часткі першага беларуска-літоўскага летапісу з блізкімі да яго сваім тэкстам рускімі летапісамі (Наўгародскім 4-м, Сафійскім 1-м, Сімяонаўскім), мы зможам атрымаць толькі самае агульнае ўяўленне аб рэдактарскай працы беларускага летапісца, бо не маем першапачатковага тэксту тых рускіх зводаў, якімі ён карыстаўся.

Параўнанне першага беларуска-літоўскага летапісу з Наўгародскім 4-м (звесткі пра падзеі IX—XIII стст.) [50] паказвае, што аўтар нашага зводу не капіраваў сваю рускую крыніцу. Так, ён поўнасцю апусціў недатаваную аповесць пра ўсходнеславянскія плямёны, якою звычайна пачынаюцца ўсе летапісы, заснаваныя на «Повести

[49] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 329—345; М. Д. Приселков. История русского летописания XI—XV вв., стар. 155—158.
[50] ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 1. Пг., 1915.

временных лет». Замест яе беларускі летапісец змясціў кароткае «Сказание о вѣрных святых князех руських», а затым зрабіў, пачынаючы з 854 г., храналагічны выклад гісторыі Кіеўскай Русі.

Прытрымліваючыся сваёй задумы даць толькі кароткі нарыс гісторыі далёкага мінулага Русі, аўтар першага зводу адны звесткі прапускаў, а другія скарачаў. Спачатку ён абмінаў пераважна звесткі, якія не мелі непасрэдных адносін да гісторыі ўсходніх славян (пра цароў візантыйскіх і балгарскіх, пра Кірыла і Мяфодзія і інш.). Аднак заўважыўшы, што яго праца непамерна разрастаецца, ён пачаў больш рашуча прапускаць і звесткі па гісторыі Русі (за 992—1014, 1022—1036, 1055—1072 гг. і інш.). Таму цэлыя перыяды праўлення кіеўскіх князёў ад Рурыка і да Яраслава пададзены ў нашым летапісу надзвычай сцісла і ўрыўкава. Больш падрабязна апісаны толькі асобныя найбольш яркія і значныя эпізоды дзейнасці гэтых князёў, напрыклад паходы Алега на грэкаў, Уладзіміра на Кіеў і Корсунь і некаторыя іншыя. Гісторыя Кіеўскай Русі перарываецца ў нашым летапісу на 1074 г. («В лѣто 6582 преставися игумен Печерскыи»).

Яшчэ больш сцісла пададзена ў першым беларуска-літоўскім летапісу палітычная гісторыя ўсходніх славян за XII—XIII стст. Прычым летапісец апусціў усе звесткі за XII ст., а за другую палавіну XIII ст. скараціў настолькі, што ў тэксце гэтага зводу яны хутчэй нагадваюць храналагічную табліцу, чым звычайны летапіс:

В лѣто 6761 сѣде Александр на столѣ (въ) Владимери. (Того ж лѣта) воева князь Александр с новгородци [51].

---

[51] Першая звестка гэтага года прапушчана ў Супрасльскім спісе, другая — у Нікіфараўскім. Наступных звестак у Нікіфараўскім спісе няма.

В лѣто 6766 бысть число на всю Рускую землю царьства Батыева (в 21 лѣто).

В лѣто 6771 преставися князь Александр Ярославичь, княжив 10 лѣт во Володимери.

В лѣто 6788 Кирил митрополит крыл церков оловом святую Богородицю во Володимери.

В лѣто 6791 поставлен бысть Максим, митрополит греческый, на трети год ко Суздалию.

В лѣто 6793 заложена бысть камена церкви на Твери святы Спас и освещана бысть в лѣто 6798»[52].

Вельмі своеасабліва скарачаў і апрацоўваў звесткі аўтар першага беларускага зводу. Як правіла, ён не выпісваў усе звесткі аднаго года, а звычайна выбіраў адну-дзве з іх, якія, на яго думку, былі найбольш важнымі. Прычым ад некаторых запісаў беларускі летапісец пакідаў часамі толькі па адным сказе. Калі ж у рускім летапісу чыталася некалькі аднатыпных звестак, ён нярэдка выкладаў іх змест адным сказам. Напрыклад, у Наўгародскім 4-м летапісу пад 964 г. падаецца падрабязная характарыстыка князя Святаслава як воіна, а затым пад 965—968 гг. апісваюцца яго перамоганосныя паходы на хазар, ясаў, касогаў, вяцічаў, балгар і печанегаў. Агульны сэнс усіх гэтых паведамленняў летапісец перадаў адным сказам, які заключае звесткі 947 г.: «Князь Святослав, сын ея (княгіні Вольгі.— *В. Ч.*) възмужав и бысть храбор велми и приклони под свою руку земли многы». Вялікія памерам запісы, дэталёвыя апісанні падзей, дабрачынныя і павучальныя разважанні рускіх летапісцаў, дыялогі, маналогі і г. д. беларускі летапісец рашуча апускаў.

Бадай самай цікавай і арыгінальнай асаблівасцю рэдактарскай працы ўкладальніка першага беларуска-

---

[52] ПСРЛ, т. XVII, сл. 27.

літоўскага летапісу з'яўляецца яго імкненне будаваць на аснове асобных запісаў рускага летапісу звязнае, прагматычнае апавяданне. Ён смела зводзіць побач пад адну дату звесткі пра самыя розначасовыя падзеі, калі яны блізкія паміж сабою па тэме ці апавядаюць пра аднаго і таго ж героя. Так, у беларускім летапісу пад 881 (6389) г. змешчаны звесткі, якія чытаюцца ў Наўгародскім 4-м пад 881, 883, 903 і 907 гг., пад 913 (6421) г. — звесткі 913, 914, 941, 944, 945 і 946 гг., пад 947 (6455) г.— звесткі 947, 958 і 964 гг. Вось як, напрыклад, выглядае ў беларускай апрацоўцы пачатак гадавога артыкула 913 г.: «В лѣто 6421 начя Игорь княжити по Олгѣ, и деревляне заратишас(я) с Игорем. Иде Игорь на деревляны и побѣди я и дань възложи на них, болши Олговы. И по сих Игорь ходи на грекы и не одолѣ их, но отбѣжа в малѣ дружинѣ. И по сих пакы Игорь събрав всю свою силу, наят ж(е)[53] и печенегы и поиде на грекы...»[54] У Наўгародскім 4-м летапісу паход Ігара на драўлян апісаны пад 914 г., першы паход на грэкаў — пад 941 г., а наступны — пад 944 г.

Адчуваецца, што беларускі летапісец часамі арганічна не можа прыняць пагадовага спосабу выкладання падзей рускага летапісу, калі падзеі строга заключаны ў пагадовую рамку, калі звесткі, зусім розныя па свайму характару, далёкія тэматычна, аказваюцца побач, і, наадварот, апавяданне пра адны і тыя ж падзеі перабіваецца іншымі звесткамі і штучна дробіцца на часткі. Гэта парушае цэласнасць апавядання, разбурае яго прагматызм. І таму беларускі летапісец спрабуе вызваліцца з пут пагадовай рамкі і ліквідаваць нязручнасць летапіснага спосабу падачы гісторыі. Але ён не змог

[53] Відаць, тут трэба чытаць «поят же».
[54] Рукапіс БАН № 45.11.16, л. 255; ПСРЛ, т. XVII, сл. 7.

адолець супрацiўлення матэрыялу. Зрабiўшы некалькi нялёгкiх спроб, ён поўнасцю аддаецца стыхii рускага летапiсу — рэгулярна ставiць даты. I ўсё ж сам факт гэтага намагання, спроба карэнным чынам змянiць летапiсную форму вельмi паказальныя i надзвычай важныя для нас. Вiдавочна, укладальнiк першага беларуска-лiтоўскага летапiсу або адчуў моцны ўплыў твораў, напiсаных хранiкальным спосабам, або сам быў аўтарам якой-небудзь гiстарычнай хронiкi. Зазначым, што ў разглядаемым зводзе такiмi творамi з'яўляюцца Смаленская хронiка, у якой пад адным 1430 г. апiсаны падзеi 1430—1436 гг. i «Летапiсец вялiкiх князёў лiтоўскiх».

Далейшае параўнанне звестак першага беларуска-лiтоўскага летапiсу з iншымi рускiмi летапiсамi i ў першую чаргу з Сiмяонаўскiм (з 1310 г.) i Сафiйскiм 1-м (з 1385 г.) дае нам рад новых i не менш каштоўных фактаў. Вялiкая храналагiчная гушчыня звестак за XIV ст. паказвае, што ўкладальнiк першага беларускага зводу больш цiкавiўся падзеямi гэтага стагоддзя, чым папярэднiх. Яго няцяжка зразумець: падзеi XV ст., у якiм ён сам жыў, знаходзiлiся ў большай сувязi з падзеямi папярэдняга, XIV ст., чым з падзеямi даўномiнулых эпох. Палiтычная дзейнасць некаторых князёў (напрыклад, Вiтаўта) была аднолькава звязана як з XV, так i з XIV ст. Гiстарычны лёс асобных княстваў (напрыклад, Смаленскага) вырашаўся iменна на гранi гэтых двух стагоддзяў. Таму многiя сучасныя летапiсцу з'явы i факты грамадска-палiтычнага жыцця ўсходнiх славян лягчэй былi зразумелы ў сувязi з падзеямi XIV ст.

Павышаная цiкавасць аўтара першага зводу да падзей XIV ст. была ў сваю чаргу кампенсавана адносным багаццем звестак пра лiтоўскiх i смаленскiх князёў, па гiсторыi Вялiкага княства Лiтоўскага за другую палавiну XIV — пачатак XV ст. у яго рускiх крынiцах. Таму

XIV стагоддзе ў першым беларуска-літоўскім летапісу значна больш падрабязна і поўна апісана, чым усе папярэднія стагоддзі. Тым не менш і ў выкладанні гісторыі XIV ст. беларускі летапісец не перайшоў на поўнае капіраванне рускіх летапісаў. Ён скарачае ўжо значна менш, але па-ранейшаму выбірае звесткі, па-ранейшаму аддае перавагу лаканічным запісам, запісам-паведамленням, а не запісам-апавяданням. А паколькі шмат якія звесткі за XIV ст. былі для яго аднолькава важнымі, то пагадовыя летапісныя артыкулы за гэта стагоддзе, як правіла, атрымаліся ў першым зводзе сціслымі, кароткімі, але змястоўнымі, надзвычай багатымі інфармацыяй. Вось адзін з тыповых запісаў за цэлы год: «В лѣто 6834 убиен бысть князь великыи Дмитрии Михаилович Тферьскыи в Орде царем Озбяком. Того ж лѣта заложена бысть церкви на Москвѣ святая Богородица съборная августа 4 князем Иваном Даниловичем. Того ж лѣта сѣде на великое княжение князь Александр Михаилович. Тое ж зимы прѣставися Петр митрополит, пас церков лѣт 20» [55].

Характэрны адносіны беларускага летапісца да звестак, што датычыліся гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Смаленска. Большасць з іх, нават значных сваім аб'ёмам, ён выпісаў максімальна поўна, амаль літаральна паўтараючы сваю крыніцу: напрыклад звесткі, датаваныя 1395 г. (першае ўзяцце Вітаўтам Смаленска), 1398 г. (бітва на Ворскле), 1401 г. (вяртанне Юрыя Святаславіча ў Смаленск), 1404 г. (апошняе ўзяцце Смаленска Вітаўтам), 1410 г. (бітва пад Грунвальдам), 1418 г. (вызваленне Свідрыгайлы) і інш. Звесткі ж, у якіх выяўляліся адмоўныя адносіны рускіх летапісцаў да літоўскіх князёў, а падзеі асвятляліся з непрыязных

---

[55] Рукапіс БАН № 45.11.16, л. 242; ПСРЛ, т. XVII, сл. 30.

Вялікаму княству Літоўскаму пазіцый, ён рашуча скараціў, а некаторыя і зусім апусціў (напрыклад, апавяданне пра бітву літоўскіх князёў са смаленскімі пад Мсціславам у 1386 г.).

Істотна апрацаваў беларускі летапісец запісы маскоўскіх летапісцаў пра паходы вялікага літоўскага князя Альгерда Гедымінавіча на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гг. Так, паведамленне, што Альгерд «волости повоева, и села и дворы огнем пожже, много христиан посѣче, а иных в полон поведе, а имѣние их пограбиша, а скоты ину ту с собою отгнаша, и тако отъидоша, а много зла сътворивше христианом»[56], перададзена ў першым беларуска-літоўскім летапісу значна карацей: «людии множество посѣче и полони». Асобным выразам нададзена зусім іншае гучанне: замест «Олгерд... убояся и начат мира просити»[57] чытаем «взем мир».

Вельмі сцісла перадаў беларускі летапісец і паведамленне рускага летапісу пра смерць князя Альгерда ў 1377 г.: «В лѣто 6885 умре князь (великии) литовскии Олгирд, и сѣде по нем сын его меншии Ягаило»[58]. У Сімяонаўскім і іншых рускіх летапісах гэта звестка пачынаецца некалькі інакш: «В лѣто 6885 умре князь великии Олгерд Гедимоновичь Литовскии, *зловѣрныи и безбожныи и нечестивыи;* и сѣде по нем сын его меншии, именем Ягаило»[59].

Агульны сэнс усіх гэтых скарачэнняў і апрацовак тэксту рускіх летапісаў укладальнікам першага беларускага зводу зводзіўся да аднаго — змякчыць або і зусім зняць негатыўную характарыстыку літоўскіх князёў,

---

[56] ПСРЛ, т. XVIII, стар. 109.
[57] Там жа, стар. 110.
[58] Рукапіс БАН № 45.11.16, л. 246; ПСРЛ, т. XVII, сл. 40.
[59] ПСРЛ, т. XVIII, стар. 118.

адмоўную ацэнку іх дзеянняў, пададзеную рускімі летапісцамі.

Рускія звесткі ў першым зводзе перарываюцца на 1428 г.[60] Выпісаўшы затым кароткую гідраграфічную нататку («Рѣка Днѣпр течеть в море Понешское...»), беларускі летапісец звярнуўся да мясцовай крыніцы, якая храналагічна ахоплівала падзеі за 1430—1445 гг. Таму рускія звесткі ў межах названых гадоў былі апушчаны. І толькі ў самым канцы «Избрания лѣтописания» было дадаткова прыпісана некалькі рускіх звестак за 1445—1446 гг. Гэта ў сваю чаргу дае падставы сцвярджаць, што звесткі ў рускіх крыніцах, якімі карыстаўся беларускі летапісец, не выходзілі за межы 1446 г.

Заканчваючы кароткую характарыстыку рэдактарскай працы ўкладальніка першага беларуска-літоўскага зводу над рускімі летапісамі, неабходна спыніцца на яшчэ адной асаблівасці. Параўноўваючы рускую частку гэтага летапісу з рускімі зводамі, няцяжка заўважыць частую храналагічную неадпаведнасць іх запісаў. Як правіла, датыроўка асобных звестак у першым зводзе разыходзіцца з блізкімі да яго рускімі летапіснымі зводамі на адзін год. І гэта не простая выпадковасць, як можа здацца на першы погляд, а звязана з тым, што беларускія і рускія летапісцы карысталіся рознымі стылямі летазлічэння. Назіранні паказваюць, што беларускі летапісец лічыў гады з 1 верасня. Таму звесткі за верасень—жнівень, калі яны былі дакладна датаваны і былі размешчаны ў строга храналагічнай паслядоўнасці, ён імкнуўся падаваць пад адным і тым жа годам. У сувязі з гэтым нярэдка звесткі, змешчаныя ў рускіх летапісах

---

[60] Апошняя звестка гадавога артыкула 1427 г. («Тое ж зимы преставися князь Петр Дмитреевичь месяца февраля») беларускага летапісу, як сведчыць Сімяонаўскі летапіс (ПСРЛ, т. XVIII, стар. 169), фактычна адносіцца да 1428 г.

пад двума гадамі, у першым беларуска-літоўскім летапісу чытаюцца ў артыкулах аднаго года і наадварот. Напрыклад, два запісы, якія ў першым беларуска-літоўскім летапісу датаваны 17 студзеня і 19 мая 1388 г., у рускіх летапісах (Наўгародскім 4-м, Сафійскім 1-м, Сімяонаўскім і інш.) чытаюцца адпаведна пад 1388 і 1389 гг. У той жа час звесткі пра абранне епіскапа Самсона (11 жніўня) і мітрапаліта Рыгора Цамблака (5 лістапада), аднесеныя ў Наўгародскім 4-м і Сімяонаўскім летапісах да 1415 г., у нашым летапісу змешчаны пад рознымі гадамі: першая — пад 1415 г., другая — пад 1416 г. Аналагічна гэтаму ў першым зводзе запісы пра падзеі вясны і лета 1371 г. датаваны гэтым жа годам, а наступныя (восені 1371 і зімы 1372 г.) аднесены да 1372 г.

Такім чынам, беларускі летапісец рабіў храналагічную перагрупоўку рускіх звестак, каб размеркаваць іх у адпаведнасці з вераснёўскім стылем летазлічэння. Аднак ён быў не да канца паслядоўным. Таму ў першым беларуска-літоўскім летапісу можна знайсці рад гадавых артыкулаў, у якіх звесткі размешчаны паводле сакавіцкага стылю летазлічэння (новы год пачынаецца з 1 сакавіка), напрыклад, за 1340, 1354, 1360, 1410 гг. і інш.

З якіх жа рускіх крыніц рабіў сваю летапісную выбарку аўтар першага беларускага зводу? Дакладнае высвятленне гэтага пытання звязана з надзвычай вялікімі цяжкасцямі, паколькі асноўныя зводы першай палавіны XV ст., паліхрон Фоція 1418 г. і звод 1448 г., ад якіх бяруць пачатак шмат якія больш познія летапісы, не дайшлі да нашага часу ў сваім чыстым, першапачатковым выглядзе. Акрамя таго, рускія крыніцы былі выкарыстаны складальнікам першага зводу ў вельмі абмежаваным аб'ёме, надзвычай скарочана, што дадаткова ўскладняе правільнае вырашэнне пытання аб сувязі гэ-

тага летапісу з рускімі летапісамі свайго часу. Вось чаму М. Прысёлкаў лічыў неабходным заявіць, што яго «спроба разабрацца ў гісторыі ўзнікнення гэтых помнікаў (зводаў 1418 і 1448 гг.— *В. Ч.*)... хутчэй зыходзіць з надзеі прыцягнуць увагу даследчыкаў да гэтай надзвычай важнай задачы, чым з упэўненасці ў правільным яе вырашэнні» [61].

А. Шахматаў, які грунтоўна вывучаў першы беларуска-літоўскі звод, устанавіўшы блізкасць яго тэксту да Наўгародскага 4-га, Сафійскага 1-га, Сімяонаўскага і Ніканаўскага летапісаў, меркаваў, што агульнаруская частка гэтага зводу ўкладзена на аснове трох крыніц: мітрапалітавага летапісу, даведзенага да 1446 г. (уступныя артыкулы, звесткі за 1310—1388 і 1419—1427 гг., а таксама некаторыя звесткі за 1383—1418 і 1445—1446 гг.), Наўгародскага 4-га (звесткі да 1309 г. уключна) і Сафійскага 1-га (звесткі за 1383—1418 гг.) летапісаў [62]. З гэтымі вывадамі ў асноўным пагадзіўся і М. Прысёлкаў [63].

А. Шахматаў, прызнаўшы непасрэднымі крыніцамі першага беларуска-літоўскага летапісу Наўгародскі 4-ы і Сафійскі 1-ы, лічыў, што гэты летапісны звод не мог быць укладзены ў 1446 г., на якім абрываюцца яго апошнія звесткі, паколькі самі названыя рускія летапісы ўзыходзяць да больш позняга зводу — 1448 г. Узнікненне першага беларуска-літоўскага летапісу А. Шахматаў датаваў пачаткам XVI ст. [64]

[61] М. Д. Приселков. История русского летописания XI—XV вв., стар. 142.

[62] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 345.

[63] М. Д. Приселков. История русского летописания XI—XV вв., стар. 156—158.

[64] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 345.

У сваю чаргу М. Прысёлкаў, не адмаўляючы факта непасрэднай залежнасці беларускага летапісу ад Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га, у той жа час сцвярджаў, што беларуская апрацоўка, у аснову якой пакладзены рускі мітрапалітаў летапіс, была зроблена яшчэ ў 1446 г.[65] Калі ж нават прызнаць, што беларускія летапісцы значна пазней 1446 г. зрабілі дадатковую апрацоўку кароткай выбаркі з мітрапалітавага летапісу па адным з наўгародскіх летапісаў, блізкіх да Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га, то і такі вывад, праясняючы пазіцыю М. Прысёлкава, не аблягчае, аднак, вывучэння першага беларуска-літоўскага зводу.

Тэксталагічнае супастаўленне летапісу выразна паказвае, што, як і адзначаў А. Шахматаў, у частцы да пачатку XIV ст. першы беларуска-літоўскі летапіс сапраўды найбольш блізкі да Наўгародскага 4-га, а не да Сафійскага 1-га і, наадварот, яго тэкст за 1385—1418 гг. бліжэй якраз да Сафійскага 1-га першай рэдакцыі, чым да Наўгародскага 4-га.

І ўсё ж, відаць, недастаткова на аснове гэтага аднаго хоць і надзвычай важкага факта рабіць катэгарычны вывад аб тым, што і Наўгародскі 4-ы і Сафійскі 1-ы летапісы былі непасрэднымі крыніцамі першага беларускага зводу, бо тэкставая блізкасць двух ці трох помнікаў паміж сабою можа тлумачыцца не толькі непасрэднай залежнасцю аднаго з іх ад астатніх, але і агульнасцю крыніцы. Таму неабходна ўлічыць і ўзважыць усе «за» і «супраць», перш чым выказваць канчатковае меркаванне, тым больш, што параўнанне тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу з названымі вышэй рускі-

---

[65] М. Д. Приселков. Летописание Западной Украины и Белоруссии. Ученые записки ЛГУ. Серия исторических наук, вып. 7, 1941, стар. 19—20; яго ж: История русского летописания XI—XV вв., стар. 163.

мі летапісамі дае магчымасць атрымаць даныя зусім іншага характару, чым тыя, якія ўпершыню атрымаў А. Шахматаў.

Так, у частцы тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу, найбольш блізкай да Наўгародскага 4-га, выяўляюцца асобныя чытанні, агульныя з Сафійскім 1-м летапісам. Напрыклад, замест «имаху дань варази, *приходяще* из замория» Наўгародскага 4-га (стар. 10)[66] у першым беларуска-літоўскім (л. 251 адв.)[67] і Сафійскім 1-м (стар. 10)[68] летапісах чытаем — «имаху дань варязи из заморья»; замест «*кладяху* сыпаную персть» (стар. 80) — «крадаху...» (л. 227 адв., стар. 65); «*кладязь,* иже суть за тобою от востока» (стар. 81) — «кладязи...» (л. 227 адв., стар. 65); «с нами единовѣрник (будеши); аще ли сего не хощеши сътворити» (стар. 81) — «с нами единовѣрен будеши; аще ли сего не сътвориши» (л. 228, стар. 65)[69]; «увѣдавше же нечестивии» (стар. 222) — «увѣдавше же окааннии» (л. 236, стар. 217); «не мози страдати» (стар. 227) — «не мози стряпати» (л. 240, стар. 220); «и бившимся им полком» (стар. 227) — «и бившимся им *обоим* полком» (л. 240, стар. 220); «четвертыи... Миша», «пятыи... Сава», «шестыи... Ратмир» (стар. 224—225) — «четвертыи... *именем* Миша», «пятыи.... *именем* Сава», «шестыи... *именем* Ратьмир» (л. 238—238 адв., стар. 224)[70].

[66] ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 1.

[67] Тэкст першага зводу падаецца паводле Нікіфараўскага спіса (рук. БАН № 45.11.16). У выпадку адсутнасці ў гэтым спісе патрэбных звестак тэкст падаецца паводле друкаванага выдання Супрасльскага спіса (ПСРЛ, т. XVII).

[68] ПСРЛ, т. V, вып. 1. Л. 1925.

[69] Паказальна, што чытанне гэтага выразу ў першым беларуска-літоўскім летапісу супадае з тэкстам не першай, а другой рэдакцыі Сафійскага 1-га летапісу.

[70] У першым беларуска-літоўскім летапісу слова «именем» усюды пастаўлена пасля асабовага імені: «Миша именем» і г. д.

Тое, што ў гэтай частцы тэксту індывідуальнымі з'яўляюцца якраз чытанні Наўгародскага 4-га летапісу, а не Сафійскага 1-га і першага беларуска-літоўскага, пацвярджаюць даныя іншых рускіх летапісаў. Напрыклад, у Тыпаграфскім летапісу і Маскоўскім летапісным звадзе канца XV ст. у адпаведных мясцінах знаходзім чытанні [71], якія поўнасцю ўзгадняюцца з пералічанымі вышэй чытаннямі Сафійскага 1-га і першага беларуска-літоўскага летапісаў.

Але можа чытанні Наўгародскага 4-га летапісу, нягледзячы на сваю індывідуальнасць, з'яўляюцца ўсё ж больш першапачатковымі, чым чытанні Сафійскага 1-га і першага беларуска-літоўскага? Супраць такога меркавання пярэчаць даныя Лаўрэнцьеўскага, Суздальскага (Маскоўска-Акадэмічны спіс), Троіцкага, Цвярскога і Наўгародскага 1-га летапісаў, якія заснаваны на больш ранніх зводах, чым Наўгародскі 4-ы і Сафійскі 1-ы. Іменна адзначаныя чытанні Сафійскага 1-га і першага беларуска-літоўскага, а не Наўгародскага 4-га ідэнтычны адпаведным чытанням названых рускіх летапісаў [72].

Адзінае выключэнне — наступны выраз Сафійскага 1-га і першага беларуска-літоўскага летапісаў: «...и с нами единовѣрен будеши; аще ли сего не сътвориши...» Чытанне гэтага выразу ў Наўгародскім 4-м («...и с нами единовѣрник (будеши); аще ли сего не хощеши сътворити...») супадае з тэкстам Лаўрэнцьеўскага, Троіцкага, Цвярскога і некаторых іншых рускіх летапісаў і з'яўляецца больш першапачатковым. Сафійскі ж 1-ы і першы

[71] ПСРЛ, т. XXIV. Пг., 1921, стар. 6, 35, 95; ПСРЛ, т. XXV. М.—Л., 1949, стар. 131, 133, 362.

[72] М. Д. Приселков. Троицкая летопись. М.— Л., 1950, стар. 109; ПСРЛ, т. XV. СПб, 1863, сл. 29, 102, 103, 379; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.— Л., 1950, стар. 150, 293; ПСРЛ, т. I. М., 1962, сл. 19, 109, 522.

беларуска-літоўскі летапісы падаюць тут чытанне больш позняе, якое, відаць, узыходзіць да тэксту іх агульнай крыніцы.

Такім чынам, у першым беларуска-літоўскім зводзе ў частцы, якраз найбольш блізкай сваім тэкстам да Наўгародскага 4-га летапісу (да пачатку XIV ст.), выяўляецца рад чытанняў, якія зусім не адпавядаюць тэксту гэтага летапісу, але агульныя з Сафійскім 1-м і іншымі рускімі летапісамі. Прычым амаль усе яны аказваюцца больш раннімі ў параўнанні з адпаведнымі чытаннямі Наўгародскага 4-га летапісу. Дакладней кажучы, атрыманыя намі даныя супярэчаць вываду А. Шахматава аб тым, што Наўгародскі 4-ы летапіс быў непасрэднай крыніцай першага зводу ў частцы ад пачатку і да 1309 г. уключна.

Побач з гэтым у частцы за 1385—1418 гг., найбольш блізкай да Сафійскага 1-га, першы беларуска-літоўскі звод у асобных мясцінах узгадняецца якраз з тэкстам Наўгародскага 4-га летапісу. Напрыклад, Сафійскі 1-ы паведамляе, што Эдыгей «стоя у Москвы *3 недѣли*»[73], першы ж беларуска-літоўскі (звестка пад 1408 г.) і Наўгародскі 4-ы[74] летапісы паведамляюць, што ён «стоя *месяц* у города». Ні ў першай, ні ў другой рэдакцыі Сафійскага 1-га летапісу не знаходзім апавядання пра сустрэчу наўгародцамі епіскапа Сімяона (пачынаецца — «а приеха в Новгород месяца апреля...»), што чытаецца ў нашым летапісу пад 1416 г. Аднак у Наўгародскім 4-м яно ёсць[75].

---

[73] ПСРЛ, т. V. Псковские и софийские летописи. СПб, 1851, стар. 257.

[74] ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 2. Л., 1925, стар. 406.

[75] Там жа, стар. 415. Гэта ж апавяданне захавалася таксама ў Наўгародскім 1-м летапісу (Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.—Л., 1950, стар. 406—407).

Характэрна, што паведамленне аб часе аблогі Эдыгеем Масквы ў першым беларуска-літоўскім і Наўгародскім 4-м летапісах поўнасцю ўзгадняецца з іншымі датамі гэтай звесткі. У рускіх летапісах паведамляецца, што Эдыгей пакінуў аблогу Масквы 20 снежня 1408 г. Аднак летапісы падаюць розныя даты падыходу татарскага хана к гораду. Так, летапісы наўгародскага паходжання (Наўгародскі 1-ы, 4-ы, летапіс Аўрамкі), а разам з імі першы беларуска-літоўскі адзначаюць, што Эдыгей падышоў к Маскве 23 лістапада, г. зн. ён сапраўды стаяў ля сцен горада амаль месяц, што і паведамляюць названыя летапісы. У летапісах маскоўскага паходжання, напрыклад у Троіцкім (Сімяонаўскім) і Васкрасенскім, прыход к Маскве татарскага хана датуецца 1 снежня і, зыходзячы з гэтага, таксама правільна сцвярджаецца, што ён «стоя же у города 3 недѣли»[76]. У Сафійскім жа 1-м летапісу ў гэтай звестцы зроблена памылка: паведамляецца, што Эдыгей падышоў к Маскве 23 лістапада і ў той жа час сцвярджаецца, што ён прастаяў каля горада 3 тыдні, а не месяц.

Такім чынам, пададзеныя прыклады прымушаюць схіляцца да думкі, што блізкасць асобных частак тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу з Наўгародскім 4-м і Сафійскім 1-м, магчыма, хутчэй тлумачыцца агульнасцю крыніцы, чым прамой залежнасцю гэтага зводу ад названых рускіх летапісаў.

Гэты вывад пацвярджаюць таксама даныя, атрыманыя шляхам параўнання першага беларуска-літоўскага летапісу з адпаведнымі часткамі тэксту Наўгародскага 4-га (звесткі да пачатку XIV ст.) і Сафійскага 1-га (за 1385—1418 гг.).

---

[76] М. Д. Приселков. Троицкая летопись, стар. 468—470; ПСРЛ, т. VIII. СПб, 1856, стар. 83—84.

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Наўгародскі 4-ы летапіс* |
|---|---|
| 6389 г. Алег ля Царграда «церкви *рассыпаша, акы прах*» (л. 254) | 6415 г. Алег «церкви пожгоша» (стар. 19) |
| 6746 г. Прывезлі забітага Васілька ў Растоў, «и бѣ плачь велик въ всѣм градѣ и рыдание неутолимо, жалостныя бо слезы изливаны быша, яко вода, многа безмѣрна, понеже красен бѣ лицем и умилным образом, милостивне взирая къ всѣм, и паче мѣры храбор, на ловѣх вазнив, сердцем легок, до всѣх ласкав, а хто у него служил, хлѣб его ел, а чашу пил, тъи за любовь его не можише служити никоему князю, нъ жаляху въ вся дни живота своего по своем государи, излише бо слуґы своя любляше» (л. 234 адв.—235) | «...и много множество народа, людеи изидоша противу ему, жалостныя слезы испущающе, оставше таковаго утѣшениа; не бѣ же слышати пѣниа в плачи множѣ. Бѣ же Василко лицем красен, очима свѣтел и грозен, паче мѣры храбор, на ловех вазнив, сердцем легок, до боляр ласкав; а кто ему служил и хлѣб его ѣл и чашю его пил, то тои за любовь его никако же не можааше быти у иного князя, ни служити, излише бо слуги своа любяаше» (стар. 219). |
| Татары, «въспятишас(я) у Игнача креста, поидоша назад, останкы плѣняще» (л. 235 адв.— 236) | «...воспятишася у Игнача креста, прогнани святым Кирилом» (стар. 221) [77] |

[77] ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 1.

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Сафійскі 1-ы летапіс* |
|---|---|
| 6910 г. «Юже видихом все говение великое, в пятницю великую идяше та же звезда весь день пред солнцем. Вси мы видихом ея идуще» (сл. 49) [78] | «...юже видѣхом весь той мѣсяц» (стар. 252) |
| 6922 г. «Того ж лѣта створися знамение в отчинѣ князя Андрѣя Дмитреевича в *Колочи:* от иконы святыя Богородица явилося чюдо — много прощения слѣпым и хромым, раслабленым, ея же не можеть ум человечь сказати. *И на Москву приходила святая та икона месяца августа 15, и оттолѣ на Коломну, и пакы на Москву, и от Москвы в Можаеск. Тогда был Цамвлак на Москвѣ*» (л. 261 адв.) | «В лѣто 6921. Створися знамение в вотчинѣ князя Андрѣя Дмитреевича, от Можайска за 15 верст: от иконы святыя Богородици явилося людем много прощения, слѣпым, хромым, и разслабленым, и глухим и иным многим исцѣление бысть, иже не можеть ум человѣчь сказати, колико человѣколюбие божие и какова милость божия на людех» (стар. 259) |
| 6923 г. «Повоеваша татарове всю Елечьскую землю и *оттоле запустела*» (л. 261 адв.) | «Воеваша татарове Елецьскую землю» (стар. 259) |
| «Того ж лѣта месяца июня в 7 день на память святого мученика Федота изгибе солнце и скры луча своя от | «Бысть знамение по всеи земли в солнци: мѣсяца июня в 7 бысть солнце все померкло ненамного, и ви- |

[78] ПСРЛ, т. XVII. У Нікіфараўскім спісе тут пропуск.

земля в 4 час дни, в год божественыя литургия, и звѣзды явишася, яко в нощи. Тогда было князю великому Василью Дмитриевичю 26 лѣт на великом княжении» (л. 262)

дѣти было всѣ звѣзды, акы в нощи» (стар. 259) [79]

Думаецца, было б няправільным лічыць, што паказаныя разначытанні першага беларуска-літоўскага летапісу належаць яго аўтару, бо, па-першае, укладальнік гэтага зводу, як правіла, не пераказваў сваімі словамі і адвольна не пашыраў тэкст рускіх летапісаў; па-другое, сам характар большасці з гэтых разначытанняў перакануча сведчыць пра тое, што яны не маглі ўзнікнуць выпадкова і тым больш не маглі быць прыдуманы беларускім летапісцам. Ёсць усе падставы адносіць пададзеныя вышэй дапаўненні ў тэксце першага зводу да непасрэднай яго крыніцы, тэкст якой, такім чынам, некалькі адрозніваўся ад тэксту агульнай крыніцы Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў — зводу 1448 г. Гэтых дадатковых чытанняў і звестак няма і ў іншых вядомых рускіх летапісах, за выключэннем паведамлення 1414 г. пра ікону, якое ёсць у Сімяонаўскім і Васкрасенскім, але ў іншай рэдакцыі: «Оттолѣ же поиде к Москвѣ, такоже и по иным градом» [80]. Карацей кажучы, частка першага зводу ад пачатку і да 1310 г. і за 1385—1418 гг. не можа быць непасрэдна выведзена з тэксту Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў.

Дадатковым аргументам на карысць гэтага вываду служыць яшчэ адна акалічнасць. Калі, напрыклад, Сафійскі 1-ы летапіс сапраўды быў непасрэднай крыніцай

[79] ПСРЛ, т. V. СПб, 1851.
[80] ПСРЛ, т. XVIII, стар. 161; ПСРЛ, т. VIII, стар. 87.

першага беларускага зводу, то тэкст адпаведнай часткі апошняга (за 1385—1418 гг.) павінен быць цалкам заснаваны на тэксце пэўнай рэдакцыі гэтага летапісу. Аднак будучы больш блізкім да першай рэдакцыі Сафійскага 1-га, першы беларуска-літоўскі летапіс у асобных месцах паўтарае ўсё ж тэкст яго другой рэдакцыі [81]. Гэты факт добра ўзгадняецца з вывадамі даследчыкаў, што тэкст другой рэдакцыі Сафійскага 1-га летапісу нельга вывесці з тэксту яго першай рэдакцыі [82] і што, больш таго, шмат якія чытанні другой рэдакцыі больш старажытныя і першапачатковыя, чым чытанні першай рэдакцыі гэтага летапісу [83].

Пасля гэтага лагічна было б заключыць, што адной з крыніц першага зводу быў звод 1448 г.,—агульная крыніца Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў. Аднак і такі вывад нельга цалкам прыняць, паколькі адзначаныя вышэй разыходжанні і дапаўненні ў тэксце першага беларуска-літоўскага летапісу ў аднолькавай меры адрозніваюць яго як ад Наўгародскага 4-га, так і ад Сафійскага 1-га. Больш таго, першы беларуска-літоўскі летапіс захаваў у частцы да 1310 г. і за 1385—1418 гг. нямала звестак, якіх зусім няма ў гэтых рускіх летапісах.

Вось найбольш значныя з іх: устаўка ў апавяданні пад 1238 г. пра забойства татарамі князя Васілька Канстанцінавіча (ад «за вѣру хрестияньскую пострада» да «и душу предасть в руцѣ господеви с конечным покаанием»); паведамленне 1395 г. пра Цімура («Того ж лѣта

---

[81] Гл., напрыклад, паведамленне аб прыездзе ў Русь мітрапаліта Фоція (пад 1410 г.), якое выкладзена ў нашым летапісу згодна з тэкстам Сафійскага 1-га другой рэдакцыі, а не першай.

[82] М. Д. Приселков. История русского летописания XI—XV вв., стар. 153.

[83] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 214.

попущением божиим нѣкым грех ради наших...»); звесткі аб прызначэнні мітрапалітам Фоціем епіскапаў на Разань і Каломну, пра яго паездку ў Цвер і прызначэнне там епіскапам Антонія (1410); паведамленні пра паездку Фоція ў Літву і прызначэнне ім епіскапаў на Смаленск і Тураў (1411 і 1412 гг.); звесткі аб прызначэнні епіскапаў на Каломну (1414) і Растоў (1418); апісанне паездкі Фоція ў Літву (1415). За выключэннем паведамленняў пра Цімура і прызначэнне епіскапаў на Цвер, Каломну (1414) і Растоў, якія ёсць у некаторых іншых летапісах (напрыклад, у Ніканаўскім), астатнія з гэтых звестак першага зводу цалкам арыгінальныя і больш нідзе не чытаюцца.

Несумненна, што ў першым беларуска-літоўскім летапісу захавалася б яшчэ больш новых у параўнанні з Наўгародскім 4-м і Сафійскім 1-м звестак, калі б складальнік першага зводу цалкам следаваў сваёй рускай крыніцы, а не скарачаў яе ў такіх вялікіх памерах.

На наяўнасць у беларускім зводзе значнай колькасці дадатковых звестак звярнулі ўвагу і А. Шахматаў, і Ф. Сушыцкі, і М. Прысёлкаў. Але калі апошні не надаў гэтаму асаблівага значэння, то А. Шахматаў спрабаваў вытлумачыць гэты факт, справядліва прызнаючы, што яго нельга ігнараваць. На думку даследчыка, усе звесткі першага беларуска-літоўскага летапісу, якіх няма ў Наўгародскім 4-м (у частцы да 1310 г.) і Сафійскім 1-м (у частцы за 1385—1418 гг.), узяты аўтарам першага зводу з мітрапалітавага летапісу 1446 г., да якога ўзыходзяць таксама і рускія звесткі за 1310—1388, 1419—1446 гг. нашага летапісу [84].

Такое тлумачэнне не можа нас задаволіць, бо яно малаверагоднае. У беларускага летапісца не было ніякай прак-

[84] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 339.

тычнай неабходнасці і патрэбы, карыстаючыся адной крыніцай, звяртацца адначасова і да другой, каб запазычыць адтуль якую-небудзь нязначную звестку ці асобны выраз, бо ён не складаў поўны летапісны звод, а рабіў усяго толькі кароткую выбарку. Дакладней кажучы, сам характар агульнарускай часткі першага беларуска-літоўскага летапісу, скарочанай да мінімума, яскрава паказвае, што беларускі летапісец не мог такім спосабам складаць свой звод, як меркаваў А. Шахматаў. Таму мы лічым больш правільным адносіць усе дадатковыя звесткі і дапаўненні разглядаемай часткі першага зводу да той жа самай крыніцы, з якой яго аўтар запазычыў і астатні тэкст, блізкі да Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў.

Такім чынам, прызнаючы несумненную блізкасць непасрэднай крыніцы першага беларускага зводу з агульнай крыніцай названых рускіх летапісаў, зводам 1448 г., мы ў той жа час не маем дастаткова аргументаў, каб цалкам іх атаясамліваць.

Прывядзём некалькі новых прыкладаў, якія пераканаўча паказваюць, што тэкст першага беларуска-літоўскага летапісу месцамі істотна разыходзіцца з Наўгародскім 4-м і Сафійскім 1-м.

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Наўгародскі 4-ы летапіс* | *Сафійскі 1-ы летапіс* |
|---|---|---|
| «В лѣто 6377 крещена бысть земля Блъгарьскаа *при цари Василии, сыну Михаиловѣ*» (л. 252 адв.) | «В лѣто 6377 крещена бысть земля Болгарьская» (т. IV, стар: 12; т. V, 1925, стар. 12) | |

<table>
<tr><td>6389 г. «А от крещениа (Руси.— В. Ч.) до смерти Владимеровы лѣт 28, от крещения до убиения Бориса и Глѣба и до прѣнесения мощем лѣт 57» (л. 253 адв.)</td><td colspan="2">6395 г. «А от крещения Рускиа земля до смерти Володимеровы и до убиения Бориса и Глѣба и до пренесения мощем лѣт 57» (стар. 14; стар. 13—14)</td></tr>
<tr><td>«В лѣто 6750 иде Александр к Батыю царю, и Олег Резаньскыи иде к канови. А Батыи, слыша Александрово мужьство, и възлюби и отпустив и с честью» (л. 240 адв).</td><td>Тут няма часткі тэксту, падкрэсленай намі ў першым беларуска-літоўскім летапісу.</td><td>Тут няма ўсёй гэтай звесткі</td></tr>
<tr><td>«В лѣто 6791 поставлен бысть Максим, митрополит греческыи, на трети год ко Суздалию» (сл. 27)</td><td>«Поставлен бысть Максим Грѣчин на Русь митрополитом» (стар. 245)</td><td>«Того же лѣта поставлен бысть на Русь митрополит Гречин, именем Максим» (т. V, 1851, стар. 200)</td></tr>
<tr><td>«В лѣто 6811 преставися князь Данило Московскыи, марта 4, а княжив лѣт 11» (сл. 27)</td><td>«...преставися Данилъ Москвьскии, марта 4» (стар. 252)</td><td>«Того же лѣта преставися князь Данило Александровичь великый Московский, марта 4» (стар. 204)</td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| «В лѣто 6898 приставися Пумин митрополит во *Цариграде»* (сл. 45) | «В лѣто 6898 преставися Пумин митрополит в Киевѣ» (стар. 368; 244) |
| 6914 г. «Того ж лѣта преставися пресвященныи Киприян, митрополит Киевьскыи и всея Руси, месяца семтебря *15 на нощь, а пас церковь божию* 30 лѣт без полутретя месяца. И в 16 день проводиша и честно весь град, с *Голенищова в город несоша на главах,* а епископи служаху над ним» (л. 258 адв.— 259) | «Мѣсяца септевриа в 16 день преставися Киприан, митрополит Киевскыи и всея Руси, а был в митрополитех ■ святительствѣ 30 лѣт без полутретья мѣсяца. И проводиша его честно весь град, и епископы služа над ним» (стар. 399; 254) |

Важна зазначыць, што дадатковыя чытанні першага зводу ў звестках 6377, 6791 і 6811 гг. не захаваліся і ў іншых рускіх летапісах, астатнія ёсць[85].

85 «(А от крещения) Русскыя земля до смерти Влад(имеровы и до у)биениа Бориса и Глѣба лѣт 28» (ПСРЛ, т. XV. Вып. 1. Пг., 1922, сл. 27); «Преставися Пимин митрополит в Царѣградѣ» (ПСРЛ, т. XVIII, стар. 139); Кіпрыян памёр «сем(тября) 15 в 1 час нощи, пас церковь божью лѣт 30» (ПСРЛ, т. І. М., 1962, сл. 538); «и внесоша его во град Москву» (ПСРЛ, т. XI. М., 1965, стар. 194).

Калі даныя тэксталагічнага аналізу адмаўляюць непасрэдную залежнасць першага беларуска-літоўскага летапісу ад Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га, то чым жа тады вытлумачыць той відавочны факт, што адна частка першага зводу (да сярэдзіны XIII ст.)[86] у цэлым усё ж бліжэй да Наўгародскага 4-га летапісу, а не да Сафійскага 1-га, а другая частка (за 1385—1418 гг.)—наадварот?

Паколькі тэкст першага зводу мы прызнаём больш раннім паводле свайго паходжання, то, лагічна разважаючы, трэба дапусціць, што тыя часткі Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў, якія аказаліся больш аддаленымі ад першага беларуска-літоўскага летапісу, былі дадаткова перапрацаваны. Гэта меркаванне цалкам пацвярджаецца фактамі.

У пачатковай частцы (звесткі да сярэдзіны XIII ст.), найбольш блізкай да першага беларускага зводу, Наўгародскі 4-ы летапіс захаваў больш першапачатковы і поўны тэкст, чым летапіс Сафійскі 1-ы[87]. У апошнім сярод звестак XI—XII стст. знаходзім рад дадатковых уставак, узятых з новай крыніцы, з якогасьці Кіеўскага летапісу, што адзначыў і сам складальнік пратографа Сафійскага 1-га летапісу першай рэдакцыі—«а писано в Киевском», «ищи в Киевском», «в Киевском ищи» і інш. Відаць, у гэтай частцы Сафійскага 1-га летапісу пэўнай рэдактарскай апрацоўцы, дапаўненню і скарачэнню падвергліся і асобныя мясціны першапачатковага тэксту. І гэта сапраўды так.

---

86 Тут мы не ўлічваем частку тэксту за другую палавіну XIII — пачатак XIV ст., бо яна ў беларуска-літоўскім летапісу вельмі скарочана.

87 А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 152, заўвага 1.

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Наўгародскі 4-ы летапіс* | *Сафійскі 1-ы летапіс* |
|---|---|---|
| 6389 г. «...А Семиона Ивановича сынове: Василеи, Костентин, Данило, Михаило, Иоан, Симион; Иоана Ивановича сынове: Дмѣтре(и), Иоан»[88] (сл. 5) | 6395 г. «Семеона Ивановича сынове: Василии, Костянтин, Данил, Михаил, Иван, Семеон; Ивана Ивановича сынове: Дмитреи, Иван» (стар. 14)[89] | «Симеона Ивановича сынове: Василеи, Костянтин, Данило, Михаило, Иоан, Симеон; Ивана Ивановича сынове: Иоан; Дмитреевых Ивановича дѣтеи: князь великии Василеи, Юрии, Андрѣи, Петр, Иоан, Костянтин, 1-й Данило; князя великаго Василиевы дѣти: Юрии, Иоан, третии — князь велики Василеи» (стар. 14)[90] |

Несумненна, што больш позні тэкст чытаецца ў Сафійскім 1-м летапісу, дзе генеалогія маскоўскіх князёў даведзена аж да Васілія Васільевіча (1415—1462), у той жа час у першым беларуска-літоўскім і Наўгародскім 4-м

---

[88] ПСРЛ, т. XVII.
[89] ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 1.
[90] ПСРЛ, т. V, 1925.

летапісах не названы нават сын Дзімітрыя Іванавіча Данскога Васіль, які нарадзіўся ў 1371 г., а затым пасля смерці свайго бацькі ў 1389 г. стаў вялікім князем маскоўскім.

Дадатковая апрацоўка першапачатковага тэксту ў Сафійскім 1-м добра відаць таксама і на прыкладзе апавядання пра Неўскую бітву (1240 г.).

*Першы беларуска-літоўскі летапіс*

«В лѣто 6748 нѣкто от западныя страны, иже наричются слугы божии, от тѣх приде ■ Новгород, хотя видѣти възраст Александров дивныи. И видѣв Андрѣашь князя Александра и к своим възвратися, рече: «прошед страны и языкы, не видѣх такова, ни в царѣх царя, ни в князех князя». Се слышав король части Римськыя, от полунощьныа страны, таковое мужество князя Александра и помы-

*Найгародскі 4-ы летапіс*

«В лѣто 6748. Невское побоище. Нѣкто от западныя страны, иже наричаються слуги божи, от тѣх прииде в Новгород, хотя видѣти възраст Александров дивныи. И видѣв Андрѣяшь князя Александра, и к своим възвратишаяся и рече: «прошед страны и языки, не видах таковаго ни в царех царя, ни в князех князя». Се же слышав король части Римьскыа, от полунощныя стра-

*Сафійскі 1-ы летапіс*

«Сего ради прииде нѣкто от западныя страны, еже наричаются слуги божия, оттолѣ приде, хотяи видѣти дивныи възраст. *Яко же древле царица Ужеская приходи к Соломону, хотя слышати премудрость его, тако же и сии, именем* Андрѣяшь, видѣв *великаго* князя Александра *Ярославича,* и възвратися к своим и рече: «проходих многыи страны и языки, не видѣх такова ни в

| | | |
|---|---|---|
| слив, шатаяся безумием своим: «поиду плѣню землю Александрову» (л. 236 адв.) | ны, таковое мужество его, и помышли в себѣ: «поиду и плѣню землю Александрову» (стар. 223) | царѣх царя, ни в князѣх князя». Се же слышав король части Римьскыя от полунощныя страны таковое мужество *великаго* князя Александра *Ярославича*, и помысли в себѣ *побѣдити его или руками яти и великыи Новгород поплѣнити и вся грады их и люди словѣньския к собѣ в работу сътворити:* «поиду и пленю *всю* землю *великаго* князя Александра *Ярославича*» (стар. 221—222) |

Апавяданне пра Неўскую бітву ў складзе Сафійскага 1-га летапісу ў параўнанні з апавяданнем першага беларуска-літоўскага і Наўгародскага 4-га вылучаецца дзвюма асноўнымі асаблівасцямі: па-першае, у ім аб'яднаны летапісны тэкст з тэкстам жыція Аляксандра Неўскага; па-другое, самі летапісныя запісы зроблены больш шматслоўна. Напрыклад, у Сафійскім 1-м Аляксандр Неўскі ўсюды называецца па бацьку, Яраславічам, і толькі вялікім князем. Гэтыя дапаўненні, несумненна, больш позняга паходжання. І тэкст жыція, як пераканаўча даказаў

Ю. Бегуноў [91], пададзены ў Сафійскім 1-м летапісу таксама ў новай, другой рэдакцыі. Вельмі важны для нас канчатковы вывад гэтага даследчыка: «Такім чынам, жыція Аляксандра Неўскага не было ў наўгародскіх летапісных зводах XIII—XIV стст. Новая, другая рэдакцыя жыція Аляксандра Неўскага складзена для летапісу ў 30-я гады XV ст. укладальнікам Наўгародска-Сафійскага зводу» (інакш, зводу 1448 г.—*В. Ч.*) [92]. Характэрна, што ў апавяданні пра Неўскую бітву, змешчаным у першым беларуска-літоўскім і Наўгародскім 4-м летапісах, таксама няма нават слядоў карыстання жыціем Аляксандра Неўскага, што дадаткова ўказвае на большую першапачатковасць тэксту гэтага апавядання ў названых летапісах у параўнанні з тэкстам Сафійскага 1-га.

Параўноўваючы ж тэкст Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў за 1385—1418 гг., мы назіраем адваротную з'яву. Тут ужо тэкст Сафійскага 1-га аказваецца месцамі больш першапачатковым. Іменна ў частцы за другую палавіну XIII—пачатак XVст. у Наўгародскім 4-м змешчана шмат новых звестак, узятых з іншых крыніц [93]. Разам з тым рад звестак гэтага перыяду, агульных з Сафійскім 1-м летапісам, перададзена ў Наўгародскім 4-м скарочана [94].

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Сафійскі 1-ы летапіс* | *Наўгародскі 4-ы летапіс* |
| --- | --- | --- |
| «В лѣто 6918 прииде из Царяграда | «В лѣто 6918 прииде изо Ца- | «В лѣто 6918 приеха из Царя- |

[91] Ю. К. Бегунов. Житие Александра Невского в составе Новгородской 1-й и Софийской 1-й летописей. Новгородский исторический сборник, вып. 9. Новгород, 1959, стар. 229—238.

[92] Новгородский исторический сборник, вып. 9, стар. 237.

[93] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 185—186.

[94] Там жа, стар. 212, заўвага 1.

Фотеи митрополит, поставлен на Киев и на всю Рускую землю, родом грѣчин; поставлен патриархом Матфеем при цари Мануилѣ, и прииде на Москву при великом князи Василии Дмитреевичи на Велик день. Того ж лѣта преставися князь Володимир Андрѣевич месяца маия 14 день» (л. 260)

ряграда Фотѣи митрополит, поставлен Киеву и всей Руси, родом гречин; поставлен патриархом Матфеом при цари Мануилѣ, и прииде на Москву при великом князи Василии Дмитреевичѣ всея Руси. Преставися князь Володимер Андрѣевичь на Москве и положен бысть в сборной церкви святаго архангела Михаила» (стар. 258)

града Фотии митрополит в Русь, родом гречин; поставлен патриархом Матфѣем при цари Мануилѣ. Преставися князь Володимир Андрѣевичь на Москве, а Юрьи посадник в Новѣгородѣ» (стар. 409—410)

У той жа час у Сафійскім 1-м летапісу ў частцы за другую палавіну XIII — пачатак XV ст. няма звестак, узятых з іншых, дадатковых крыніц[95]. Іменна ў гэтай яго частцы выяўляюцца больш даўнія і больш першапачатковыя чытанні, чым ў Наўгародскім 4-м[96]. У гадавых артыкулах Сафійскага 1-га летапісу за другую палавіну XIII — пачатак XV ст. сустракаецца найбольш звестак,

---

[95] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 212.

[96] Там жа, стар. 152, заўвага 2.

што не чытаюцца ў Наўгародскім 4-м, але якія былі ў так званым зводзе 1448 г. [97]

Дакладней кажучы, у Наўгародскім 4-м летапісу найбольш была апрацавана другая палавіна зводу 1448 г. (прыблізна з сярэдзіны XIII ст. і да канца), у той час як у Сафійскім 1-м такі лёс спасціг яго першую палавіну. Адсюль поўнасцю вытлумачваецца такая загадкавая на першы погляд сувязь першага беларускага зводу з названымі рускімі летапісамі. Яны, як і трэба было чакаць, аказаліся больш блізкімі сваім тэкстам да нашага летапісу тымі часткамі, якія найменш былі апрацаваны і таму найбольш дакладна адлюстроўваюць тэкст іх агульнай крыніцы.

Такім чынам, на аснове тэксту першага беларуска-літоўскага летапісу часткова рэканструіруецца звод, вельмі блізкі паводле свайго складу і тэксту да агульнай крыніцы Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га, зводу 1448 г., але цалкам не тоесны апошняму. Ёсць сур'ёзныя падставы лічыць гэту рускую крыніцу нашага летапісу больш ранняй сваім паходжаннем, чым звод 1448 г., таму што яна была больш першапачатковай сваім тэкстам, месцамі больш поўнай сваім складам, а часамі і больш дакладнай з фактычнага боку. Да таго ж гэта руская крыніца была выкарыстана беларускім летапісцам у 1446 г., г. зн. яшчэ да з'яўлення зводу 1448 г. [98]

Паколькі агульнае падабенства першага беларуска-літоўскага, Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў рэзка абрываецца на 1418 г., трэба прызнаць, што ў

---

[97] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 211, заўвага 1.

[98] Шмат якія даследчыкі адмовіліся датаваць агульную крыніцу Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га летапісаў 1448 годам на карысць 30-х гадоў XV ст., аднак для гэтага, думаецца, не было дастаткова важкіх падстаў.

аснове гэтага рускага летапісу, крыніцы першага беларускага, ляжаў агульнарускі звод 1418 г., так званы паліхрон Фоція. Але ў сувязі з тым што першы беларускі звод складаўся не ў пачатку 20-х гадоў XV ст., а ў 1446 г., то і Паліхрон 1418 г. быў выкарыстаны беларускім летапісцам у спісе больш позняга часу, у якім да яго былі ўжо далучаны і звесткі за 1419—1446 гг. Значыць, укладальнік першага беларускага зводу меў перад сабою звод 1418 г. з працягам да 1446 г. Змест часткі за 1410—1427 гг. (багацце звестак пра дзейнасць мітрапаліта Фоція) указвае на мітрапалітава паходжанне і зводу 1418 г. і яго працягу да 1446 г. Агульнарускі характар гэтага летапісу не выклікае сумненняў. Таму больш правільна будзе лічыць, што непасрэднай крыніцай першага беларуска-літоўскага летапісу быў агульнарускі мітрапалітаў летапіс 1446 г., аснову якога і складаў Паліхрон 1418 г. Наяўнасць у першым беларуска-літоўскім летапісу ў частцы за 1410—1427 гг. звестак, якіх няма ва ўсіх вядомых сёння рускіх летапісах, сведчыць аб раннім паходжанні і гэтага зводу, і яго крыніц.

Некаторае сумненне ў правільнасці атрыманых вывадаў выклікае той факт, што ў частцы першага беларуска-літоўскага летапісу за 1385—1418 гг. ёсць рад уласна наўгародскіх звестак. Гэтыя звесткі, як прынята лічыць, маглі быць уключаны ў беларускі летапіс або са зводу 1448 г., які атрыманы шляхам злучэння паліхрона Фоція з Наўгародскім Сафійскім летапісам 1418 г., або непасрэдна з якога-небудзь наўгародскага летапісу.

Паколькі па розных прычынах прыходзіцца адмаўляць непасрэдны ўплыў зводу 1448 г. на першы беларуска-літоўскі летапіс, то трэба думаць, што наўгародскія звесткі апошняга запазычаны непасрэдна з наўгародскага летапісу. Аднак і такое тлумачэнне цяжка прыняць, бо беларускі летапісец не складаў поўны летапісны звод, а рабіў

толькі кароткую выбарку, і ён, несумненна, абышоўся толькі самым неабходным мінімумам крыніц. Таму малаверагодна, каб яго маглі спецыяльна зацікавіць асобныя прыватныя звесткі з унутранага жыцця Ноўгарада ў той час, калі ён рашуча апускаў значна больш важныя звесткі па гісторыі Русі за цэлыя дзесяцігоддзі і нават стагоддзі. Тым больш не маглі быць уключаны ўласна наўгародскія звесткі ў першы звод і пасля 1446 г. Наступная літаратурная гісторыя нашага летапісу паказвае, што яго кароткая выбарка з рускіх крыніц не толькі больш не папаўнялася новымі звесткамі, а, наадварот, няспынна скарачалася, пакуль, нарэшце, і зусім не была апушчана.

Такім чынам, мы не бачым іншага выйсця, як толькі прызнаць, што ўласна наўгародскія звесткі былі ўжо ў Паліхроне 1418 г. і разам з ім праз мітрапалітаў летапіс 1446 г. часткова ўвайшлі ў склад першага зводу, у якім яны, дарэчы, таксама абрываюцца на 1418 г. (!) Даныя першага беларуска-літоўскага летапісу як быццам бы пацвярджаюць меркаванне А. Шахматава, які лічыў, што складальнік паліхрона Фоція «карыстаўся, несумненна, і Наўгародскім і Растоўскім летапісамі» [99].

Частка першага беларуска-літоўскага летапісу за 1306—1388 гг. [100] паводле свайго тэксту і складу найбольш блізкая да Сімяонаўскага (Троіцкага) летапісу і рэзка адрозніваецца ад Наўгародскага 4-га і Сафійскага 1-га. Гэта акалічнасць, а таксама факт поўнай адсутнасці ва ўказанай частцы першага зводу звестак уласна наўгародскіх даюць падставы бачыць тут летапіс некалькі іншага характару, чым мітрапалітаў 1446 г., г. зн. іншую крыніцу. Аб пераходзе аўтара першага беларускага зводу да

---

[99] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 160.

[100] Першая звестка гэтай часткі ў беларускім летапісу памылкова датавана 1306 г. (6814), хоць фактычна адносіцца да 1308 г.

новай крыніцы сведчыць таксама паўтарэнне ў нашым летапісу звестак пад 1305 г., аб яго звароце да ранейшай крыніцы — паўтарэнне звестак пад 1384—1388 гг. Прычым да мітрапалітавага летапісу 1446 г. беларускі летапісец зноў звярнуўся, пачынаючы са звестак 1385 г., а не 1389 г.

Тэксталагічнае супастаўленне часткі за 1306—1388 гг. дае магчымасць выявіць у першым беларуска-літоўскім летапісу рад чытанняў і звестак, якіх няма ў Троіцкім (Сімяонаўскім).

| *Першы беларуска-літоўскі летапіс* | *Троіцкі летапіс (па Прысёлкаву)* |
| --- | --- |
| 6825 г. «...бысть им сѣча люта на поли Бортенѣвѣ *22 декабря»* (л. 242) | Тут няма выдзеленага |
| «В лѣто 6849 князь великыи Семен Иванович поиде ратью к Тръжку, и князь Иван, брат его, и князь Констянтин Ростовскыи, и вси князи руские с ними: князь Костянтин Суздальскыи *Васильевич*; князь Василии Ярославскыи и вси князи рускыи с ними, и *стояше у Тръжку два месяца и смиришася с новгородци* и взяша чрьныи бор. *Того ж лѣта сѣде в Новегородѣ на Городищи на княженье князь Костянтин Васильевич Суздальскыи»* (л. 243 адв.—л. 244) | 6848 г. «Тое же зимы бысть велик съѣзд на Москвѣ всѣм князем русскым, и поиде ратью к Торжку и взя на них черныи бор князь великии Семен, а с ним брат его князь Иван Ивановичь, князь Костянтин Суждальскыи, князь Костянтин Ростовскыи, князь Василеи Ярославскыи, и вси князи с ними, и пресвященныи Феогност, митрополит всеа Руси, с ними же» (стар. 364—365) |

6865 г. «Того ж лѣта *царь Чанебек взя Мисур и посади на нем сына своего Бердебека на царьство, (а) сам возвратися во свояси. (И) разболися на пути от видения и збесися. И послаша радци по Бердебека. Он же пришед,* отца удави, а братию изби, а сам сяде на царьство» (сл. 35)

6865 г. «Того ж лѣта Бердибек царь в Ордѣ сѣде на царствѣ, а отца своего убил и братью свою побил» (стар. 376)

6867 г. Да цара Науруса «второе приде князя великого сын Иванов Дмитреи[101], Иван, Володимерь, князь Андрѣи Костентиновичь и брат его, князь Дмитреи, и вси князи рускыи. И види царь князя Дмитрея уна возрастом и посла по[102] князя Андрѣя Костентиновича и да ему княжение великое 15 лѣтом. Он же не яся, соступиша брату своему, князю Дмитрею Констентиновичь, а сам поиде на Русь и остави брату своему всих бояр на помочь, Стефана Александровича и иных. И сяде на великом княжени Дмитреи» (сл. 35—36)

6867 г. «...приидоша вси князи русскыя. И бысть им в Ордѣ роздѣл княжением их. И которои же сих по временом своим възвратишаяся въ свояси, и кои же их прииде в свою отчину» (стар. 376—377)

---

[101] У Супрасльскім спісе тут памылка: «Дмитреевичь».
[102] У рукапісу памылкова пададзена: «насла на».

| | |
|---|---|
| 6884 г. «Тои же зимы вые де из Царяграда митрополит Киприян. И не прия его князь великыи Дмитреи Ивановичь. Он же шед на Киев» (сл. 40) [103] | 6884 г. «Того же лѣта Киприан поставлен в митрополиты» (стар. 402) [104] |

Акрамя адзначаных дадатковых чытанняў, больш падрабязных і дакладных паведамленняў у першым беларуска-літоўскім летапісу знаходзім некалькі звестак, якіх няма ў Троіцкім (Сімяонаўскім), напрыклад звесткі пра барацьбу князя Сімяона Іванавіча з Канстанцінам Васільевічам за Ніжненаўгародскае княства (1342 г.), пра паездку мітрапаліта Феагноста ў Арду (1343 г.), апавяданне пра падзеі ў Царградзе (1353 г.), паведамленне пра жаніцьбу князёў Міхаіла і Барыса (1354 г.).

Тэксталагічнае параўнанне гэтых двух летапісаў пераконвае нас у тым, што першы беларуска-літоўскі месцамі дае ў частцы за 1306—1388 гг. больш поўны тэкст, чым Сімяонаўскі, на аснове якога М. Прысёлкаў рэканструяваў тэкст загінуўшага Троіцкага летапісу, зводу 1409 (1408) г. Гэта меркаванне цалкам пацвярджаецца Рагожскім летапісам [105]. Іменна ў ім выяўляюцца амаль усе дадатковыя чытанні і звесткі, якія адрозніваюць наш летапіс ад Сімяонаўскага ва ўказанай частцы.

Як вядома, тэкст Сімяонаўскага і Рагожскага летапісаў у звестках за XIV ст. заснаваны на адной і той жа крыніцы — агульнарускім зводзе 1409 г. «Прычым Рагожскі летапісец лепш перадае гэты пратограф у сэнсе

---

[103] Тэкст звестак, якіх няма ў Нікіфараўскім спісе, падаецца паводле Супрасльскага.

[104] М. Д. Приселков. Троицкая летопись. М.— Л., 1950.

[105] ПСРЛ, т. XV. Изд. 2-е, вып. I. Рогожский летописец. Пг., 1922.

першапачатковасці чытанняў і выкладу»[106]. Значыць, ёсць падставы адносіць частку першага беларуска-літоўскага летапісу за 1306—1388 гг. таксама да гэтага зводу, таму што агульнасць крыніцы тэксту за XIV ст. ва ўсіх трох гэтых летапісах не выклікае сумнення.

Беларуска-літоўскі і Рагожскі летапісы месцамі даюць больш дакладны і блізкі да арыгінала тэкст зводу 1409 г., чым Сімяонаўскі. Таму больш-менш задавальняючая рэканструкцыя агульнарускага зводу 1409 г. без уліку тэксту нашага летапісу немагчыма.

Такім чынам, кароткая выбарка з рускіх летапісаў першага беларуска-літоўскага летапіснага зводу, найбольш верагодна, заснавана толькі на дзвюх крыніцах: мітрапалітавым летапісу 1446 г. (звесткі ад пачатку і да 1305 г. уключна[107], а таксама за 1385—1446 гг.), аснову якога складаў Паліхрон 1418 г., і маскоўскім зводзе 1409 г. (звесткі за 1306—1388 гг.). Да аднаго з гэтых двух помнікаў узыходзіць, напэўна, і тэкст «Сказания о вѣрных святых князех руських», якім адкрываецца першы беларуска-літоўскі звод у спісах Нікіфараўскім і Супрасльскім.

Разам з тым неабходна зазначыць, што нашы вывады не прэтэндуюць на канчатковасць. Патрэбны новыя грунтоўныя і ўсебаковыя даследаванні ў гэтым напрамку, каб больш выразна і правільна ўстанавіць склад і тэкст асноўных рускіх зводаў першай палавіны XV ст., 1409, 1418 і 1448 гг., без чаго немагчыма зусім дакладна вызначыць рускія крыніцы нашага зводу. Адно несумненна: у гэтай

---

[106] М. Д. Приселков. История русского летописания, стар. 115.

[107] Паколькі пад 1305 г. у першым беларуска-літоўскім летапісу выяўляецца паўтарэнне адных і тых жа звестак, то мы лічым, што іменна пасля запісаў гэтага года беларускі летапісец перайшоў да другой сваёй крыніцы.

вялікай і складанай рабоце значна шырэй і з большым даверам павінен быць выкарыстаны першы беларуска-літоўскі летапіс, бо ў ім схаваны ключ для разгадкі некаторых вельмі заблытаных, але прынцыпова важных пытанняў гісторыі рускага летапісання XV ст.

Чаму ж беларускі летапісец сваю кароткую выбарку з рускіх летапісаў зрабіў на аснове дзвюх крыніц, а не адной? Гэта тлумачыцца самім характарам яго працы над рускімі крыніцамі. Укладаючы сціслы нарыс гісторыі Русі, ён аддаваў перавагу кароткім звесткам і апускаў запісы шматслоўныя і чыста мясцовыя паводле свайго характару. Паколькі ж мітрапалітаў летапіс 1446 г. утрымліваў за XIV ст. шмат значных і падрабязных звестак, сярод якіх, відаць, нямала было і мясцовых, што спецыяльна яго не цікавілі, беларускі летапісец звярнуўся да другой сваёй крыніцы, зводу 1409 г. Гэты звод выгадна адрозніваўся ад мітрапалітавага летапісу 1446 г. якраз большай сцісласцю выкладу рускай гісторыі XIV ст.

Вярнуцца ж зноў да сваёй першай крыніцы аўтара першага беларускага зводу, на нашу думку, прымусілі дзве акалічнасці: па-першае, звод 1409 г. не меў звестак за 1410—1446 гг.; па-другое, у зводзе 1409 г. не было некаторых звестак за 80—90-я гады XIV ст. па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якая яго спецыяльна цікавіла (напрыклад, паведамленні пра хрышчэнне і жаніцьбу Ягайлы, пра князёў Сямёна Альгердавіча і Андрэя Полацкага, апавяданне пра першае ўзяцце Вітаўтам Смаленска). Асобныя ж звесткі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў зводзе 1409 г. былі значна бяднейшыя сваім зместам, чым аналагічныя звесткі мітрапалітавага летапісу 1446 г. (напрыклад, апавяданне пра бітву літоўскіх князёў са смаленскімі пад Мсціславам у 1386 г. ці пра бітву князя Вітаўта з татарамі на р. Ворскле ў 1399 г.).

Характар беларускай выбаркі з рускіх летапісаў выразна паказвае, наколькі мэтанакіравана, а не чыста механічна, як лічыў Ф. Сушыцкі [108], працаваў аўтар першага беларускага зводу. Выкарыстоўваючы два рускія летапісы, ён свядома выбіраў з іх найбольш важныя звесткі па грамадзянскай і царкоўнай гісторыі Кіеўскай, Маскоўскай і Літоўскай Русі, ствараючы толькі кароткі нарыс палітычнай гісторыі ўсходніх славян. Прычым рускія крыніцы беларускі летапісец скарачаў і апрацоўваў для таго, каб запазычаная частка ў новым зводзе сваім памерам не намнога перавышала, а сваёй накіраванасцю рэзка не супярэчыла мясцовым летапісным матэрыялам. Далучыўшы да выбаркі з рускіх летапісаў матэрыялы па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, ён уклаў такім чынам летапісны звод, па сутнасці агульнарускі паводле свайго характару. Перад намі фактычна першая сур'ёзная спроба стварыць гісторыю Літвы і Літоўскай Русі (Беларусі і Украіны) у яе сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі і ў яе пераемнасці з гісторыяй Русі Кіеўскай. Усё гэта сведчыць, што аўтар першага беларуска-літоўскага летапіснага зводу разглядаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага як неад'емную, арганічную частку гісторыі ўсіх усходніх славян.

## АНАЛІЗ СМАЛЕНСКАЙ КРЫНІЦЫ

Паміж звесткамі кароткай выбаркі з рускіх летапісаў, датаванымі 1427 і 1446 гг., у першым беларуска-літоўскім летапісу змешчаны мясцовыя летапісныя матэрыялы, пачатак якіх аддзелены ад рускай часткі гідраграфічнай заметкай («Река Днепр течеть у море

108 Т. Сушицький. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури, стар. 121.

Понешьское...»). Аўтар першага зводу спецыяльна ўставіў іх паміж рускімі звесткамі, каб не парушыць храналагічнай паслядоўнасці выкладу гісторыі, бо мясцовая крыніца ахоплівала падзеі за 1430—1445 гг., а апошні запіс рускага летапісу адносіўся да 1446 г. Гэта мясцовая частка называецца смаленскай на той падставе, што яна, верагодней за ўсё, узнікла ў Смаленску і падзеі, пра якія ў ёй апавядаецца, таксама ў многім звязаны з гэтым і іншымі гарадамі Усходняй Беларусі.

Разглядаемая арыгінальная частка першага зводу толькі на першы погляд здаецца звычайным летапісам, які ўключае рад запісаў, размешчаных у храналагічнай паслядоўнасці з 1430 да 1445 г. Больш дэталёвае знаёмства з тэкстам смаленскай крыніцы выяўляе ў ёй тры асобныя часткі: Смаленскую хроніку, «Пахвалу Вітаўту» [109] і кароткія смаленскія запісы пра падзеі 1432—1445 гг. [110]

Смаленская хроніка пачынаецца з апавядання пра падрыхтоўку да каранавання Вітаўта. На ўрачыстую каранацыю вялікага літоўскага князя з'ехалася шмат высокіх гасцей [111]. Усе з нецярплівасцю чакалі прыбыцця пасланцоў ад германскага імператара, якія везлі карону. Аднак Вітаўтавы «неприятели поляне [112],— гаворыць летапісец, — не пропустиша коруны». Каранаванне было сарвана. І Вітаўт, гэты адзін з найбольш магутных вала-

---

[109] У некаторых спісах (Акадэмічны і інш.) «Пахвала Вітаўту» называецца «Сказанием о великом князи Витовтѣ». Цяжка сказаць, якая назва больш ранняя, «Сказание» ці «Пахвала», аднак апошняя лепш адпавядае характару гэтага твора.

[110] Такі склад смаленскай крыніцы нашага зводу ўпершыню быў вызначаны польскім гісторыкам С. Смолькам (S. Smolka. Najdawniejsze pomniki dziejopisarstwa rusko-litewskiego. Pamiętnik Akademii Umiejętności, t. VIII, s. 1—55).

[111] Гэты каранацыйны з'езд адбыўся восенню 1430 г. у Вільні.

[112] Правільна: «поляки».

дароў таго часу, які паўстагоддзя не сыходзіў з палітычнай арэны Еўропы, неўзабаве захварэў і ў тым жа 1430 г. памёр. Пасля яго вялікім князем стаў брат польскага караля Ягайлы Свідрыгайла Альгердавіч, але ненадоўга. У 1432 г. Свідрыгайла быў пазбаўлены велікакняскага трона. «Літва» пасадзіла на вялікае княжанне, на Вільню і на Трокі, Жыгімонта Кейстутавіча, брата Вітаўта, а Свідрыгайла быў узведзены «рускімі» князямі і баярамі «на великое княжение на Руское», на Полацк, Віцебск, Смаленск і іншыя ўсходнебеларускія і ўкраінскія гарады. Пачалася грамадзянская вайна паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам.

Гэта барацьба за ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім паміж нашчадкамі Кейстута і Альгерда стаіць у цэнтры ўвагі аўтара Смаленскай хронікі. Ён падрабязна апісвае бесперапынныя паходы Свідрыгайлы на Беларусь і Літву, бітвы каля Ашмян, Маладзечна, Вількаміра. Каб зразумець, на чыім баку асабістыя сімпатыі аўтара хронікі, дастаткова звярнуць увагу на тое, з якога пункту погляду і як ён апісвае гэту вайну.

Свідрыгайла, гаворыць храніст, «павоеваша Литовское земли множство, и пожгоша, и в полон повѣдоша», ён «взя град Крев мурованыи и сожже, а людии много посѣкоша и в полон повѣдоша», затым «возме град Менеск и сожже, а люди много в полон поведоша, мужи и жены, иде в свою землю, а много зла створи Литовскои земли». Пасля гэтага ён узяў «невинно» ў палон князя Міхаіла Іванавіча Гальшанскага і яго «повелѣ утопити в рѣцѣ в Двине». Нарэшце, па загаду князя Свідрыгайлы быў спалены ў Віцебску мітрапаліт Герасім, якога сам жа ў 1432 г., будучы яшчэ вялікім князем у Вільні, адправіў у Царград для пасвячэння ў мітрапаліты.

У рашаючай бітве пад Вількамірам у 1435 г. Свідрыгайла пацярпеў поўнае паражэнне, якое трактуецца аў-



тарам Смаленскай хронікі як справядлівая расплата за яго ранейшыя ўчынкі: «и за то бог не пособи Швитригаилу, что сожже митрополита Герасима, и поможе бог князю великому Жидимонту и его сыну, князю Михаилу, и побиша князя Швитригаила и всю силу его». На наступны год «нача князь велики Жикгимонт княжити на великом княжении на Литовском и Руском»[113], — заканчвае сваё апавяданне беларускі храніст.

Як бачым, сімпатыі аўтара на баку Жыгімонта Кейстутавіча. І ўсё ж, нягледзячы на стрымана негатыўныя адносіны да Свідрыгайлы, гэты князь знаходзіцца як бы ў цэнтры ўсяго апавядання. Увага аўтара прыкавана спачатку амаль выключна да Свідрыгайлы, Жыгімонт жа — дзесьці збоку, у ценю. Толькі пад канец хронікі Свідрыгайла зусім сыходзіць са сцэны, а на першы план высоўваецца нашчадак Кейстута.

Падобная неадпаведнасць двух планаў апавядання (у цэнтры дзеяння адмоўны герой, а дадатны — некалькі збоку) тлумачыцца, відаць, тым, што факты, звязаныя з дзейнасцю Свідрыгайлы, былі больш вядомы аўтару Смаленскай хронікі і сам ён быў некалькі бліжэй да гэтага князя, чым да Жыгімонта. Спецыфічная форма некаторых выразаў (Свідрыгайла *«поидоша* в Литовскую землю», *«поиде* на Литву», Жыгімонт *«прииде* на Рускую землю») і іншыя факты паказваюць, што аўтар апісваў падзеі з «назіральнага пункта», размешчанага дзесьці ва Усходняй Беларусі. І калі прыгадаць характэрнае тлумачэнне паражэння Свідрыгайлы пад Вількамірам, пададзенае ў Смаленскай хроніцы («за то бог не пособи Швитригаилу, что сожже митрополита Герасима»), то не прыходзіцца сумнявацца, што гэтым «назіральным пунктам» быў для храніста Смаленск.

[113] Тэкст Смаленскай хронікі падаецца паводле Нікіфараўскага і Супрасльскага спісаў.

Відаць, аўтар Смаленскай хронікі быў вельмі блізкай да Герасіма асобай, калі яго так глыбока кранула гвалтоўная смерць гэтага мітрапаліта. Прынамсі мова хронікі (некалькі архаічная, з налётам царкоўнаславянскай), у тым ліку і характэрныя выразы («поможе бог», «бог не пособи»), указваюць на тое, што яе аўтар не быў чалавекам свецкім.

Епіскап Герасім, родам масквіч, у 20-я гады XV ст. быў пераведзены Вітаўтам з Уладзіміра-Валынскага ў Смаленск. У 1432 г. Свідрыгайла, будуючы шырокія планы ўмацавання Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы, самастойнай у палітычных і рэлігійных адносінах, паслаў смаленскага епіскапа Герасіма ў Царград для свячэння на асобнага праваслаўнага мітрапаліта ўсёй Русі, незалежнага ад Масквы. У 1433 г. Герасім-мітрапаліт вярнуўся ў Смаленск, які часова стаў цэнтрам ўсёй «рускай» мітраполіі. Аднак праз два гады за тайную сувязь з Жыгімонтам Кейстутавічам мітрапаліт Герасім быў спалены ў Віцебску на кастры па загаду самога ж Свідрыгайлы.

Такім чынам, палітычныя сімпатыі Герасіма ўрэшце таксама аказаліся на баку Жыгімонта. І гэта сугучнасць імкненняў Герасіма і аўтара Смаленскай хронікі падмацоўвае меркаванне пра блізкую сувязь апошняга са смаленскім мітрапалітам. Адчуваецца, што наш храніст жыў інтарэсамі вялікай палітыкі, яму былі дэталёва вядомы гісторыя грамадзянскай вайны 1432—1435 гг. у Вялікім княстве Літоўскім і папярэднія падзеі. Такая разнастайная палітычная інфармацыя збіралася тады ў першую чаргу ў Вільні, цэнтры дзяржавы, а таксама ў Смаленску, сталіцы мітраполіі. Несумненна, што двор мітрапаліта Герасіма, які не быў абыякавы да вынікаў барацьбы за ўладу паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам, таксама напружана жыў у той час агульнадзяржаўнымі палітыч-

нымі інтарэсамі, што і знайшло сваё адлюстраванне ў разглядаемым творы.

Таму можна з упэўненасцю сказаць, што гэта хроніка створана ў Смаленску чалавекам з асяроддзя мітрапаліта Герасіма, русінам, які быў патрыётам сваёй дзяржавы і прыхільнікам княскай дынастыі Кейстутавічаў. Асноўнай перадумовай для ўзнікнення Смаленскай хронікі паслужыла ўтварэнне ў Смаленску мітраполіі, а непасрэдным штуршком для напісання — канец грамадзянскай вайны і канчатковае замацаванне ў 1436 г. у сталіцы княства Вільні Жыгімонта Кейстутавіча. Верагодней за ўсё, што і сама хроніка была напісана па гарачых слядах падзей, у тым жа 1436 г.

На першы погляд можа паказацца не зусім зразумелым, чаму Герасім, які атрымаў пасаду мітрапаліта Кіеўскага і ўсёй Русі дзякуючы непасрэднай падтрымцы князя Свідрыгайлы, неўзабаве ўсё ж аказаўся на баку яго ворага. Здавалася б, што незалежная, антыпольская палітыка Свідрыгайлы не магла не імпанаваць мясцовым патрыётам і тым больш праваслаўнаму іерарху. Аднак яго выразная «праруская» пазіцыя, рашучая падтрымка імкненняў беларускіх і ўкраінскіх феадалаў дамагчыся палітычнай перавагі ў Вялікім княстве Літоўскім выклікалі адмоўную рэакцыю ў літоўскай пануючай знаці, выступленне якой супраць Свідрыгайлы было таксама інспіравана польскімі кіруючымі вярхамі. «Звяржэнне Свідрыгайлы з велікакняскага трона,— пісаў М. Любаўскі,— было ні чым іншым, як праявай літоўскай нацыянальна-палітычнай рэакцыі супраць палітычнага ўзвышэння Русі» [114].

Свідрыгайла і пасля 1432 г. меў нямала магчымасцей, каб вярнуцца ў Вільню. Аднак у яго не было дастаткова

[114] М. Любавский. Литовско-русский сейм. М., 1900, стар. 70.

ўздольнасцей палітыка, дыпламата і военачальніка, а беларуска-ўкраінскім феадалам не хапіла патрэбнай нацыянальнай салідарнасці, каб перамагчы. У той жа час Жыгімонт, надаўшы ў 1432 і 1434 гг. дадатковыя прывілеі князям і баярам праваслаўнага веравызнання, схіліў гэтым самым частку феадалаў, якія падтрымлівалі Свідрыгайлу, на свой бок і моцна паслабіў пазіцыю апошняга на Беларусі і Украіне[115].

Таму Герасім, відаць, разумеючы, што рэальна выконваць свае функцыі мітрапаліта ўсёй Русі ён зможа толькі пры ўмове захавання палітычнага адзінства і магутнасці Вялікага княства Літоўскага і пры падтрымцы моцнай вялікакняскай улады, адразу ж перайшоў на бок Жыгімонта, як толькі ўбачыў, што ўлада ў дзяржаве ўжо канчаткова пераходзіць у рукі апошняга. Акрамя таго, тут, пэўна, адыгралі сваю ролю і старыя сімпатыі і антыпатыі Герасіма, яго былыя цесныя сувязі з братам Жыгімонта Вітаўтам. Свідрыгайла ж быў пастаянным сапернікам Вітаўта, «агульнарускую» палітыку якога горача падтрымліваў гэты праваслаўны іерарх. Гэта ўнутрыпалітычная пераарыентацыя (ад Свідрыгайлы да Жыгімонта) пэўных грамадскіх колаў Вялікага княства Літоўскага ў 1434—1436 гг. і выразілася ў пазіцыі аўтара Смаленскай хронікі.

У нашу задачу не ўваходзіць падрабязны ідэйна-мастацкі аналіз гэтага твора. Зазначым толькі, што летапісец, які стварыў Смаленскую хроніку, не вызначаўся асаблівым талентам ні як пісьменнік, ні як гістарыёграф і сваім светапоглядам быў яшчэ цалкам сярэдневяковым чалавекам. Аднак у адным гэты летапісец усё ж некалькі адышоў ужо ад старых традыцый — у форме выкладу гі-

---

115 L. Kolankowski. Dzieje Wielkiego księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1377—1499. Warszawa, 1930, s. 204.

сторыі. Смаленская хроніка, напісаная як суцэльнае апавяданне на адну тэму пра падзеі 1430—1436 гг., хутчэй нагадвае кароткую гістарычную аповесць, чым звычайны летапіс з яго асобнымі пагадовымі запісамі. Гэта форма на беларускай глебе, трэба думаць, узнікла не пад уздзеяннем замежных узораў, а самастойна, як вынік пэўнай эвалюцыі летапіснага жанру на Беларусі ў мясцовых умовах таго часу.

За Смаленскай хронікай 1436 г. у першым беларускалітоўскім летапісу чытаецца «Пахвала Вітаўту» — своеасаблівы і цікавы помнік беларускай сярэдневяковай літаратуры.

«Таину цареву таити добро есть, а дѣла великого осподаря повѣдати добро же есть. Хощю вам повѣдати о великом князи Александрѣ, зовемом Витовтѣ, Литовском и Руском и иных многих земель государ(и)» [116],— так пачынае пахвалу свайму герою беларускі кніжнік. Ён аддае ўвесь свой літаратурны вопыт, усё сваё умельства пісьменніка, каб уславіць вялікага князя Вітаўта: «Яко ж бы мощно кому испытати высота небѣсная и глубина морская, то ж бы мощно исповѣдати силу и храбрость того славного государя».

Аўтар «Пахвалы Вітаўту» ў захапленні ад велічы і магутнасці свайго героя, і гэта захапленне ён імкнецца перадаць чытачу. Валадары навакольных дзяржаў, даводзіць пісьменнік, «во велиции любви живуще» з князем Вітаўтам і «честь велику и дары многи и дани приношаху ему не токмо по вся лѣта, но и по вся дни». Вялікую пашану аддаюць літоўскаму князю нават сам цэзар рымскі і цар царградскі. Больш таго, «еже есть цѣсарь над всею землею, и тои пришед поклонися славному госуда-

---

[116] Тэкст «Пахвалы Вітаўту» падаецца паводле Акадэмічнага і Супрасльскага спісаў. У Нікіфараўскім яна не захавалася.

рю, великому князю Александру, зовемому Витовту». Асабліва падрабязна спыняецца аўтар на адносінах да Вітаўта татарскіх ханаў, якія, на яго думку, атрымлівалі залатаардынскі трон толькі з дазволу вялікага літоўскага князя.

У такім урачыста-ўзнёслым тоне вытрымана ўся «Пахвала Вітаўту». Пафас у гэтым творы месцамі дасягае надзвычай высокага публіцыстычнага напалу, хоць і не заўсёды аўтар знаходзіць свежыя вобразныя сродкі, каб па-мастацку выказаць свае перажыванні, сваю задуму. Праўда, асобныя яго разгорнутыя параўнанні гучаць даволі свежа, арыгінальна, як уласныя паэтычныя знаходкі: «Яко рѣка, преходящи всю землю, человеки и скоты напояющи, а сама не умаляющися, також и славныи господарь множество цареи отпущаеть на Орду, а в него большало цареи».

Разглядаемы помнік вельмі блізкі да «Пахвалы гетману Астрожскаму», створанай у 1515 г. у гонар перамогі беларуска-літоўскіх войск над маскоўскімі пад Оршаю[117]. І калі апошняя пераўзыходзіць «Пахвалу Вітаўту» з літаратурна-мастацкага боку, то ў той жа час яна некалькі слабей сваёй папярэдніцы ў прастаце і непасрэднасці выказанага ў ёй пачуцця.

Сваім характарам «Пахвала Вітаўту» ярка вылучаецца на фоне звычайных летапісных апавяданняў першага беларускага зводу. Яна нагадвае хутчэй усхваляваную, эмацыянальную прамову-пропаведзь у гонар князя Вітаўта, чым гістарыяграфічны твор. Галоўны герой не раскрываецца ў дзеянні, а паказваецца статычна. Яго дадатныя якасці проста дэкларуюцца як ужо дадзеныя. «Пахвала Вітаўту» сваім урачыстым, хвалебным тонам

---

[117] Супрасльская рукопись, содержащая Новгородскую и Киевскую сокращенные летописи. М., 1836, стар. 149—154.

і нечым яшчэ большым, спецыфічна жанравым збліжаецца з вершаванымі панегірыкамі, якія пачалі з'яўляцца ў нас у другой палавіне XVI ст. Таму яе аўтара можна з поўным правам лічыць пачынальнікам панегірычнага жанру старажытнай беларускай літаратуры.

Хоць «Пахвала Вітаўту» не адносіцца да эпічных твораў тыпу Смаленскай хронікі, г. зн. не з'яўляецца гістарычнай аповесцю, сувязь яе з падзеямі першай палавіны XV ст. несумненная. Дастаткова прыгадаць заключную частку «Пахвалы Вітаўту», каб пераканацца ў гэтым. Апавядаючы пра літоўска-татарскія ўзаемаадносіны, аўтар пералічае імёны некаторых ханаў (Салтана, Даўлад-Бярдзея, Махмета), якія атрымалі ўладу ў Залатой Ардзе «от руки» Вітаўта. Факт прызначэння ў Ардзе вялікім літоўскім князем ханаў сваёй арыентацыі, як і імёны названых ханаў, адпавядае гістарычнай сапраўднасці [118].

Такім чынам, аўтар «Пахвалы Вітаўту» абапіраўся на гістарычныя факты. Але ў сувязі з тым, што спецыфіка жанру не вымагала стварэння эпічнай гісторыі княжання Вітаўта, то гістарычныя факты ў творы былі закрануты толькі ўскосна, каб лепш дасягнуць галоўнай мэты — узвелічэння і ўслаўлення самога князя.

Пахвала як своеасаблівы від панегірычнага жанру вядома і ў пісьменнасці ўсходніх славян эпохі Кіеўскай Русі. Аднак старажытнарускімі кніжнікамі пахвалы звычайна ствараліся ў сувязі са смерцю якога-небудзь вядомага князя, таму і змяшчаліся ў летапісах звычайна пасля паведамлення пра яго смерць. Адсюль і мінорны тон гэтых пахвал.

Пасля звесткі пра смерць князя Вітаўта ў тэксце Смаленскай хронікі змешчана пахвала яму і ў Слуцкім

---

[118] Б. Д. Греков, А. Ю. Якубовский. Золотая Орда и ее падение. М.— Л., 1950; И. Б. Греков. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963.

спісе першага беларуска-літоўскага летапісу. Аднак у Супрасльскім спісе яна чытаецца непасрэдна пасля Смаленскай хронікі. Загадкавае размяшчэнне «Пахвалы Вітаўту» ў Супрасльскім спісе выклікала самыя разнастайныя здагадкі ў першых даследчыкаў беларускіх летапісаў. Сапраўды, месца «Пахвалы Вітаўту» ў Слуцкім спісе здаецца больш натуральным, чым у Супрасльскім. Гэта акалічнасць прымушала некаторых вучоных нават аддаваць перавагу Слуцкаму спісу перад Супрасльскім і лічыць першы больш старажытным, а значыць, і больш важным для правільнага ўяўлення аб пратографе разглядаемага беларускага летапісу [119].

І сапраўды, месца «Пахвалы Вітаўту» ў Слуцкім спісе больш адпавядае ўстаноўленай традыцыі. Але ж, як мы ведаем, размяшчэнне ўсіх састаўных частак нашага летапісу ў гэтым спісе з'яўляецца больш познім, больш далёкім ад аўтарскага арыгіналу, чым у Супрасльскім. Таму можна быць упэўненым, што першапачатковае месца «Пахвалы Вітаўту» ў першым зводзе — пасля Смаленскай хронікі, што і пацвярджае тэкст самой хронікі. У месцы мяркуемай устаўкі «Пахвалы» ў Супрасльскім і Нікіфараўскім спісах няма пропуску. Усе часткі тэксту тут лагічна звязаны паміж сабою: «...преставися великыи князь Витовт месяца октября 23 на память святого апостола Якова, брата господня [120], и сяде на великое княженье князь великыи Швидригаило Олгирдович, на Вилни и на Троцех, и княжи великыи князь Швитригаило 2 годы без двух месяцеи» і г. д. Прымусовая ж устаўка «Пахвалы Вітаўту» ў тэкст Смаленскай хронікі, як гэта

---

[119] A. Prochaska. Latopis Litewski. Rozbiór krytyczny. Lwów, 1890, s. 6.

[120] Пасля гэтых слоў у Слуцкім спісе чытаецца «Пахвала Вітаўту».

зроблена ў Слуцкім спісе, штучна разбурае цэльнасць апавядання.

Усё гэта пераканаўча паказвае, што «Пахвала Вітаўту» не з'яўляецца арганічнай часткай Смаленскай хронікі. Таму яна і дайшла да нас у Супрасльскім і Акадэмічным спісах [121] побач, а не ў складзе гэтай хронікі, бо на самай справе прадстаўляе асобны помнік. Гэты вывад цалкам пацвярджае запіс у адным беларускім рукапісу XV ст.[122] Беларускі кніжнік, спісаўшы ў 1428 г. у Смаленску кнігу слоў Ісаака Сірына, дадаў ад сябе ў канцы рукапісу кароткае апавяданне пра князя Вітаўта. Параўнанне запісу з летапіснай «Пахвалой Вітаўту» выяўляе амаль поўнае тэкстуальнае супадзенне асобных мясцін гэтых твораў.

| *Запіс 1428 г.* | *«Пахвала Вітаўту»* |
| --- | --- |
| «Тѣ же велиции князи всѣх земель тѣх и языков, еже писахом здѣсе в книзѣ сеи, велику честь и дары подаваху славному господарю, великому князю Александру, зовому Витовту, тако же и велики дары и дани приношаху ему не токмо на всяко лѣто, но и по вся дни. А от тѣх великих земель которому осподарю повелеваше к собѣ быти, они без всякого | «Тые же велиции цари и велиции князи и велиции земли, иж писахом зде, ини во велиции любви живуще с ним, а инии крѣпко служаху ему, славному государю, и честь велику и дары многи и дани приношаху ему не токмо по вся лѣта, но и по вся дни. И коли славны государь, великыи князь Александр, зове- |

[121] Пасля Смаленскай хронікі чыталася «Пахвала Вітаўту» і ў Нікіфараўскім спісе.

[122] ПБЛ, I. 476, л. 153 адв. — л. 154. Надрукавана ў XVII т. ПСРЛ, сл. 417—420.

ослушания прихожаху к нему с своих земель. Есть пак хочеть поити на которую землю, на них сам бываше коли гнѣвен, или пак силных своих воевод гдѣ послати хощеть и ис котороп земли которым государем веляше к собѣ быти, ино тѣх великих земель государи безо всякого ослушания приходять со всѣми своими силами на помочь и на его службу» [123]

мыи Витовт, на которую землю бываше гнѣвен и которую землю хотяше сам казнити или паки силных своих воевод послати где въсхощеть, и к которому от тых великих земель повелеваше к собѣ быти, и они безо всякого ослушаниа воскоре прихождаху со своеи земли ко нему. И коему государю нѣ за какую нужю немощно быти, и он вся своя рати и силы посылаше ко ему на помощь и на его службу» [124]

Пахвала 1428 г. мае больш сціслы і цэласны характар, чым летапісная «Пахвала Вітаўту», якая значна пашырана асобнымі тэкставымі ўстаўкамі і ўтварае, такім чынам, новую, пашыраную рэдакцыю папярэдняй. «Пахвала Вітаўту», змешчаная ў першым беларуска-літоўскім летапісу, узнікла на аснове пахвалы 1428 г., а не наадварот, што адзначана ўпершыню ўкраінскім даследчыкам М. Грушэўскім [125].

Апрацоўваючы запіс 1428 г. пра князя Вітаўта, новы рэдактар або той жа самы аўтар дадаў у пачатку твора літаратурны ўступ, пашырыў кола «паклоннікаў» Вітаўта, а ў канцы дапісаў апавяданне пра татарскіх ханаў.

[123] ПСРЛ, т. XVII, сл. 418.

[124] Там жа, сл. 137—138.

[125] М. Грушевський. «Похвала в. кн. Витовту»... Записки навукового товариства імени Шевченка, т. VIII, стар. 1—16.

Падобная апрацоўка дала два важныя вынікі: па-першае, галоўны герой быў узняты на яшчэ больш высокі п'едэстал; па-другое, «Пахвала Вітаўту» атрымала закончаны выгляд, а значыць, і права лічыцца асобным літаратурным творам.

Усім сваім урачыста-святочным, мажорным тонам «Пахвала Вітаўту» належыць да таго часу, калі яшчэ быў сярод жывых гэты князь. Значыць яе новая, пашыраная рэдакцыя магла быць створана не раней 1428 г., калі ўзнікла першая рэдакцыя, крыніца летапіснай, і не пазней 1430 — года смерці Вітаўта.

Няцяжка заўважыць, як добра адпавядае летапісная «Пахвала Вітаўту» свайму часу, грамадска-палітычнай атмасферы Вялікага княства Літоўскага якраз перад каранацыяй Вітаўта (1430). Паказальны таксама і факт поўнай сугучнасці ўсіх уставак і змен, якія былі ўнесены ў запіс 1428 г., іменна з гэтай падзеяй.

Калі згодна з пахвалой 1428 г. уплыў Вітаўта абмяжоўваўся выключна Усходняй Еўропай («тогда бяху крѣпко служаху ему велиции князи: великии князь Московски, великии князь Тфѣрьски, велики князь Рязаньски, великии Новгород, великии Псков и спроста рещи весь Руськии язык», а таксама татарскія ханы, магістры Ордэна, ваяводы малдаўскія і бесарабскія), то ў новай апрацоўцы магутнасці і славе вялікага літоўскага князя нададзена ўжо сапраўды ўсееўрапейскае гучанне. «Во велицеи любви живущи» з Вітаўтам, «велику честь подаваше» яму, дадае аўтар, нават сам цэзар рымскі (ён жа імператар германскі, кароль венгерскі і чэшскі), цар цареградскі, кароль польскі, а ў Ардзе літоўскі князь мае практычна неабмежаваны ўплыў. Услаўляючы свайго героя, падкрэсліваючы яго вялікі міжнародны аўтарытэт, аўтар, напэўна, імкнуўся давесці, што князь Вітаўт як валадар роўны найбольш магутным царам і каралям

Еўропы, а значыць, таксама мае поўнае права насіць тытул караля. Летапісная «Пахвала Вітаўту» служыла як бы ідэйна-палітычным і мастацкім абгрунтаваннем такога важнага кроку літоўскага князя, як яго рашэнне неадкладна прыняць карону.

Найбольш верагодна, што другая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту» ўзнікла ў 1430 г. І тое, што яна аказалася побач са Смаленскай хронікай і кароткімі смаленскімі запісамі ў складзе арыгінальнай часткі «Избрания лѣтописания» першага беларускага зводу, што яна створана на аснове прыватнага смаленскага запісу 1428 г., сведчыць аб яе смаленскім паходжанні. Дарэчы, у самым запісу некалькі разоў упамінаецца смаленскі епіскап Герасім, па загаду якога і была спісана кніга слоў Ісаака Сірына, у якой захавалася першая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту». Таму сувязь аўтара летапіснай пахвалы з гэтым смаленскім епіскапам таксама не выклікае сумнення.

Ф. Сушыцкі выказваў меркаванне, што і «Пахвала Вітаўту» 1428 г., і яе летапісная рэдакцыя, і нават Смаленская хроніка належаць пяру адной і той жа асобы [126]. Сапраўды, усё, што мы ведаем пра аўтара гэтых твораў, час і месца іх узнікнення, пацвярджае думку Сушыцкага.

Атаясамліваць аўтара «Пахвалы Вітаўту» дзвюх рэдакцый з аўтарам Смаленскай хронікі нам дазваляюць і некаторыя іншыя, больш канкрэтныя факты. Напрыклад, каранацыйны з'езд у Вільні знайшоў адлюстраванне і ў Смаленскай хроніцы, дзе выказаны жаль з выпадку няўдалай каранацыі Вітаўта. Такое мінорнае адценне апавядання пра вынікі з'езда 1430 г. зразумелае ў чалавека, які выдатна абгрунтаваў у «Пахвале Вітаўту» поўнае права вялікага літоўскага князя на атрыманне кароны.

---

[126] Т. Сушицький. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури, стар. 134—136.

Больш таго, супастаўленне пахвалы 1428 г. са Смаленскай хронікай выяўляе ў адным месцы іх непасрэдную сувязь паміж сабою. Пералічэнне ў пахвале ўсіх усходнеславянскіх зямель, падначаленых Вітаўту, і аналагічнае пералічэнне ў Смаленскай хроніцы зямель, ад якіх прыбылі прадстаўнікі на каранацыю Вітаўта, поўнасцю супадаюць і ў назвах, і ў парадку падачы гэтых назваў. Гэта падабенства тлумачыцца, нам думаецца, не залежнасцю Смаленскай хронікі 1436 г. ад «Пахвалы Вітаўту» 1428 г., як лічыў Сушыцкі [127], а хутчэй за ўсё тым, што яны напісаны адной і той жа асобаю.

«Пахвала Вітаўту», змешчаная ў тэксце Смаленскай хронікі і некалькі скарочаная, увайшла затым і ў склад другога зводу. Аднак аўтар «Хронікі Быхаўца» палічыў ужо непатрэбным уключаць яе ў свой летапісны звод. Відавочна, у новых гістарычных умовах «Пахвала Вітаўту» перастала ўжо гучаць надзённа. Ідэйная накіраванасць гэтага твора, яго пафас, напэўна, не выклікалі ў чытачоў другой палавіны XVI — XVII ст. адпаведнага суперажывання, не знаходзілі ў іх таго водгуку, на які разлічваў яго аўтар, чалавек першай палавіны XV ст.

Пасля «Пахвалы Вітаўту» ў першым беларуска-літоўскім летапісу змешчана некалькі летапісных запісаў таксама смаленскага паходжання, датаваных 1432—1445 гг. Гэты кароткі смаленскі летапіс пачаў складацца ў 1440 г. і працягваўся да 1445 г. уключна. У запісу пад 1440 г. паведамляецца пра забойства ў Літве князя Жыгімонта Кейстутавіча, а затым апавядаецца пра паўстанне смалян супраць ваяводы Андрэя Саковіча. 1440 год мы маем поўнае права лічыць пачаткам новага этапа летапіснай працы ў Смаленску на той падставе, што папярэднія

---

[127] Т. Сушицький. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури, стар. 133.

запісы за 1432—1438 гг. зроблены не ў 30-х гадах XV ст., а пазней. Напрыклад, паведамленні 1432—1435 гг. прадстаўляюць сабою тэкстуальную выбарку адпаведных мясцін Смаленскай хронікі, якая ўзнікла не раней 1436 г. Форма наступнага запісу («В лѣто 6944, в лѣто 6945, в лѣто 6946 — в тыи же лѣта бысть глад велик во Смоленску») таксама сведчыць пра тое, што ён зроблены пасля 1438 г.

Запісы за 1432—1438 гг. устаўлены, відаць, для таго, каб запоўніць вакуум, які ўтварыўся ў тэксце зводу паміж Смаленскай хронікай, што пачыналася датай 6939 (1430) г., і апавяданнем пра смаленскія падзеі 1440 г. Гэта ўстаўка зроблена, на нашу думку, не складальнікам першага зводу, які дадаў тут толькі адзін сказ («Того ж лѣта Махмет царь побил москвич»), а аўтарам запісу 1440 г. Схіляцца да такога вываду нас прымушае наступны факт. Аўтар кароткай выбаркі са Смаленскай хронікі і смаленскіх запісаў 1440—1445 гг. кожны новы год лічыў пачынаючы з 1 сакавіка, у той час як аўтар гэтай хронікі, як і складальнік ўсяго зводу, новы год датаваў 1 верасня.

Значыць, аўтар кароткага смаленскага летапісу працаваў як прадаўжальнік Смаленскай хронікі 1436 г. І перш чым зрабіць свой першы запіс пра падзеі 1440 г., ён для яго храналагічнай сувязі з першай датай гэтай хронікі (1430) уставіў некалькі кароткіх звестак за 1432—1438 гг. Аднак ён не заўважыў, што падобнай «аперацыяй» была парушана храналагічная паслядоўнасць падзей, бо Смаленская хроніка фактычна заканчвалася звесткамі 1436 г.

Чаму ж іменна ў 1440 г. пасля кароткага перапынку ў Смаленску аднавілася летапісная праца? Тут варта прыгадаць, што гэты год быў надзвычай багатым на важныя гістарычныя падзеі, пра якія і вырашыў летапі-

сец абавязкова зрабіць свой гістарычны запіс. «В лѣто 6948 сотворися зло велико в Литвѣ,— апавядае ён,— убиен бысть князь велики Жикгимонт во градѣ Троцех во вербную неделю перед обедом, и бысть мятеж велик в Литовскои земли». Але характэрна, што ні пра дэталі гэтага забойства, ні пра наступныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім аўтар больш нічога не паведамляе, а сваю ўвагу сканцэнтроўвае выключна на смаленскіх падзеях, на паўстанні «чорных людзей» (рамеснікаў, гарадской беднаты) супраць смаленскага ваяводы Андрэя Саковіча.

Звернем увагу на адносіны аўтара да гэтых падзей. Пасля забойства ў Троках вялікага князя Жыгімонта, апавядае летапісец, ваявода смаленскі Андрэй Саковіч «поча приводити ко целованию смолнян: «что ж князи литовски(и) и паны (и) вся земля Литовская кого посадять на Вильни на великом княжени(и), и вам от Литовскои земли не отступати и (от) великого князя Литовского, а ко иному не приступати, а мене вам в себе держати воеводою во себе[128], доколе сядеть на Вилни князь великыи». І ўсе жыхары Смаленска, князі, баяры, «чорныя людзі», мяшчане «целовали пана Андрѣя на всем том: Вилни не отступати и пана Андрѣя держати в себе честно воеводою на Смоленску». Аднак неўзабаве смаляне вырашылі Андрэя Саковіча «согнати силою с города, а целование переступили»,— падкрэслівае аўтар гэтага апавядання.

Як бачым, летапісец не ўхваляе дзеянні смалян, якія парушылі сваю прысягу. У той жа час на працягу ўсяго апавядання ён не выяўляе ніякіх асабістых сімпатый да ваяводы Андрэя Саковіча. Такая нейтралісцкая, як бы дваістая пазіцыя аўтара запісу 1440 г. тлумачыцца тым,

[128] «Во себе» тут у Супрасльскім спісе паўторана памылкова.

што ён не быў прыхільнікам выхаду Смаленска са складу Вялікага княства Літоўскага. Пагроза ж такая сапраўды існавала ў 1440 г., бо смаляне спачатку ўзялі сабе за ваяводу Андрэя Дарагабужскага, пасля ж самастойна «призваша к собе государем» князя Юрыя Лугвеніевіча. Іх паўстанне супраць Андрэя Саковіча, намесніка вялікага літоўскага князя ў Смаленску, было не толькі выступленнем сацыяльнага характару, але і спробай вярнуць былую незалежнасць свайго горада. Вось чаму летапісец, ставячы агульнадзяржаўныя інтарэсы вышэй за мясцовыя, так хваляваўся за канчатковы зыход падзей. Гэта, аднак, не перашкодзіла яму, смаляніну, выказаць свой жаль з выпадку таго, што ў час паходу на Смаленск літоўскага войска «многа зла сотворися».

Яшчэ больш выразна пазіцыя аўтара смаленскіх запісаў выяўляецца ў паведамленні 1445 г. пра ваенныя сутычкі на ўсходніх межах Вялікага княства Літоўскага: «поможе бог Литви, и побиша москвичь, и много их поимаша живых и приведоша их во Смоленеск ко великому князю Казимеру, и учиниша тогды великому князю честь и собѣ».

Нягледзячы на натуральную зацікаўленасць летапісца пераважна мясцовымі падзеямі, мы ўсё ж не можам яго ўпікнуць у абмежаванасці агульнапалітычнага погляду. Адсюль і смаленскія запісы пра падзеі 1432—1445 гг., вылучаючыся сваёй чыста летапіснай формай на фоне іншых мясцовых матэрыялаў першага зводу, у цэлым усё ж блізкія да іх сваімі агульнымі тэндэнцыямі. Аўтарам смаленскіх запісаў быў, магчыма, манах смаленскага Спаскага манастыра, які двойчы (пад 1443 і 1445 гг.) упамінаецца ў нашым летапісу.

Такім чынам, смаленская крыніца першага беларуска-літоўскага летапісу з'яўляецца смаленскай паводле свайго паходжання і складаецца з трох частак:

Смаленскай хронікі, «Пахвалы Вітаўту» і мясцовых пагадовых запісаў 40-х гадоў XV ст. Увайшоўшы ў першы звод, гэтыя творы склалі яго першую арыгінальную частку. Другой арыгінальнай мясцовай крыніцай нашага летапісу стаў «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх».

## „ЛЕТАПІСЕЦ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ"

«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» як помнік пісьменнасці прадстаўляе сабою літаратурна-гістарыяграфічны твор, у якім выкладаецца палітычная гісторыя Вялікага княства Літоўскага амаль за цэлае стагоддзе: храналагічна ён ахоплівае перыяд прыблізна ад смерці князя Гедыміна (1341) да смерці князя Вітаўта (1430). Гэты твор напісаны без дат у форме суцэльнага, прагматычнага апавядання пра падзеі мінулых часоў, што адбываліся на тэрыторыі сучаснай Літвы, Беларусі і Украіны. Таму фактычна перад намі не летапіс, а хроніка, невялікая гістарычная аповесць.

Аднак па сваёй будове «Летапісец» не вызначаецца цэласнасцю. У галоўнай яго частцы[129] ў храналагічнай паслядоўнасці апавядаецца пра падзеі, звязаныя пераважна з дзейнасцю вялікіх літоўскіх князёў (пачынаецца з пералічэння сыноў князя Гедыміна і заканчваецца паведамленнем пра сустрэчу ў Смаленску князя Вітаўта з князем Васіліем Маскоўскім[130]). У заключнай частцы гэтай хронікі[131] дзеянне пераносіцца на Падолле, і далей выкладаецца выключна гісторыя гэтай украінскай зямлі з часоў князя Альгерда (трэцяя чвэрць XIV ст.) да пачатку 30-х гадоў XV ст. Дакладней кажучы, «Летапісец

129 ПСРЛ, т. XVII, сл. 71—81.
130 Гэта сустрэча адбылася ў 1396 г.
131 ПСРЛ, т. XVII, сл. 81—84.

вялікіх князёў літоўскіх» складаецца з уласна «Летапісца» і аповесці пра Падолле. Гэтыя часткі ствараюць уражанне асобных, самастойных твораў.

Змест аповесці пра Падолле коратка такі. Пасля таго як князь Альгерд разбіў на р. Сінія Воды трох татарскіх цемнікоў і вызваліў частку Украіны ад татарскай няволі, на Падолле накіраваліся сыны Карыята Навагрудскага, роднага брата вялікага літоўскага князя. «Тогды, — апавядае аўтар, — в Подолскои земли не был ни один город ни деревом рубленыи, ни каменем будованыи». З цягам часу Карыятавічы паступова асвоілі ўсё Падолле: засялілі яго, пабудавалі там гарады. Калі вялікім князем стаў Вітаўт (1392), апошні з Карыятавічаў Фёдар, тагачасны валадар Падолля, не хацеў падпарадкавацца новаму князю. Вітаўт пайшоў вайною на Падольскую зямлю, пазбавіў яго ўлады і пасадзіў сваіх намеснікаў. Так Падолле было канчаткова далучана да Вялікага княства Літоўскага. «А добыл (Вітаўт Падолле.— *В. Ч.*) литовскими силами, а никто ему ни с которых сторон не помогали»,— шматзначна падкрэслівае храніст. Пасля польскі кароль Ягайла выпрасіў у Вітаўта, заплаціўшы дваццаць тысяч пенязяў, заходняе Падолле, якое было аддадзена на ўтрыманне польскаму феадалу Спытку Мяльштынскаму. Пасля гібелі Спытка ў час бітвы з татарамі на р. Ворскле (1399) кароль Ягайла вярнуў заходняе Падолле Вялікаму княству Літоўскаму. «А как князя великого Витовта в животе не стало, и приѣхавши ляхове пана Долкгирда[132] из города ис Каменца созвали на раду к собѣ и, до рады не допустивши, самого иняли и ограбили, и Каменец засѣли, и все тое забрали, што (в) Подолскои земли держать»,— так заканчваецца аповесць пра Падолле.

---

[132] Апошні літоўскі стараста на Падоллі пры Вітаўце.

Няцяжка заўважыць, што гэты помнік створаны з мэтай абгрунтаваць і даказаць гістарычнае права Вялікага княства Літоўскага на Падольскую зямлю, якую незаконна, гвалтам захапіла Польшча. Па той запальчывасці, датклівасці, з якою аўтар абараняе тут інтарэсы сваёй дзяржавы, можна з упэўненасцю сказаць, што разглядаемы твор напісаны ў момант найбольш напружаных адносін Вялікага княства Літоўскага з Польшчай з-за Падолля.

Асабліва складаным было становішча ў 1431—1434 гг. Адразу ж пасля смерці князя Вітаўта польскія феадалы рынуліся на Падолле і захапілі яго заходнюю частку з галоўным горадам Камянцом. Настойлівыя намаганні Свідрыгайлы вярнуць гэтыя землі Вялікаму княству Літоўскаму закончыліся беспаспяхова. Больш таго, князь Жыгімонт актам ад 15 кастрычніка 1432 г. перадаў Кароне ўсё Падолле [133]. Аднак фактычна яшчэ да 1435 г. усходняя частка Падольскай зямлі знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Паколькі ж заключная частка хронікі прысвечана выключна гісторыі заходняга Падолля і аўтар найбольш хвалюецца за лёс іменна гэтай часткі тэрыторыі, то трэба меркаваць, што сам твор быў напісаны да 1435 г., калі ўсходняе Падолле яшчэ належала Вялікаму княству Літоўскаму, г. зн. дзесьці ў 1431—1434 гг.

Аповесць пра Падолле ўзнікла ў асяроддзі тых грамадскіх колаў, прадстаўнікі якіх яшчэ цвёрда стаялі на варце дзяржаўных інтарэсаў Вялікага княства Літоўскага і горача абаранялі яго цэласнасць і незалежнасць перад наступам польскіх паноў. І хоць гэтыя «літоўскія»

---

[133] М. Грушевський. Історія України — Руси. Т. VI. Житє економічне, культурне, національне XIV—XVII віків. Київ—Львів, 1907, стар. 179; L. Kolankowski. Dzieje Wielkiego księstwa Litewskiego za Jagiellonów, t. I, s. 189.

патрыёты, напэўна, свядома і не ставілі сабе на мэце prабарону нацыянальных і тым больш сацыяльных праваў літоўскага, беларускага і ўкраінскага народаў, бо, відаць, самі належалі да пануючага класа, аднак у дадзеных гістарычных умовах іх дзейнасць мела станоўчае значэнне, паколькі яна супрацьстаяла агрэсіі польскіх феадалаў на ўкраінскія і беларускія землі.

Мова і стыль гэтай хронікі вольныя ад кніжнай стараславяншчыны і вельмі нагадваюць мову і стыль актаў і грамат Вялікага княства Літоўскага XV ст. Гэта дае падставы бачыць у аўтару аповесці пра Падолле свецкага чалавека, які, напэўна, быў блізкі да кіруючых колаў. Магчыма, гэта быў адзін з пісцоў велікакняскай канцылярыі, дзе можна было атрымаць падрабязную інфармацыю пра мінулае Падолля. Іменна тут, у Вільні, дзе рабілася вялікая палітыка, найбольш рэальна і магла ўзнікнуць у тагачасных умовах вострая патрэба ў падобным творы, каб ідэалагічна абгрунтаваць гістарычнае права Вялікага княства Літоўскага на ўсю Падольскую зямлю насуперак дамаганням Польшчы. Меркаванне некаторых даследчыкаў, што аповесць пра Падолле напісана на Украіне і з'яўляецца ўрыўкам з якойсьці невядомай нам Падольскай хронікі[134], думаецца, не можа быць даказаным. Падобнае сцверджанне не ўзгадняецца і з непасрэдным указаннем самога аўтара разглядаемага твора: «князя Юрья волохове взяли его собѣ воеводою и *тамо* его окормили, а князя Александра татарове убили, а *здѣ(сь)* брат четвертыи, князь Федор Корятовичь Новгородок держал».

Трэба сказаць, што наш храніст паспяхова выканаў

---

[134] I. Szaraniewicz. O latopisach i kronikach ruskich XV i XVI wieku... Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału historyczno-filozoficznego Akademii Umiejętności. T. XV. 1882, s. 378—379.

свой сацыяльны заказ. Хоць хроніка Падолля і ствара-лася з пэўнай палітычнай мэтай, аднак яна не стала афі-цыйным помнікам у строгім значэнні гэтага слова. Аўтар нідзе не перабраў меры, яго тэндэнцыйнасць не заглу-шае гістарычнай праўдападобнасці: апісаныя ў хроніцы падзеі ў асноўным адпавядаюць сапраўдным фактам гісторыі Падолля [135]. Маючы несумненны талент гіста-рыёграфа, шырока выкарыстаўшы свецкую плынь тага-часнай беларускай літаратурнай мовы, ён стварыў арыгі-нальны гісторыка-літаратурны помнік, які ўдала дапоў-ніў «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Іменна таму, што аўтар падышоў да гісторыі Падольскай зямлі як да часткі гісторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага, ён і змог напісаць такі твор, значэнне якога выйшла за ме-жы чыста практычных патрэб свайго часу.

У параўнанні з аповесцю пра Падолле, якая ставарае ўражанне цэласнага і закончанага помніка, уласна «Ле-тапісец вялікіх князёў літоўскіх» выглядае творам фрагментарным, складзеным з некалькіх частак. Неад-народнасць складу гэтай хронікі выяўляецца ў яе знеш-няй і ўнутранай структуры, у асаблівасцях адлюстраван-ня гістарычных падзей і апавядальнай манеры, у мове і стылі асобных яе частак і інш.

Калі ў пачатку «Летапісца» падзеі адбываюцца сваім натуральным парадкам, героі дзейнічаюць адпаведна сваёй уласнай волі, то ў канцы ўчынкамі людзей нярэд-ка кіруе ўжо боская воля, героі ж дзейнічаюць тут больш па законах рэлігійнай маралі. Літоўскія князі высту-паюць супраць Святаслава Смаленскага, «надѣяся на бога и на христианскую силу». Палкі сыходзяцца на біт-ву — так «бог сотвори»; Вітаўт і Скіргайла перамагаюць

---

[135] М. Грушевський. Історія України—Руси. Т. IV. XIV—XVI віки — відносини політичні. У Львові, 1903, стар. 148; стар. 402—403, заўвага 2.

Святаслава — ім «бог поможе»; князь Скіргайла бярэ гарады Чаркасы і Звянігарад з «божиею помощию» і г. д.

Калі ў першай палавіне «Летапісца» аўтара цікавяць выключна падзеі грамадска-палітычнага характару, свецкі бок жыцця сваіх герояў, пераважна дэталі воінскага, рыцарскага быту, то затым ён як бы пераўвасабляецца і звяртае ўжо ўвагу на дэталі, якія выяўляюць у аўтара заключнай часткі гэтай хронікі асобу духоўнага сану, чалавека царкоўна-рэлігійнага светапогляду. Асноўным крытэрыем ацэнкі чалавека для яго служыць бамаральны кодэкс хрысціянства, таму нават апісанні батальных сцэн пад яго пяром часамі атрымліваюць рэлігійную афарбоўку.

Вельмі цікавая і паказальная ў гэтым сэнсе характарыстыка князя Скіргайлы, пададзеная ў канцы «Летапісца». Аўтар, апісваючы яго смерць і цырымонію пахавання, прысвяціў яму бадай што самыя цёплыя радкі хронікі, нягледзячы на свае адкрытыя сімпатыі да вялікага князя Вітаўта, які з'яўляецца галоўным героем заключнай часткі «Летапісца»: «Разболися (Скіргайла.— *В. Ч.*) канон канона крещения, в суботу въеха в город во Киев болен, болев 7 днеи, преставися в среду. И понесоша на главах его священници, поюще пѣсни отходные съ свещами из града Киева ко святеи[136] богородици Печерскои. И положен бысть чюдныи князь Скиргаило, добрыи, наречены во светом крещени Иоан, подле гроба святого Федосия Печерского»[137]. Асаблівыя сімпатыі храніста да гэтага князя добра зразумелыя: Скіргайла не ў прыклад іншым літоўскім князям, у тым ліку і Вітаўту, прыняўшы праваслаўе, застаўся яму верны да самай смерці.

---

[136] У тэксце Супрасльскага спіса тут памылка: «ко свети».
[137] ПСРЛ, т. XVII, сл. 80—81.

Мова і стыль другой часткі «Летапісца» ў параўнанні з яго пачаткам даволі выразна вылучаюцца сваёй царкоўнаславянскай, кніжнай афарбоўкай, архаічнасцю моўных форм. Аўтар тут шырока карыстаецца цытатамі з кананічнай хрысціянскай літаратуры, ужывае часамі некаторыя традыцыйныя выразы («преступив крестное цѣлование») замест новых («забыл правду», «переступил правду»), якія ўжо сталі нормай у беларускай пісьменнасці XV ст. і якія ўжыты аўтарам першай часткі «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». Калі пачатак «Летапісца» сваёй мовай і стылем вельмі нагадвае аповесць пра Падолле, то яго канец у гэтых адносінах збліжаецца са Смаленскай хронікай 1436 г. і з «Пахвалой Вітаўту».

Такім чынам, «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» неаднародны паводле свайго складу. Гэта выснова падмацоўваецца яшчэ адной важнай асаблівасцю разглядаемай хронікі. У параўнанні з другой палавінай «Летапісца» яго першая палавіна характарызуецца вялікай дакладнасцю дэталей і падрабязнасцю фактаў, што датычацца князя Вітаўта і яго бацькі Кейстута, стройнасцю і лагічнасцю выкладу, высокай апавядальнай культурай. Яна напісана жыва і цікава, як бы на адным дыханні, і вылучаецца надзвычайнай цэласнасцю і маналітнасцю.

Мастацкая структура «Летапісца», характар яго асобных частак пераканаўча паказваюць, што гэты твор быў напісаны ў два этапы і двума рознымі аўтарамі [138]. Аднак аднымі тэксталагічнымі назіраннямі дакладна ўстанавіць месца злучэння дзвюх частак «Летапісца» не так проста. Паспяхова вырашыць гэту праблему дапамагае нам «Origo regis Jagyelo et Wytholdi ducum Lithua-

---

[138] Неаднароднасць складу «Летапісца» ўпершыню ўстанавіў С. Смолька (Pamiętnik Akademii Umiejętności, t. VIII, s. 34—53).

nie», [139], твор, арыгінал якога быў напісаны на беларускай мове і папярэднічаў тэксту ўсяго «Летапісца». «Origo regis» прадстаўляе сабою асноўную, першапачатковую частку «Летапісца», яго ядро. Аб гэтым сведчыць тэкст «Origo regis», больш правільны ў многіх чытаннях, больш першапачатковы, чым любы з самых спраўных і поўных тэкстаў «Летапісца». «Origo regis» дапаўняе асобныя пропускі ў тэксце гэтай хронікі, якія, відаць, былі ўжо ў арыгінале першага зводу. Параўнаем два ўрыўкі «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх».

| *«Origo regis»* | *Першы беларуска-літоўскі летапіс* |
|---|---|
| Князя Кейстута задушылі: «Proxa dictus, qui dabat sibi aquam, et *Bilgeny*, frater Custew *Gedko Crewlanyn*, Cuczyk, Lyszycza, serws illegitimus wlgariter Zibintha» | «...Прокша, што воду давал ему, а были ины: Мостев брат, а Кучюк, а Лисица Жибентяи» |
| Князь Ягайла пасля ўцёкаў Вітаўта з Крэва загадаў калесаваць двух чалавек: «unum Wyndimund, patruum matris ducis Wythowdi, patris fratrem eius germanum, et *alium Buttrim*, nepotem germanum matris eius, qui habuit Ulianam» [140] | «...одного Видимонта, дядю матки князя великого Витовта, отчня брата матки его, што держал Уляну» [141] |

[139] ПСРЛ, т. XVII, сл. 219—226. Гэты помнік адкрыты А. Прахаскам (A. Prochaska. Przekład latopisca ruskiego ks. litewskich na język łaciński. Kwartalnik historyczny, zesz. II. Lwów, 1888, s. 196—200). Аналіз яго тэксту ў параўнанні з тэкстам «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» першым зрабіў С. Смолька.

[140] ПСРЛ, т. XVII, сл. 225—226.

[141] Там жа, сл. 76.

Адсутнасць у тэксце першага беларуска-літоўскага летапісу імён Гедкі Краўляніна і Бутрыма — несумненныя пропускі. Што ж датычыцца нейкага «Bilgeny», то ён з'явіўся тут, як вельмі слушна тлумачыў гэта месца А. Прахаска[142], дзякуючы памылцы перакладчыка, які выраз «были ины» прыняў за імя чалавека. Гэтым жа, відаць, тлумачыцца і чытанне «Бѣлік» замест «были ины» ў Віленскім спісе «Летапісца».

На падставе тэксту «Origo regis» можна атрымаць поўнае ўяўленне аб помніку, які папярэднічаў узнікненню «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». У прыватнасці, як паказвае «Origo regis», першапачатковая частка «Летапісца» заканчваецца паведамленнем пра ўцёкі Вітаўта з Крэўскага замка. Значыць, астатняя яго частка належыць ужо другому аўтару.

Што ж выклікала да жыцця беларускі арыгінал «Origo regis»? Каб правільна адказаць на гэта пытанне, неабходна звярнуцца да самога тэксту разглядаемага помніка. У цэнтры яго — апісанне барацьбы за ўладу паміж Кейстутам і Ягайлам, якая ўзнікла неўзабаве пасля смерці вялікага князя Альгерда (1377). Аднак каб лепш падвесці чытача да разумення гэтых падзей, апісанне якіх, трэба думаць, складала галоўны сэнс задумы, аўтар пачаў выклад гісторыі Вялікага княства Літоўскага ад падзей далёкага мінулага, ад Гедыміна. Увага храніста засяроджваецца галоўным чынам на дзвюх асобах, на сынах гэтага князя — Альгердзе і Кейстуце, якія «были у великои милости и в ласцѣ». У хуткім часе яны і змовіліся выступіць супраць свайго брата Яўнута, які згодна з воляй Гедыміна стаў вялікім князем. У дамоўлены тэрмін Альгерд не паспеў прыйсці на дапамогу з Віцебска, і Кейстут заняў Вільню адзін. Але ён не скарыстаў

---

[142] Kwartalnik historyczny, zesz. II, s. 200.

гэту перамогу для сябе асабіста, а велікадушна аддаў віленскі велікакняскі трон Альгерду як старэйшаму брату. «И посади его (князь Кейстут.—*В. Ч.*) на великом княжени (во) Вилни». Браты жылі паміж сабою «у великои любви». Фактычна яны сумесна і кіравалі дзяржавай.

Перад смерцю Альгерд завяшчаў велікакняскі трон Ягайлу, свайму самаму любімаму сыну. І князь Кейстут добрасумленна выканаў волю брата: ён «не остави слова брата своего великого князя Олкгирда..., почнет дръжати князем великым въ Вилни сына (его), князя Якгаила»[143]. З цягам часу адносіны паміж дзядзькам і пляменнікам пагоршыліся і перараслі ў адкрытую варожасць. Відаць, ні славалюбівы Ягайла, ні думны Кейстут не хацелі ўступаць пальму першынства ў кіраванні дзяржавай. Ягайла вырашыў сілай вызваліцца з-пад апекі дзядзькі. Аднак яго намеры сталі вядомы Кейстуту, які апярэдзіў Ягайлу, захапіў Вільню і паланіў свайго пляменніка. Свой учынак Кейстут тлумачыць свайму сыну Вітаўту наступным чынам: «Я князю великому Ягаилу ничего не вчинил, не рушив есмо ни скарбов его, ни стад, а сами у мене не в нятстве ходять, толко за малою сторожею..., а то вчинил есми стерега своеи головы, почюв, пашто на мене лихо мыслить». Ягайла вымушаны быў пакарыцца і даць Кейстуту слова «николи противу его не стояти, а все у воли его быти во всем».

Зразумела, Ягайла не мог пагадзіцца са стратай велікакняскага трона і толькі чакаў зручнага моманту. Выкарыстаўшы адсутнасць Кейстута, які хадзіў на Карыбута, князя Ноўгарад-Северскага, ён з дапамогай крыжакоў захапіў Вільню і Трокі, і Вітаўт не меў сілы перашкодзіць гэтаму. Калі ж пасля войскі Кейстута і Вітаўта

143 ПСРЛ, т. XVII, сл. 193.

рушылі на Вільню, Ягайла прыслаў ганцоў з прапановай міру і запрасіў іх да сябе ў лагер для перагавораў. Прыняўшы некаторыя меры перасцярогі, Кейстут і Вітаўт усё ж даволі легкадумна і даверліва, «надеяся на тыи правды», якія даў ім Ягайла, паехалі да яго ў стан. Фінал вядомы: яны былі схоплены. Неўзабаве па загаду Ягайлы Кейстут быў задушаны ў Крэўскім замку, а Вітаўт паспеў уцячы, пераапрануўшыся ў жаночае адзенне.

Перагаворы Вітаўта і Кейстута з Ягайлам (да іх прыезду ў варожы стан) апісаны нашым храністам з надзвычайнай дакладнасцю і падрабязнасцю. Гэта месца па сваёй псіхалагічнай напружанасці з'яўляецца як бы кульмінацыйным ва ўсім апавяданні. Аўтар абвінавачвае князя Ягайлу ў парушэнні ім элементарных норм чалавечых узаемаадносін, у незахаванні свайго слова гонару і ў той жа час імкнецца апраўдаць паводзіны Вітаўта ў час перагавораў, які зрабіў усё здавалася б неабходнае для бяспекі свайго бацькі.

Характэрны і некаторыя іншыя мясціны гэтага твора. Храніст, напрыклад, сцвярджае, што Кейстут *«посади»* Альгерда на велікакняскі трон, а затым ён жа *«почнеть держати* князем великим во Вилни сына его, князя великого Ягаила». Аўтар тлумачыць, што Ягайла і яго бацька Альгерд фактычна атрымалі вялікае княжанне толькі дзякуючы ласцы і добрай волі Кейстута. Гэта свядомае, хоць і перабольшанае падкрэсліванне выключнай ролі, якую адыгрываў у Вялікім княстве Літоўскім як валадар князь Кейстут, як нам думаецца, зроблена з адной мэтай: давесці, што Вітаўт з'яўляецца непасрэдным пераемнікам улады свайго бацькі Кейстута, якога Ягайла такім здрадлівым чынам пазбавіў жыцця, а таму ён таксама мае ўсе падставы быць вялікім князем. Такім чынам, у першапачатковай частцы «Летапісца», прад-

стаўленай «Origo regis», абараняецца і сцвярджаецца права Вітаўта Кейстутавіча на вялікае княжанне.

Надзвычай цікава паказаны паводзіны князёў Кейстута і Вітаўта ў барацьбе з Ягайлам. Некалькі разоў Кейстут паведамляў Вітаўту, што Ягайла згаварыўся з немцамі супраць іх абодвух, і ўпікаў свайго сына за лішнюю даверлівасць: «ты с ним горазд живешь, а он уже записался с нѣмци на нас». Вітаўт усё ж чамусьці не верыць свайму бацьку і не падтрымлівае яго нават у самы рашучы момант, у час паходу на Вільню. Прынамсі так апавядае нам аўтар «Летапісца», хоць на самай справе, відаць, было крыху інакш. Тут выразна адчуваецца імкненне абавязкова давесці, што Вітаўт ніколі не выступаў супраць Ягайлы па ўласнай ініцыятыве і не прымаў удзелу ў час захопу Вільні князем Кейстутам у 1381 г. Таму калі Кейстут проста абараняецца аўтарам, то Вітаўт яшчэ і апраўдваецца перад Ягайлам за паводзіны ў час міжусобнай вайны.

Наяўнасць гэтых дзвюх тэндэнцый (абарона правоў Вітаўта на велікакняскі трон і апраўданне яго паводзін іменна перад Ягайлам) дазваляе меркаваць, што арыгінал «Origo regis» узнік у той перыяд, калі Вітаўт яшчэ дамагаўся вялікага княжання (1382—1392), або тады, калі яго становішча як вялікага князя сур'ёзна пахіснулася і абгрунтаванне яго права на вялікае княжанне зноў стала вельмі надзённым [144].

Разглядаемы твор, зразумела, мог быць хутчэй за

---

144 М. Грушэўскі датаваў «Origo regis» 1382—1384 гг., Ян Якубоўскі — 1398 г. (М. Грушевський. Історія українськоі літератури. Т. V, [ч. 1], 1926, стар. 168; J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 19). Дату 1398 г., упершыню прапанаваную С. Смолькам, у апошні час прыняў і Е. Ахманьскі (J. Ochmański. Historia Litwy. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1967, s. 79).

ўсё напісаны ў момант найбольш нацягнутых адносін Вітаўта з Ягайлам. Такіх найбольш напружаных момантаў вядома два: 1398 г. (Салынскі трактат Вітаўта з Ордэнам) і 1429—1430 гг. (справа аб кароне). Аднак ні адна з гэтых дат у дадзеным выпадку не падыходзіць па той прычыне, што характар падзей, палітычнае становішча Вітаўта як вялікага князя ў тыя часы не адпавядаюць характару першапачатковай часткі «Летапісца», яе накіраванасці і асноўным тэндэнцыям. І Салынскі з'езд 1398 г., і ўся кампанія 1429—1430 гг. па падрыхтоўцы да каранавання — гэта дэманстрацыя магутнасці і незалежнасці Вітаўта, што добра выражана ў «Пахвале Вітаўту» і чаго якраз і не відаць у «Origo regis».

Нагадаем, з якой уласнай годнасцю і незалежнасцю, як роўны да роўнага, звяртаўся Вітаўт да Ягайлы ў лісце ад 17 лютага 1429 г., даведаўшыся, што апошні адмяніў сваю ранейшую згоду на яго каранаванне: «Вы прыніжаеце нас, нашу дзяржаву і нашых вяльмож, якія гэтым вельмі засмучаны... Мы ўжо выбраны вялікім князем і маем цвёрдую ўладу над нашай дзяржаваю і калі б хацелі, то маглі б і канчаткова яе аддзяліць» (ад Польшчы. — *В. Ч.*) [145].

Калі ліст гучыць як абвінаваўчая вымова Ягайлу, то «Origo regis» — як скарга чалавека, які апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы і, не маючы сіл яго палепшыць, звяртаецца са сваёй крыўдай да акаляючых.

Відаць, таму і не выпадкова, што ў першапачатковай частцы «Летапісца» фактычна апісваецца гісторыя страты Кейстутам віленскага трона, а не гісторыя барацьбы Вітаўта за вялікае княжанне. Большасць пытанняў, узнятых у гэтым творы, не былі надзённымі ні ў 1398,

---

[145] А. Барбашев. Витовт. Последние двадцать лет княжения. 1410—1430. СПб, 1891, стар. 243—244.

ні тым больш у 1429—1430 гг. Малаверагодна, каб Вітаўт, будучы ў зеніце сваёй славы і магутнасці, палічыў патрэбным у той час апраўдвацца перад Ягайлам ці перад кім-небудзь іншым за свае паводзіны ў далёкім мінулым. Значыць, малаверагодна, каб арыгінал «Origo regis» мог узнікнуць у самым канцы XIV ст. ці ў канцы 20-х гадоў XV ст.

Важна падкрэсліць яшчэ, што гэты твор напісаны не як шырокапанарамная гісторыя палітычнага жыцця Вялікага княства Літоўскага адпаведнага перыяду. Наадварот, увага храніста свядома сканцэнтравана толькі на адным храналогічна невялікім этапе яго ўнутрыпалітычнай гісторыі (1378—1382), на падзеях пэўнага характару — барацьбе за ўладу паміж Кейстутам і Ягайлам. Праўда, аўтар пачынае апавяданне ад Гедыміна, аднак багатае падзеямі мінулае сваёй дзяржавы, эпоха княжання Альгерда (1345—1377) не зацікавілі яго і па сутнасці засталіся некранутымі. Тым не менш храніст не прамінуў зазначыць, што іменна Кейстут «посади» Альгерда на вялікакняскі трон, што браты жылі ў згодзе і дружбе і сумесна кіравалі дзяржавай і што яшчэ пры жыцці яны «нарекли» сваімі пераемнікамі на вялікім княжанні сваіх любімых сыноў Вітаўта і Ягайлу. Адчуваецца, што храніст апавядае пра падзеі недалёкага яму мінулага, якія не страцілі яшчэ свайго вялікага значэння.

Апавяданне напісана вельмі мэтанакіравана і пераканаўча: сцвярджаючы законнае права Вітаўта на вялікае княжанне і асуджаючы дзеянні Ягайлы, храніст імкнецца фарміраваць грамадскую думку ў патрэбным яму напрамку. Вось чаму, нягледзячы на знешні аб'ектывізм выкладання, увесь твор гучыць як палітычны дакумент. Аўтар упэўнены ў справядлівасці дамаганняў Вітаўта, аднак у апавяданні гучыць не ўпэўнены голас

пераможцы, а голас пакрыўджанага чалавека, бо, відаць, няпэўнае яшчэ само становішча гэтага князя і невядомы яшчэ канчатковы вынік яго барацьбы з Ягайлам за вялікае княжанне.

З усяго гэтага можна зрабіць вывад, што першапачатковая частка «Летапісца», прадстаўленая «Origo regis», была напісана ў перыяд паміж 1382—1392 гг., калі атрыманне Вільні, сталіцы княства, заставалася яшчэ для князя Вітаўта галоўнай мэтай жыцця.

У свой час С. Смолька [146] выказаў меркаванне, што вусная інфармацыя не была адзінай крыніцай для аўтара разглядаемага твора і што храніст выкарыстаў яшчэ так званы Мемарыял 1390 г. — ліст Вітаўта да саноўнікаў Ордэна [147]. Сапраўды, «Origo regis» у многім блізкі сваім зместам, сваёй накіраванасцю да Мемарыялу 1390 г. Аднак гэта падабенства можа тлумачыцца і тым, што два аўтары, перад якімі стаялі блізкія ідэйна-палітычныя задачы, карысталіся агульнай інфармацыяй. Непасрэднай жа тэкстуальнай залежнасці ад мемарыялу Вітаўта «Origo regis» не выяўляе.

Адно несумненна: першапачатковая частка «Летапісца» ўзнікла ў асяроддзі, якое непасрэдна акружала Вітаўта, і напісана таленавітым апавядальнікам, чалавекам шырокіх поглядаў. Ён не толькі ўмее жыва і займальна расказваць, але і захаваць пры ўсіх сваіх сімпатыях і антыпатыях знешне спакойны тон апавядання, яго аб'ектыўнасць. Відаць, у гэтым творы знайшоў выяўленне і пункт погляду самога Вітаўта на падзеі недалёкага мінулага. Шмат якія падрабязнасці і дэталі, пададзеныя ў аповесці, маглі быць вядомы толькі яму

---

146 Pamiętnik Akademii Umiejętności, t. VIII, s. 43—45.

147 Надрукаваны ў кнізе: Scriptores rerum Prussicarum... B. II. Leipzig, 1863, p. 712—714.

самому і найбольш давераным яго прыбліжаным. Іх інфармацыя, акрамя ўласных назіранняў аўтара, была, пэўна, асноўнай крыніцай пры напісанні беларускага арыгінала «Origo regis».

Праз пэўны, але дакладна невядомы нам прамежак часу наступны аўтар дапоўніў першапачатковую частку «Летапісца» апавяданнем пра пазнейшыя падзеі. Так быў створаны першы вопыт кароткай гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Працяг «Летапісца» прыкметна адрозніваецца ад яго першапачатковай часткі і характарам выкладу. Ён не мае той маналітнасці, якой вызначаецца «Origo regis», а складаецца нібы з кароткіх навел. Тут і звесткі пра жаніцьбу і каранаванне на польскі трон Ягайлы, пра выданне Соф'і Вітаўтавай за Васілія Маскоўскага, пра атрыманне Вітаўтам віленскага велікакняскага трона, апавяданні пра барацьбу Святаслава Смаленскага з літоўскімі князямі і Вітаўта з князямі ўдзельнымі. Аднак апісанне палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага чамусьці не было даведзена да часу працы аўтара над яе працягам: «Летапісец» абрываецца на падзеях 1396 г. (апошнія звесткі — паведамленні пра смерць князя Скіргайлы і пра сустрэчу Вітаўта з Васіліем Маскоўскім у Смаленску).

Меншая дакладнасць і падрабязнасць звестак другой часткі ў параўнанні з першай сведчыць як пра адсутнасць непасрэднай і блізкай сувязі аўтара працягу «Летапісца» з княскім дваром і самім Вітаўтам, так і пра большую ў параўнанні з першай часткай аддаленасць часу яе ўзнікнення ад апісаных у творы падзей, калі многае ўжо сцёрлася ў памяці аўтара і тых людзей, ад якіх ён атрымліваў патрэбную інфармацыю.

Час працы другога аўтара «Летапісца» таксама нялёгка вызначыць з усёй дакладнасцю. Праўда, адно месца «Летапісца» дазваляе нам некалькі больш кан-

крэтна арыентавацца на пэўны прамежак часу. Паведамляючы аб прычынах хваробы і смерці князя Скіргайлы, аўтар прызнаецца: «аз же того не свѣм, занже бѣх тогды млад, но нецеи глаголють». Для таго каб чалавек, адчуваючы ўжо сябе старым і ўспамінаючы пра пэўную падзею мінулага, гаварыў, што ён тады быў яшчэ маладым, патрэбны значны прамежак у часе, прынамсі не менш як гадоў 25—30[148]. Прычым «млад» у дадзеным выпадку трэба разумець хутчэй за ўсё ў сэнсе малады мужчына[149]. Таму з найбольшай верагоднасцю можна сцвярджаць, што над працягам «Летапісца» другі храніст працаваў дзесьці ў 20-я гады XV ст.

Задума дапоўніць першапачатковую частку «Летапісца», як можна меркаваць па яго працягу, узнікла, відаць, з патрэбы ці з жадання адлюстраваць на паперы і захаваць такім чынам для нашчадкаў велічныя справы і ўчынкі «славнога государя», вялікага князя Вітаўта, г. зн. стварыць нешта накшталт кароткай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якой яшчэ не было. Адсутнасць уласнай пісанай гісторыі, натуральна, найбольш магла адчувацца якраз напярэдадні такой важнай гістарычнай падзеі, як каранацыя Вітаўта.

Значыць, другая частка «Летапісца» створана дзесьці ў 1429—1430 гг. У гэты ж час узнікла і новая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту». Усе гэтыя факты наводзяць на думку, што ў канцы 20-х гадоў XV ст., мабыць, у сувязі

---

148 Напомнім, што князь Скіргайла памёр у 1396 г.

149 Параўнаем яшчэ адзін аналагічны выраз гэтага ж аўтара: «князю Швитригаилу, *тогда сущу младу...*» Гутарка вядзецца пра падзеі 1393—1394 гг. Князь Свідрыгайла выступае ў гэты час ужо як зусім сталы чалавек, які актыўна дабіваецца сабе надзелу і не збіраецца быць апошнім сярод сваіх братоў. Ён не мог нарадзіцца ў самым канцы жыцця свайго бацькі Альгерда, які памёр у 1377 г. у глыбокай старасці. Несумненна, што ў 1393—1394 гг. Свідрыгайлу было не меней дваццаці пяці год.

з маючым адбыцца каранаваннем Вітаўта ў Вялікім княстве Літоўскім праводзілася інтэнсіўная апрацоўка мясцовых гісторыка-літаратурных твораў і, такім чынам, фактычна пачалася падрыхтоўка матэрыялаў для першага летапіснага зводу.

Па той увазе, якая ўдзелена ў другой частцы «Летапісца» падзеям, звязаным са Смаленскам і іншымі гарадамі Усходняй Беларусі, можна меркаваць, што яе аўтар працаваў у самым Смаленску. У апісанні падзей гэтай часткі «Летапісца» выразна выяўляецца рука асобы духоўнага сану. Магчыма, ім і не быў той жа самы кніжнік, які напісаў «Пахвалу Вітаўту» і Смаленскую хроніку 1436 г., але больш верагодна, што аўтар працягу «Летапісца» таксама належаў да асяроддзя, блізкага да смаленскага епіскапа Герасіма, і да адной і той жа літаратурнай школы.

Аўтар працягу быў чалавекам начытаным і выхаваным галоўным чынам на царкоўна-рэлігійнай літаратуры, але ён не быў абыякавым і да свецкіх, грамадска-палітычных інтарэсаў свайго часу. У яго асобе мы маем шчырага прыхільніка князя Вітаўта, гарачага патрыёта сваёй дзяржавы. Да мясцовай смаленскай дынастыі ён ставіцца рэзка адмоўна, нават адкрыта варожа. Прымаючы пад увагу абуральны тон храніста пры апісанні ім паходу Святаслава Смаленскага на Беларусь, некаторыя даследчыкі, напрыклад Ян Якубоўскі[150], лічылі, што падобны твор хутчэй за ўсё мог быць напісаны ў Оршы або ў Мсціслаўе, чым у Смаленску.

На нашу думку, наадварот, рэзка адмоўны паказ паходу Святаслава Смаленскага, магчыма, пэўнае перабольшанне яго лютай расправы над мясцовым насель-

---

[150] J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 21.

ніцтвам маглі быць зроблены іменна ў Смаленску, дзе сярод старэйшага пакалення жыхароў не зусім затухлі ўспаміны пра былую волю Смаленска, пра сваіх мясцовых князёў і дзе, пэўна, яшчэ часамі можна было пачуць скрытыя ноткі асуджэння палітыкі Вітаўта ў адносінах да Смаленскага княства. Таму для нашага аўтара, які сам, магчыма, і не быў смалянінам па свайму паходжанню, у такіх умовах адначасова стаяла яшчэ і задача апраўдаць палітыку літоўскіх князёў у адносінах да Смаленска, абгрунтаваць правамернасць яго далучэння да Вялікага княства Літоўскага. Аб тым, што такая задача была ў той час даволі надзённай, сведчаць падзеі 1440 г., калі «чорныя людзі» выгналі са Смаленска літоўскага намесніка Андрэя Саковіча і паклікалі да сябе асобным князем Юрыя Лугвеніевіча, князя Мсціслаўскага. Вось чаму наш аўтар і апісвае паход літоўскіх князёў на Святаслава Смаленскага як мілую богу справу.

Такім чынам, тэкст таго помніка, які сёння вядомы пад назвай «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», быў складзены паступова, паэтапна. На першым этапе, дзесьці ў 1382—1392 гг., была напісана яго першапачатковая частка, якую прадстаўляе «Origo regis», на другім, у канцы 20-х гадоў XV ст., яна была прадоўжана. На трэцім этапе, у першай палавіне 30-х гадоў, была створана аповесць пра Падолле і затым далучана да «Летапісца».

Кожную з састаўных частак гэтага помніка выклікалі да жыцця пэўныя канкрэтна-гістарычныя патрэбы эпохі, і таму «Летапісец» нясе на сабе адбітак розных, хоць храналагічна і не вельмі аддаленых часоў, выяўляе руку трох аўтараў. Таму ён атрымаўся такім разнастайным па сваіх ідэях і тэндэнцыях, такім шматфарбным сваім стылем і мовай. І ўсё ж у ім ёсць нешта агульнае, што аб'ядноўвае ўсе яго часткі ў адно цэлае, гэта — патрыятызм яго аўтараў і агульнадзяржаўны падыход

да падзей, якія асветлены з пункту погляду цэнтральнай улады, што змагалася з феадальнай раздробленасцю. Аўтары «Летапісца» выступаюць за захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці і палітычнага адзінства ўсіх літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх земель. Вось чаму храністы з прыхільнасцю ставяцца да тых князёў, якія абаранялі дзяржаўныя інтарэсы Вялікага княства Літоўскага, і асуджаюць дзеянні, накіраваныя на паслабленне магутнасці гэтай дзяржавы.

Далейшы лёс «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» склаўся даволі своеасабліва. Адзін з яго спісаў быў выкарыстаны перапісчыкам летапісу Аўрамкі і ўключаны ў канец рукапісу, які захаваўся і да нашага часу (Віленскі спіс). Блізкі да Віленскага спіс «Летапісца» трапіў на тэрыторыю Маскоўскай Русі, у выніку чаго ўзніклі такія яго спісы, як Доброўскага, ЦДАСА № 20/25, Пагодзінскі і БАН № 34. 4. 32. Наяўнасць вялікай колькасці агульных памылак сведчыць пра тое, што ўсе яны ўзыходзяць у сваёй аснове да аднаго спіса. «Летапісец» упершыню, відаць, мог з'явіцца ў Расіі не раней 1514 г., калі пасля працяглай вайны Смаленск апынуўся ў складзе Маскоўскай дзяржавы. Натуральна, што ў гэты час у рускім грамадстве значна павялічылася цікавасць да гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

«Летапісец» на рускай глебе быў пэўным чынам адрэдагаваны: у канцы ён быў значна скарочаны (абрываецца на паведамленні пра атрыманне Вітаўтам віленскага велікакняскага трона), а ў пачатку — некалькі дапоўнены. Акрамя таго, рускія кніжнікі ў адпаведнасці са сваёй моўнай практыкай і літаратурнымі традыцыямі месцамі настолькі значна апрацавалі яго тэкст, што можна ўпэўнена гаварыць пра існаванне рускай рэдакцыі «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» (спісы Пагодзінскі і БАН № 34. 4. 32).

Факт існавання асобных спісаў і рэдакцый «Летапісца» дае падставы разглядаць яго як асобны помнік, незалежны ад іншых твораў, уключаных у першы беларуска-літоўскі летапіс. Аднак увайшоўшы ў склад першага зводу, ён стаў яго арганічнай часткай. І таму, думаецца, будзе неправамерным разглядаць гэты звод без «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», г. зн. лічыць, што ён спачатку не ўваходзіў у склад першага беларуска-літоўскага летапісу і толькі пасля быў далучаны да апошняга. У сувязі з тым што А. Шахматаў [151] і М. Прысёлкаў [152] прызнавалі існаванне і такога першапачатковага беларуска-літоўскага зводу, у якім яшчэ не было «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», мы вымушаны больш падрабязна спыніцца на гэтым пытанні.

Праведзеныя назіранні над тэкстам першага летапісу пераконваюць нас у тым, што «Летапісец» быў вядомы аўтару разглядаемага беларускага зводу. Сувязь яго першых дзвюх частак з «Летапісцам» і свайго роду залежнасць ад апошняга ўкладальніка гэтага зводу праяўляецца ў наступным. Апрацоўваючы звестку рускага летапісу пра смерць Альгерда (1377), беларускі летапісец, відаць, таму апусціў пералік братоў і сыноў гэтага князя, бо падобным пералікам адкрываецца «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Свядомы пропуск укладальнікам першага зводу апавядання пра бітву пад Мсціславам у 1386 г. лагічней за ўсё тлумачыць тым, што апісанне гэтай бітвы было пададзена і ў «Летапісцы» і аўтар зводу не хацеў паўтарацца. Беларускі летапісец выпісаў са сваёй рускай крыніцы звестку не пра смерць Юрыя

---

[151] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 331.

[152] М. Д. Приселков. Летописание Западной Украины и Белоруссии. Ученые записки ЛГУ. Серия исторических наук, вып. 7. стар. 19—20.

Смаленскага, у якой са спачуваннем і жалем гаворыцца пра лёс гэтага князя, а звестку пра бандыцкае забойства Юрыем Святаславічам вяземскага князя Сямёна і яго жонкі Ульяны, што добра ўзгадняецца з адмоўнай ацэнкай дзейнасці Святаслава Смаленскага, бацькі Юрыя, пададзенай у «Летапісцы».

Ускосная сувязь, ці, дакладней, уплыў гэтай хронікі, праявіўся, відаць, і ў спробах аўтара першага зводу злучыць у адзін гадавы запіс па некалькі запісаў рускага летапісу розных гадоў, у яго імкненні будаваць суцэльнае, прагматычнае апавяданне тыпу хронікі. Аналіз разначытанняў тэксту «Летапісца» ў розных спісах паказвае таксама, што гэты помнік прайшоў сумесна з астатняй часткай першага беларуска-літоўскага летапісу адзін і той жа шлях тэкставых змен. Акрамя таго, трэба думаць, што чалавек, якому было дадзена заданне ўкласці звод агульнадзяржаўны, а не мясцовы па свайму характару, не мог не паклапаціцца пра збор усіх вядомых к таму часу летапісных матэрыялаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

Такім чынам, у нас няма падстаў сумнявацца ў тым, што склад першага беларуска-літоўскага летапісу, які захаваўся ў Супрасльскім і падобных да яго спісах, не з'яўляецца першапачатковым, што арыгінал першага зводу не ўключаў «Летапісца». Наадварот, зараджэнне агульнадзяржаўнага летапісання Беларусі і Літвы непасрэдна звязана з «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх», які стаў асновай, ядром усіх наступных беларуска-літоўскіх летапісных зводаў. Ён быў фактычна першай хронікай, першай гісторыяй Вялікага княства Літоўскага. Яго ўзнікненне ў значнай меры стымулявала з'яўленне новых гісторыка-літаратурных твораў і садзейнічала далейшаму развіццю ўсяго беларускага летапісання.

## УЗНІКНЕННЕ І ЛІТАРАТУРНАЯ ГІСТОРЫЯ ПЕРШАГА ЗВОДУ

Амаль усе даследчыкі беларускага летапісання прызнавалі, што першы беларуска-літоўскі летапісны звод быў укладзены ў 1446 г. або дзесьці ў сярэдзіне XV ст. І толькі А. Шахматаў адносіў яго ўзнікненне да 1498—1502 гг.[153] Гэта дата выведзена ім на аснове наступнага запісу Слуцкага спіса: «Василеи роди Иоана, (Иоан) роди Иоана, Иоан роди *Дмитрея»*[154].

Сапраўды, Дзімітрый Іванавіч атрымаў тытул вялікага князя Маскоўскага і ўсёй Русі ў 1498 г., а ўжо ў 1502 г. быў яго пазбаўлены.

Аднак важна падкрэсліць, што прыведзены запіс чытаецца толькі ў Слуцкім спісе і ў летапісных артыкулах, якіх няма ў іншых спісах першага беларуска-літоўскага летапісу. Паколькі склад і парадак размяшчэння састаўных частак нашага летапісу ў Слуцкім спісе з'яўляецца, несумненна, больш познім, чым у Нікіфараўскім, Супрасльскім і Акадэмічным спісах, што прызнаваў і сам А. Шахматаў[155], то няма ніякіх падстаў лічыць аўтарам цытаванага запісу ўкладальніка першага беларускага зводу. Гэты запіс належыць складальніку пратографа Слуцкага спіса, таму рэдактару, які парушыў першапачатковы парадак размяшчэння састаўных частак першага зводу і дадаў некалькі новых летапісных матэрыялаў, у якіх і чытаецца пададзены вышэй пералік маскоўскіх князёў.

На якіх жа аргументах грунтуецца думка, што пер-

---

[153] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 345.

[154] ПСРЛ, т. XVII, сл. 111.

[155] А. А. Шахматов. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв., стар. 329—330.

шы беларускі звод быў укладзены ў 1446 г.? У першую чаргу на фактычных даных самога зводу. Як мы ведаем, апошнія звесткі рускай часткі гэтага помніка, заснаванай на рускіх крыніцах першай палавіны XV ст. (звод 1409 г. і мітрапалітаў летапіс 1446 г.), адносяцца да 1446 г., мясцовыя ж звесткі храналагічна не пазней 1445 г. Важна зазначыць, што ў нашым летапісу няма паведамлення пра абранне ў 1447 г. вялікага літоўскага князя Казіміра польскім каралём, хоць пра ўсе значныя падзеі першых год яго княжання ў летапіс занесены адпаведныя запісы (звесткі за 1440—1445 гг.). Калі б першы беларуска-літоўскі звод складаўся ў канцы XV ст., то яго аўтар, несумненна, знайшоў бы дастаткова матэрыялу, каб запоўніць звесткамі частку за другую палавіну гэтага стагоддзя [156].

Больш таго, звод падобнага тыпу, а іменна агульнарускі па свайму характару, у якім гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі была змешчана на першым плане, а гісторыя Вялікага княства Літоўскага адсунута на другі, думаецца, не мог узнікнуць пазней сярэдзіны XV ст. яшчэ і таму, што к канцу стагоддзя карэнным чынам змяніліся знешнепалітычныя абставіны. Якраз у другой палавіне XV ст. кіруючыя колы гэтай дзяржавы ў новых гістарычных умовах вымушаны былі канчаткова адмовіцца ад ранейшай палітыкі збірання ўсходнеславянскіх зямель вакол свайго цэнтра (так званая агульнаруская праграма), аддаўшы ініцыятыву маскоўскім князям [157]. Укажам яшчэ на адзін факт. Узнікненне Нікіфараўскага

---

[156] У другой палавіне XV — пачатку XVI ст. на Беларусі бытавала нямала летапісных рукапісаў, у якіх звесткі пераходзілі значна далей 1446 г. Так, летапіс Аўрамкі даведзены да 1469 г., а галоўная частка Супрасльскага рукапісу заканчваецца звесткамі 1500 г.

[157] И. Б. Греков. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963, стар. 203—204.

спіса, які не з'яўляецца арыгіналам першага беларуска-га зводу, па ўсіх палеаграфічных прыкметах датуецца трэцяй чвэрцю XV ст.[158] Такім чынам, 1446 г. трэба прызнаць цалкам прымальнай і найбольш верагоднай датай узнікнення першага беларуска-літоўскага летапісу.

Месцам працы аўтара першага зводу ёсць усе падставы лічыць Смаленск. Іменна ў Смаленску былі зроблены кароткія запісы за 1432—1445 гг., што заключаюць датаваную частку гэтага зводу. Са Смаленска паходзяць таксама дзве рэдакцыі «Пахвалы Вітаўту», Смаленская хроніка 1436 г. і працяг «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». Смаленск у XV ст. быў цэнтрам беларускага летапісання, а смаленская епіскапская кафедра — свайго роду ідэалагічнай выразніцай палітыкі вялікіх літоўскіх князёў. Нездарма ж смаленскі епіскап Герасім стаў першым агульнарускім мітрапалітам з мясцовых праваслаўных іерархаў, а на працягу другой палавіны XV ст. іменна смаленская кафедра ў асноўным забяспечвала праваслаўную мітраполію Вялікага княства Літоўскага мітрапалітамі (Місаіл, Іосіф Балгарыновіч, Іосіф Солтан).

Рускія мітрапаліты, якія звычайна тытулаваліся мітрапалітамі Кіеўскімі і ўсёй Русі, імкнуліся аб'яднаць пад сваёй уладаю праваслаўную паству ўсіх усходнеславянскіх зямель. Таму яны былі актыўнымі правадніками агульнарускай ідэі і прыхільнікамі аб'яднаўчай, цэнтралізатарскай палітыкі велікакняскай улады. Не выпадкова першыя маскоўскія летапісныя зводы агульнарускага характару (1409 і 1418 гг.) — мітрапалітавага паходжання. «Ідэйнае збіранне Рускай зямлі ажыцця-

---

[158] Исторические сборники XV—XVII вв. Описание рукописного отдела библиотеки Академии наук СССР. Т. 3, вып. 2. М.—Л., 1965, стар. 107.

вілася ў маскоўскім летапісанні раней, чым яно адбылося ў палітычным жыцці», — справядліва зазначае Д. Ліхачоў [159].

Верагодна, што ідэя стварэння агульнадзяржаўнага летапіснага зводу магла ўзнікнуць у асяроддзі правячых колаў Вялікага княства Літоўскага яшчэ пры Вітаўту і Герасіму, у канцы 20-х гадоў XV ст. [160] Такі намер добра ўзгадняецца з усёй дзейнасцю князя Вітаўта (1392—1430), з яго актыўнай палітыкай на Русі, з намаганнямі перанесці цэнтр агульнарускай праваслаўнай мітраполіі на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага або стварыць другую мітраполію, цалкам незалежную ад Масквы. Магчыма, што з'яўленне ў 1429—1430 гг. новай рэдакцыі «Пахвалы Вітаўту» і «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» і было пачаткам рэалізацыі задумы стварыць новы летапісны звод.

Па некаторых прычынах (магчыма, няўдача віленскага каранацыйнага з'езда і раптоўная смерць Вітаўта, недахоп мясцовых летапісных матэрыялаў і інш.) у 1430 г. не былі завершаны ні першая кароткая гісторыя Вялікага княства Літоўскага — «Летапісец вялікіх кня-

---

[159] Д. С. Лихачев. Русские летописи и их культурно-историческое значение. М.— Л., 1947, стар. 422.

[160] Цікава адзначыць, што сучасны рускі гісторык І. Грэкаў гаворыць пра гэта як пра агульнавядомы і несумненны факт. Даследчык прама сцвярджае, што Вітаўт, незадаволены прамаскоўскай накіраванасцю паліхрона Фоція, даручыў смаленскаму епіскапу Герасіму ўкласці «свой» летапіс. «Пачатая Герасімам у 20-я гады праца па складанню летапіснага зводу... прывяла да стварэння новага літоўска-рускага зводу 1446 г.» (И. Б. Греков. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв., стар. 115—116). Хоць у нас і няма дастатковых даных, каб так катэгарычна адносіць пачатак складання першага зводу да 20-х гадоў XV ст., але нельга не прызнаць пэўнай праўдападобнасці меркавання І. Грэкава.

зёў літоўскіх», ні задуманы летапісны звод. Апошні быў закончаны толькі ў 1446 г.

Відаць, тагачасны смаленскі епіскап, імя якога нам дакладна невядома (магчыма, Місаіл) [161], атрымаўшы кафедру [162], пачаў рыхтаваць глебу, каб дамагчыся свайго прызначэння ў мітрапаліты. Прыклад першага мітрапаліта ўсёй Русі з мясцовых епіскапаў Герасіма быў яшчэ свежы ў памяці і, трэба думаць, меў для новага кандыдата стымулюючае значэнне. Палітычная ж сітуацыя была для гэтага вельмі спрыяльнай.

Адзін з апошніх агульнарускіх мітрапалітаў Ісідар, які схіліўся да уніі праваслаўнай царквы з каталіцкай, пасля вяртання з Фларэнційскага сабору не быў належным чынам прыняты ні ў Маскве, ні ў Вільні і вымушаны быў у 1443 г. назаўсёды пакінуць Русь. Паўстала пытанне аб новым кандыдаце на пасаду мітрапаліта ўсёй Русі. Масква дамагалася зацверджання свайго стаўленіка, разанскага епіскапа Іону, былога канкурэнта Герасіма і Ісідара, якога Вільня доўгі час не хацела прызнаць. Толькі к канцу 40 — пачатку 50-х гадоў XV ст. у сувязі з мірным пактам паміж Казімірам Ягайлавічам і Масквою (1449) Іона фактычна быў прызнаны мітрапалітам усёй Русі [163]. Але не надоўга. У 1458 г. у Вялікім княстве Літоўскім абралі свайго асобнага мітрапаліта, незалежнага ад Масквы. З таго часу ўсходнеславянская праваслаўная царква канчаткова распалася на дзве мітраполіі: кіеўскую і маскоўскую.

---

[161] У дакладных крыніцах Місаіл як смаленскі епіскап упершыню ўпамінаецца пад 1454 г. (П. Строев. Списки иерархов и настоятелей монастырей российской церкви. СПб, 1877, стар. 589—590).

[162] Знамянальна, што яго папярэднік па смаленскай кафедры епіскап Сімяон памёр у 1445 г. (ПСРЛ, т. XVII, сл. 70).

[163] K. Chodynicki. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. 1370—1632. Warszawa, 1934, s. 54—58.

Несумненна, што аб сваёй кандыдатуры на пасаду мітрапаліта ўсёй Русі ў Вільні падумвалі і ў 40-х гадах XV ст., яшчэ да афіцыйнага прызнання Іоны. Тым больш, што якраз у сярэдзіне 40-х гадоў правячыя колы Вялікага княства Літоўскага імкнуліся адрадзіць сваю традыцыйную палітыку актыўнага наступлення на Русь [164].

Відаць, іменна ў гэты час, у 1446 г., смаленскі епіскап, добра адчуваючы спрыяльны палітычны момант, і вырашыў укласці вядомы нам летапісны звод, які павінен быў стаць адпаведным выражэннем той палітычнай і рэлігійнай праграмы смаленскай кафедры, асновы якой былі закладзены яшчэ Герасімам. Першы беларуска-літоўскі летапіс — гэта фактычна звод мітрапаліта. Паколькі ж яго натхніцелі і аўтары сур'ёзна разлічвалі на тое, што цэнтрам гэтай агульнарускай мітраполіі зноў стане Смаленск, то, натуральна, і летапісны звод задумваўся і складаўся як агульнарускі па свайму характару, але з абавязковым уключэннем матэрыялаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і часткова Смаленска.

У адрозненне ад маскоўскіх зводаў XV ст., у якіх гісторыі Вялікага княства Літоўскага адводзілася нязначнае месца, у Смаленскім зводзе 1446 г. яна заняла раўнапраўнае становішча побач з гісторыяй Кіеўскай і Маскоўскай Русі. Больш таго, характар апрацоўкі рускіх крыніц і асабліва змест мясцовых гісторыка-літаратурных матэрыялаў, уключаных у гэты звод, надалі яму накіраванасць, супрацьпастаўленую ў пэўнай ступені накіраванасці рускіх зводаў першай палавіны XV ст.,

---

164 L. Kolankowski. Dzieje Wielkiego księstwa Litewskiego za Jagiellonów, t. I, s. 247; Z. Skopińska. Traktat 31 sierpnia 1449 roku w świetle polityki Litwy i Moskwy w latach 1440—1453. Ateneum Wileńskie, t. V, zesz. 15, 1928, s. 118.

прамаскоўскіх сваімі тэндэнцыямі. А гэта ўжо было крокам палітычнага значэння.

Такім чынам, першы беларуска-літоўскі летапісны звод, агульнадзяржаўны і агульнарускі па свайму характару, стаў свайго роду ідэалагічным выражэннем і абгрунтаваннем знешнепалітычнай лініі Вялікага княства Літоўскага свайго часу. Яго з'яўленне ў 1446 г. указвае на тое, што пануючыя колы гэтай дзяржавы ў сярэдзіне XV ст. яшчэ імкнуліся прадаўжаць здзяйсненне агульнарускай праграмы, якая была пакладзена ў аснову палітыкі вялікіх літоўскіх князёў Альгерда і Вітаўта [165].

Аўтарам першага летапіснага зводу быў вопытны кніжнік, які добра ведаў сваю справу і змог паспяхова справіцца з такім адказным і нялёгкім сацыяльным заказам, даручаным яму. Ён быў асобай духоўнага сану, бо, нягледзячы на сцісласць выбаркі з рускіх летапісаў, усё ж палічыў неабходным уключыць у свой звод не толькі багата звестак пра мітрапалітаў і епіскапаў, але і пра будаўніцтва асобных цэркваў, пра розныя цуды і г. д. Не выключана таксама магчымасць, што пяру гэтага летапісца належаць некаторыя творы, якія чытаюцца сёння ў складзе першага беларуска-літоўскага летапісу.

Тэкст Смаленскага зводу 1446 г. шырока распаўсюджваўся ў шматлікіх спісах, паступова відазмяняўся і скарачаўся, асабліва ў частцы, запазычанай з рускіх летапісаў. Нават у самым раннім спісе, Нікіфараўскім, не хапае звестак за другую палавіну XIV ст., што захаваліся ў Супрасльскім. У самым канцы XV ст., паміж 1498 і 1502 гг., была праведзена арыгінальная рэдактарская

---

[165] И. Б. Греков. Очерки по истории международных отношений..., стар. 39—41, 115—118, 136—138.

перапрацоўка гэтага зводу. Новы рэдактар не закрануў ні зместу, ні стылю ранейшага помніка, а толькі перагрупаваў матэрыял. На першае месца быў пастаўлены «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», затым спісаны рад звестак з рускай часткі летапісу (за 1395—1418 гг.), далей змешчаны аповесць пра Падолле, Смаленская хроніка з устаўленай у яе тэкст «Пахвалой Вітаўту», кароткія смаленскія запісы пра падзеі 1432—1445 гг. і, нарэшце, «Летописец о великом князи Московском». Апошні прадстаўляе сабою тую ж самую рускую частку беларускага зводу 1446 г., толькі значна скарочаную ў пачатку[166]. Яна тут адкрываецца радаслоўем рускіх князёў і пералічэннем рускіх епархій. Такога ўступу не было ў старэйшай рэдакцыі нашага летапісу (Нікіфараўскі, Супрасльскі і Акадэмічны спісы), але аналагічны тэкст чытаецца і ў летапісным зборніку Аўрамкі, які быў спісаны ў 1495 г. у Смаленску. Магчыма, гэты факт сведчыць аб смаленскім паходжанні і разглядаемай перапрацоўкі першага беларуска-літоўскага летапісу. Новая рэдакцыя зводу 1446 г. захавалася толькі ў адным спісе — Слуцкім.

Як бачым, перапрацоўка летапіснага помніка была праведзена толькі па складу, але настолькі мэтанакіравана, што надала гэтаму летапісу ў значнай ступені новае ідэйнае гучанне. Калі ў першай рэдакцыі атрымаўся як бы сімбіёз беларуска-літоўскіх і рускіх летапісных матэрыялаў, розных па свайму характару, гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Кіеўскай і Маскоўскай Русі ў ім даволі цесна і мірна суіснавалі і ўзаемна ўраўнаважваліся, то зусім іншае назіраецца ў новай рэдакцыі зводу 1446 г. На першы план тут спецыяльна высунута

[166] Выклад гісторыі Кіеўскай Русі пачынаецца ў гэтым «Летапісцы» непасрэдна ад Уладзіміра Святаславіча.

гісторыя Вялікага княства Літоўскага, якая свядома аддзелена ад гісторыі кіеўскай і маскоўскай. Апошняя займае ў новай рэдакцыі выразна другараднае месца.

Рэдактарская апрацоўка першага беларуска-літоўскага летапісу была вынікам новых грамадска-палітычных павеваў часу; яна праведзена ў перыяд абвастрэння ўзаемаадносін Вялікага княства Літоўскага з узмацнеўшай Маскоўскай дзяржавай. Новая рэдакцыя з'яўляецца пэўным этапам у літаратурнай гісторыі зводу 1446 г. і ў той жа час служыць як бы пераходным мостам, які звязвае гэты звод з другім летапісным зводам.

На аснове Смаленскага зводу 1446 г. узнік і летапіс, які чытаецца ў спісах Архангельскім і ЦДАСА № 365/815, рускіх па свайму паходжанню. Праўда, рускі летапісец выкарыстаў толькі арыгінальную частку гэтага зводу, але ён зрабіў значную рэдактарскую апрацоўку яе мовы і стылю, прыстасоўваючы іх да норм рускай літаратурнай мовы XVI ст. Разам з тым асобныя мясціны беларускага тэксту былі пададзены ў вольным пераказе, іншыя ж скарочаны або адвольна пашыраны.

Так, у летапісу спісаў Архангельскага і ЦДАСА № 365/815 няма аповесці пра Падолле і «Пахвалы Вітаўту». Апушчана і значная частка звестак, што чытаюцца ў «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх»: паведамленні пра першы паход князя Скіргайлы на Полацк, пра выступленні Андрэя Полацкага і Святаслава Смаленскага супраць літоўскіх князёў і бітву пад Мсціславам, пра паходы Вітаўта на ўкраінскія і ўсходнебеларускія землі, пра смерць Скіргайлы і інш. Вельмі сцісла апісаны таксама і падзеі пасля смерці Вітаўта, хоць несумненна, што гэта частка летапісу выкладзена на аснове Смаленскай хронікі першага беларуска-літоўскага зводу.

З другога боку, у гэтым летапісу мы знаходзім і шмат дадатковых звестак, якіх няма ў нашым зводзе

1446 г., напрыклад: «В лѣто 6885 умре князь великий литовский Ольгерд Гедиманович, был послѣ отца своего на государствѣ лѣт 30 и пять. Конец же его бог сподобил, в православной христианской вѣрѣ грѣческаго закона, и в иноческом образѣ наречен инок Алексис. И погребоша тѣло его в церкви Пречистыя в Вилнѣ, юже създа супружница его благовѣрная, великая княгиня Іулиания»[167].

Апрацаваная такім чынам арыгінальная частка першага зводу была яшчэ папоўнена значнай колькасцю новага матэрыялу. Выкладанне гісторыі Вялікага княства Літоўскага пачынаецца з падзей 1263 г.: «В лѣто 6771 был мятеж в Литвѣ: вставша сами на ся князи литовскии и убиша государя своего и сродника, великого князя литовского Мендовга...»[168] Затым падаецца кароткае апавяданне пра дабрачыннага Вышэлега, сына забітага літоўскага князя, пабудаванае на аснове апавядання пра князя Войшалка Галіцка-Валынскага летапісу. Пасля гэтага змешчаны сказ пра «новопросвѣщенного» і «благовѣрного» князя Доўманта, блізкае да «Сказания» пскоўскіх і наўгародскіх летапісаў.

Разглядаемы помнік заканчваецца вядомым «Родословием Литовского княжества», у якім дынастыя вялікіх князёў літоўскіх выводзіцца ад Гегімініка, канюха Віценца, васала аднаго са смаленскіх князёў. Падобныя радаслоўі сустракаюцца ў шмат якіх іншых радаслоўных кнігах і летапісных спісах, што ўзніклі на тэрыторыі Маскоўскай Русі. Як вызначыла Р. Дзімітрыева, у аснове іх тэксту ляжыць «Пасланне» Спірыдона-Савы; апошняе ж не мае ніякай сувязі з беларускім летапісаннем[169].

---

[167] Смоленская старина, вып. 1, ч. 2, стар. 9.

[168] Там жа, стар. 5.

[169] Р. П. Дмитриева. Сказание о князьях владимирских. М.— Л., 1955, стар. 87—88.

Спірыдон-Сава, безумоўна, не быў аўтарам самой легенды аб паходжанні літоўскіх князёў ад канюха Гегімініка (Гедыміна). Як адзначаюць даследчыкі, гэта легенда ўпершыню ўзнікла ў пачатку XV ст. у Прусіі [170]. У адным з мемарыялаў Ордэна, які датуецца 1412—1413 гг., было пададзена: «Item do der abgenante Konik Wytenne gestarb, da wart uffgegoworfen für einen Konigk sein *pferdemarschalk,* Jedeman genant» [171].

Ордэн, атрымаўшы ў 1410 г. пад Грунвальдам сакрушальнае паражэнне ад аб'яднаных войск Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, спецыяльна пусціў у свет гэту версію, каб прынізіць у вачах суседзяў сваіх ворагаў [172] і такім чынам узяць над імі свайго роду маральны рэванш. Гэты крок Ордэна вельмі добра ўзгадняецца са зместам і накіраванасцю той прапаганды, якую ён актыўна пачаў весці адразу ж пасля Грунвальдскай бітвы, імкнучыся прынізіць перад хрысціянскім Захадам важкасць і значэнне перамогі аб'яднаных славянскіх і літоўскіх сіл [173].

Легенда, выдуманая ў стане ворага Вялікага княства Літоўскага, аказалася даволі жывучай і атрымала пазней шырокае распаўсюджанне і ў стане яго палітычных праціўнікаў. Яе ўвёў у сваю гісторыю Ян Длугаш [174], яе паўтарылі і наступныя польскія храністы (Мяхоўскі,

---

[170] J. Wolff. Ród Gedimina. Kraków, 1886, s. 5—6.

[171] K. Chodynicki. Ze studjów nad dziejopisarstwem rusko-litewskim... Ateneum Wileńskie, t. III, zesz. 10—11, 1926, s. 392.

[172] Гедымін, які пасля смерці брата Віценя (у 1315 г.) атрымаў віленскі велікакняскі трон, даводзіўся дзедам і польскаму каралю Ягайлу і вялікаму князю літоўскаму Вітаўту.

[173] A. F. Grabski. Echa bitwy Grunwaldzkiej w historiografii zachodnioeuropejskiej. Zapiski historyczne, t. XXXII, zesz. 1. Toruń, 1967, s. 7.

[174] Jan Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III, ks. IX—X. W Krakowie, 1868, s. 377.

Вапоўскі, Кромер і інш.). І толькі Мацей Стрыйкоўскі рашуча адкінуў яе як выдуманую [175].

Напэўна, з Польшчы версія аб паходжанні літоўскіх князёў ад канюха Гегімініка (Гедыміна) перайшла і ў Маскоўскае княства, дзе была падрабязна распрацавана і літаратурна афармлена Спірыдонам-Саваю ў вядомым «Пасланні». У апрацоўцы Спірыдона гэта версія атрымала выгляд летапіснага апавядання. Паходжанне літоўскай вялікакняскай дынастыі было свядома звязана з рускай гісторыяй, а пачатак дзейнасці «першага» літоўскага князя Гедыміна быў пастаўлены ў залежнасць ад добрай волі рускага князя, Аляксандра Міхайлавіча Цвярскога, які «посла... сего Гегыминика и с седмию его сыны объ сю страну Нѣмна събирати люди по испаленым (татарамі.— *В. Ч.*) градом и весем». Гэтаму апавяданню ў «Пасланні» прадпаслана ў якасці супрацьпастаўлення радаслоўе маскоўскай правячай дынастыі, пачатак якой выводзіцца ад рымскага імператара Аўгуста.

Пазней радаслоўе літоўскіх князёў у версіі Спірыдона было адхілена ўрадам Івана IV [176]. Узнікла афіцыйная перапрацоўка «Пaслання», вядомая пад назвай «Сказания о князьях владимирских». У гэтым помніку паходжанне літоўскай дынастыі некалькі прыўзнята ў параўнанні з «Пасланнем». Гедымін тут ужо «муж храбр зело и велика разума». Тым не менш радаслоўе літоўскіх князёў даволі шырока распаўсюджвалася на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы як у рэдакцыі «Паслання» Спірыдона-Савы, так і ў рэдакцыі «Сказания о князьях владимирских». Агульны сэнс гэтых твораў, якія служылі

---

[175] Maciej Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. I. Warszawa, 1846, s. 353.

[176] Р. П. Дмитриева. Сказание о князьях владимирских, стар. 100, 154.

ўмацаванню неабмежаванай княскай улады, па сутнасці быў адзін і той жа: уславіць і ўзвысіць Маскоўскую дзяржаву і прынізіць Вялікае княства Літоўскае.

Побач з разгледжаным радаслоўем на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы бытавала таксама і зусім іншая генеалогія правячай літоўскай дынастыі: род літоўскіх князёў у ёй выводзіўся ад князёў полацкіх [177]. Падобныя выдуманыя радаслоўі, будучы афіцыйнымі паводле свайго паходжання, несумненна, мелі палітычную накіраванасць: яны служылі свайго роду ідэалагічным абгрунтаваннем і апраўданнем тэрытарыяльных прэтэнзій рускіх цароў на беларускія і ўкраінскія землі, што знаходзіліся ў той час у складзе Вялікага княства Літоўскага, былі выражэннем вялікадзяржаўных імкненняў маскоўскіх правячых колаў XVI ст. [178]

Летапіс спісаў Архангельскага і ЦДАСА № 365/815, які з'яўляецца маскоўскай апрацоўкай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, верагодней за ўсё, узнік дзесьці ў канцы 20-х гадоў XVI ст., паколькі ў ім у пералічэнні нашчадкаў Гедыміна і Альгерда пададзена: «...Михаилов сын Феодор, иже приѣехал служити на Москву к нашему царю Василию Ивановичю лѣто 1526», а крыху ніжэй — «Жигимонт, краль нынѣшний» [179]. Такой датыроўцы не супярэчыць і сам характар складу разглядаемага помніка. Яго «Родословие Литовского княжества» заснавана не на тэксце «Сказания о князьях владимир-

---

[177] Гл., напрыклад, Васкрасенскі летапіс і «Родство великих князей литовских» (ПСРЛ, т. VII. Летопись по Воскресенскому списку. СПб, 1856, стар. 164—165; ПСРЛ, т. XVII, сл. 573).

[178] Зразумела, што ўкладальнікі XVII тома ПСРЛ зрабілі грубую памылку, калі далучылі падобныя радаслоўі літоўскіх князёў да «заходнерускага» летапісання.

[179] Смоленская старина, стар. 8. Жыгімонт I быў каралём Польшчы і вялікім князем літоўскім у 1506—1548 гг.

скіх», а на тэксце «Паслання» Спірыдона-Савы[180]. Апошняе ж, на думку сучасных даследчыкаў, узнікла дзесьці ў пачатку XVI ст.[181] Акрамя таго, першы беларуска-літоўскі летапіс, пакладзены ў аснову разглядаемага твора, верагодней за ўсё, мог апынуцца ў Маскве пасля 1514 г., калі Смаленск, цэнтр беларускага летапісання XV ст., перайшоў пад уладу маскоўскага князя. З гэтым перыядам, надзвычай напружаным ва ўзаемаадносінах Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай, узгадняецца і характар апрацоўкі першага беларускага зводу рускім летапісцам. Літву ён называе паганай, а польскіх паноў — злымі ляхамі. Гісторыя Вялікага княства Літоўскага пададзена ў маскоўска-праваслаўным духу.

Такім чынам, першапачатковы тэкст беларуска-літоўскага зводу 1446 г. паслужыў асновай для розных больш позніх летапісных апрацовак, і яго далейшае бытаванне звязана ўжо з існаваннем асобных рэдакцый: старэйшай і новай. Ён быў таксама адной з асноўных крыніц для своеасаблівага маскоўскага варыянта гісторыі Вялікага княства Літоўскага (летапіс тыпу Архангельскага спіса). Факт шырокага распаўсюджання першага зводу сведчыць аб тым, наколькі своечасовым і неабходным было яго ўзнікненне.

Літаратурная гісторыя гэтага летапісу цікавая і паказальная. Яна з'яўляецца наглядным прыкладам таго, як зараджалася, фарміравалася і развівалася на працягу XV ст. агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапі-

---

[180] У «Родословии Литовского княжества», як і ў «Пасланні» Спірыдона, многія старонкі дзейнасці літоўскіх князёў непасрэдна звязаны з гісторыяй Цвярскога княства, а ў «Сказании» — з гісторыяй Маскоўскага княства.

[181] Р. П. Дмитриева. Сказание о князьях владимирских, стар. 109, 154.

## Схема крыніц першага зводу



санне, як яно паступова набывала сваю адметную мастацкую форму.

Першы беларуска-літоўскі летапіс — каштоўны помнік пісьменнасці, важны этап у станаўленні беларускай старажытнай літаратуры і беларуска-літоўскай гістарыяграфіі. Як летапісны звод ён узнік не без уплыву рускіх летапісаў свайго часу. І таму гэты летапіс з'яўляецца не толькі помнікам грамадска-палітычнай думкі Літвы і Беларусі XV ст., але таксама і непасрэдным сведкам культурных узаемасувязей нашага краю з Расіяй у далёкім мінулым. Штуршок, які даў гэты твор усяму наступнаму летапісанню на беларуска-літоўскіх землях, быў надзвычай плённым. Іменна першы звод склаў аснову другога беларуска-літоўскага летапісу і паслужыў адной з крыніц «Хронікі Быхаўца» — летапісных зводаў XVI ст.

Раздзел II

# ЛЕТАПІСНЫЯ ЗВОДЫ XVI ст.

У сувязі з ростам гістарычнай самасвядомасці беларускага і літоўскага народаў агульнадзяржаўнае летапісанне атрымала ў XVI ст. далейшае развіццё. Першы беларуска-літоўскі летапіс не мог ужо цалкам задаволіць чытачоў новай эпохі ні сваёй формай, ні зместам. Шмат якія яго звесткі, асабліва рускай часткі, не мелі ўжо ранейшай цікавасці і значнасці. І самае галоўнае, у першым летапісным зводзе шматвяковая гісторыя Беларусі і Літвы была пададзена занадта ўрыўкава і фрагментарна. Узнікла вострая неабходнасць сур'ёзна дапоўніць гэты летапіс іншымі матэрыяламі і стварыць такім чынам новую, больш поўную і дасканалую гісторыю Вялікага княства Літоўскага, якая лепш адпавядала б патрабаванням свайго часу. Сапраўдную ж гісторыю можна было скласці, засноўваючыся на дакладных гістарычных крыніцах як мясцовых, так і суседніх народаў (рускія і ўкраінскія летапісы, польскія і нямецкія хронікі і інш.). Аднак беларуска-літоўскія храністы першай палавіны XVI ст. пайшлі па некалькі іншаму і больш лёгкаму шляху.

## „ХРОНІКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ЖАМОЙЦКАГА"

Дзесьці ў канцы 10-х гадоў XVI ст. тэкст першага беларуска-літоўскага летапісу, які заставаўся яшчэ бадай што адзінай крыніцай па гісторыі Беларусі і Літвы для тагачаснага чытача, папоўніўся радам кароткіх запісаў пра падзеі пачатку XVI ст. Самы позні з іх хinduced налагічна адносіцца да 1517 г.: «На другое лето королевна умерла, сестра короля его милости Жикгимонта»[182]. Відаць, адначасова з гэтым была праведзена і рэдактарская, пераважна моўна-стылявая апрацоўка арыгінальнай часткі тэксту першага зводу. Што ж датычыцца яго часткі, запазычанай з рускіх крыніц, то яна, цалкам страціўшы нават знешнюю сувязь з мясцовымі летапіснымі матэрыяламі, аказалася зусім непатрэбнай і была свядома апушчана. Уся гэта праца была зроблена беларускім летапісцам[183] і, верагодней за ўсё, у самой Вільні, таму што апошнія з новых запісаў носяць прыдворны характар.

Такім чынам, на дадзеным этапе тэкст першага беларуска-літоўскага летапісу атрымаў зусім нязначнае папаўненне новымі матэрыяламі. Зразумела, што гэта не быў яшчэ новы летапісны помнік, а свайго роду пераходны варыянт ад першага зводу да другога[184]. Толькі пасля аб'яднання «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»[185] з новым творам, «Хронікай Вялікага княства

---

[182] ПСРЛ, т. XVII, сл. 188.

[183] Аўтар новых звестак карыстаўся праваслаўным стылем леталічэння «ад стварэння свету», а не «ад нараджэння Хрыста».

[184] Гэты тып летапісу прадстаўляе Патрыяршы А. спіс.

[185] Для зручнасці мы тут называем «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх» усю арыгінальную частку, запазычаную складальнікам другога зводу з першага летапісу, г. зн. уключаючы сюды «Летапісец» з хронікай Падолля, «Пахвалу Вітаўту» і Смаленскую хроніку.

Літоўскага і Жамойцкага» (легендарнай гісторыяй Літвы ад Палемона да Гедыміна), якая заняла месца гісторыі Кіеўскай і Маскоўскай Русі першага зводу, і быў утвораны новы летапісны звод — другі беларуска-літоўскі летапіс. Гэта «Хроніка», змешчаная ў пачатку зводу, і дала назву новаму летапіснаму помніку. Самы ранні паводле свайго складу тэкст другога беларуска-літоўскага зводу захаваўся ў спісе Красінскага. На жаль, гэты каштоўны спіс, які адносіцца да сярэдзіны XVI ст., дэфектны: у ім няма канца «Хронікі» і згублены таксама апошнія старонкі «Летапісца».

Нават беглае параўнанне агульных частак двух беларуска-літоўскіх зводаў паміж сабою выразна паказвае, што адной з галоўных крыніц другога летапісу была новая рэдакцыя першага летапісу. У абодвух летапісах парадак размяшчэння агульных частак і састаў звестак амаль ідэнтычныя. Як і ў Слуцкім спісе, у спісе Красінскага пасля «Летапісца», які папярэднічае Смаленскай хронікі, змешчаны звесткі за 1398—1418 гг., што чыталіся ў агульнарускай частцы першага беларуска-літоўскага летапісу старэйшай рэдакцыі. Як і ў Слуцкім спісе, у спісе Красінскага «Пахвала Вітаўту» ўстаўлена ў тэкст Смаленскай хронікі. У другім летапісным зводзе поводле Красінскага спіса, як і ў новай рэдакцыі зводу 1446 г., аднолькава апушчаны звесткі пра ўзяцце Вітаўтам Смаленска ў 1404 г. і пра Грунвальдскую бітву 1410 г.

Разглядаемая частка летапісу Красінскага спіса выяўляе і ў іншых, больш прыватных месцах вельмі блізкую, генетычную сувязь свайго тэксту з летапісам тыпу Слуцкага спіса. З апошнім у спісе Красінскага ўзгадняецца, напрыклад, пропуск паведамлення, што князь Скіргайла знайшоў Юрыя Смаленскага «у трупах много ранена» і пачаў яго лячыць. Тэксты Слуцкага і

Красінскага спісаў адзінагалосна сцвярджаюць, што пад Вільняй крыжакі забілі князя Скіргайлу, у той час як у Акадэмічным і Віленскім спісах называецца Карыгайла. Апошнія спісы паведамляюць таксама, што ў час бітвы каля Эйшышак быў узяты ў палон нейкі Васілій Канстанцінавіч, у Слуцкім і Красінскім спісах — Глеб Канстанцінавіч.

Тэкст другога беларуска-літоўскага летапісу Красінскага спіса паўтарае некаторыя нават яўна памылковыя індывідуальныя чытанні тэксту летапісу Слуцкага спіса. Толькі ў апошнім «князь Феодор Патрыкиевич», забіты татарамі ў 1399 г., называецца «Волоским», хоць ва ўсіх іншых спісах першага зводу чытаецца — «Волынськии». Толькі ў Слуцкім спісе ў звестцы пра вызваленне князя Свідрыгайлы (запіс пад 1418 г.) замест «Дмитрея да Илью» пададзена «Дмитрия, Даниля». Ва ўсіх адзначаных выпадках спіс Красінскага поўнасцю следуе за Слуцкім.

Такім чынам, можна з упэўненасцю сказаць, што тэкст запазычанай часткі другога летапіснага зводу заснаваны на тэксце першага новай рэдакцыі, прадстаўленай адзіным вядомым нам Слуцкім спісам. Аднак Слуцкі спіс не быў непасрэднай крыніцай пратографа Красінскага спіса, бо, па-першае, апошні парадкам размяшчэння агульных састаўных частак не з'яўляецца даслоўнай копіяй першага [186]; па-другое, некаторых звестак і Красінскага спіса няма ў Слуцкім [187]. Магчыма, што і

---

[186] Так, у Слуцкім спісе звесткі, узятыя з рускага летапісу (за 1395—1418 гг.), устаўлены паміж «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх» і аповесцю пра Падолле, у спісе Красінскага яны змешчаны пасля аповесці пра Падолле.

[187] Напрыклад, пра голад у Смаленску (пад 1438 г.), пра лютую зіму на Смаленшчыне (у спісе Красінскага чытаецца непасрэдна пасля апавядання «О Жикгимонтовои смерти»).

перапісчык Слуцкага рукапісу, і аўтар другога беларуска-літоўскага зводу ў розны час карысталіся адным і тым жа спісам зводу 1446 г. новай рэдакцыі. Той факт, што Слуцкі спіс не копія і не аўтарскі арыгінал укладальніка новай рэдакцыі першага зводу, а толькі адзін з прадстаўнікоў цэлай групы спісаў пэўнага тыпу, дадаткова пацвярджае правільнасць нашага меркавання, выказанага ў папярэднім раздзеле, што летапіс гэтага спіса — сапраўды асобная рэдакцыя беларуска-літоўскага зводу 1446 г.

Частка тэксту, запазычаная з першага летапісу, падверглася ў другім значнай апрацоўцы. Аказалася апушчанай (свядома ці несвядома) значная колькасць паведамленняў, асобных сказаў, выразаў, імён [188]. Некаторыя мясціны тэксту былі спецыяльна скарочаны, іншыя ж пашыраны, напрыклад:

| *Першы летапіс* | *Другі летапіс* |
|---|---|
| З Крэва Вітаўт «утечеть у немци и прусы» [189] (сл. 89) | «...утечеть до немец, к мистру до Марина городка. Сторожи то видѣли и нѣ догадалися тому: творѣли, (иж) жонка з жонкою вышла» (сл. 161) |
| Сустрэлі князёўну Соф'ю «пред градом пред Моск- | «...перед Москвою, и был |

[188] Так, у летапісу Красінскага спіса няма звестак пра высылку Кейстутам ганца да Альгерда з паведамленнем аб паланенні ім Яўнута, пра паездку Канстанціна Карыятавіча ў Польшчу да караля Казіміра і звязаныя з гэтым фактам падзеі, прапушчана таксама паведамленне пра пакаранне Ягайлам Відзімонта і Бутрыма, сваякоў Вітаўта, і інш.

[189] Правільна: «у немци, у прусы».

вою, и сотвори брак честнѣ, и венча великаго князя Василья Д(м)итреевича с великою княжною Софею, и бысть брак чест(е)н и чти достоин и веселию многому» (сл. 93)

збор вѣликии чесный, и венчанье сталося» (сл. 166)

«Князь великии Витовт, услышав, аж князь Скиргаило преставися, и послал князя Ивана Ольгимонтовича [190] ко Киеву и дал ему держати Киев. Мы ж на пред лежащѣе возвратимся. Как выидѣ из немец князь великии Витовт на великое княжение, так отпусти (ня)тца своего, князя Глеба Святославича ко Смоленьску на великое княжение» (сл. 95)

«князь вѣликыи Витовт послал князя Ивана Олькгиминтовича на Киев, а князя Глѣба Свѣтославовича отпустил князь вѣликыи Витовт к Смоленску» (сл. 169)

«И от(т)оле поидѣ Швитригаило во Угры, взявши Луческ, а у волыньских бояр отлучил полтараста конеи» (сл. 99)

«Швитригаило оттолѣ събравшися с приказанием Витовтовым шодши у в Угорскую землю, много земли Угорское спустошил и городов побрал, и Луцоск Вѣликыи взял, а у в(ол)ынских князеи и бояр пятьсот конѣи взяли и до Витовта привел» (сл. 176) [191]

[190] У тэксце Слуцкага спіса тут апіска: «Ольгимонтоновича».
[191] ПСРЛ, т. XVII.

Запазычаны тэкст першага зводу ў другім беларуска-літоўскім папоўніўся таксама невялікімі ўстаўкамі. Так, у зводзе 1446 г. няма наступных паведамленняў: «князь вѣликии Витовт покору свою учинил перед старшим братом своим, князем вѣликым Якгаилом, и принял Луческ со всею землею Волынскою» (сл. 161—162); Цімур-Кутлуй «стоял под Киевом 3 дни» (сл. 173); «там князь вѣликыи мешкал у Киевѣ и оттолѣ опять поехал до Луцка до Вѣликого» (сл. 178); «много лихого того году училося по всеи земли Литовскои и Рускои, и много крови пролитя сталося: брат брата роженого убил, матка детя свое зъела з голоду, отец сына своего. Так(о)ж моры были страшныи, иж о таком страху люди старыи не могуть пометати» (сл. 182—183).

Асабліва адчувальна была адрэдагавана ў другім зводзе «Пахвала Вітаўту». У яе пачатак уключана апавяданне пра каранацыйны з'езд Вітаўта, якім у зводзе 1446 г. адкрываецца Смаленская хроніка, а рытарычны ўступ апушчаны. Акрамя таго, скарочаны некаторыя мясціны і парушаны першапачатковы парадак следавання асобных частак тэксту.

Увесь тэкст, запазычаны з папярэдняга летапісу, быў значна апрацаваны. Пэўнае ўяўленне аб характары гэтай апрацоўкі могуць даць наступныя прыклады:

| *Першы летапіс* | *Другі летапіс* |
| --- | --- |
| «А мы *правду* даем, штобы тобе чисто отъехати в *рать* свою» (сл. 88) | «а мы *присягу* дадим, што ж тобѣ чисто во свое *воиско* опять отъехати» |
| «Градом Литовския земли ничего не успе и пакы воз- | «городом литовским ничего[192] не могли учинити и |

[192] У рукапісу Красінскага спіса: «ничиго».

| | |
|---|---|
| вратися во свояси» (сл. 90) | вернулися во свою землю» (сл. 162) |
| Вітаўт «тогда *совет сотвори...*» (сл. 92) | «тогды Витовт *учинить собѣ* раду» (сл. 164) |
| «Якаило учнеть просити Витовта, чтобы еси меж нас уеднал» (сл. 88) | «Якгаило начнеть просити Витовта, рекучи: «Брате милыи, зъеднаи нас» (сл. 160) [193] |
| «То ж бысть богу мерзко зрети: зовущимся християном, а братию свою християне не человечьскы и не християньски муча» (сл. 91) | «милостивыи бог того не хотѣл терпѣти, што ж братию свою, кров хрестьянскую так не по хрестьянски мучать» (сл. 163). |
| Скіргайла з Вітаўтам «помянуша слово божие, еже мерече: в нюж(е) человек меру мѣрить и отмерится ему, а што сееть, то и пожнеть» (сл. 91) | Скіргайла з Вітаўтам «рекли так: «Боже вышнии, поможи нам на нѣприятѣли наши, а хто што сѣеть, тот то и пожнеть» (сл. 163) |

У другім летапісным зводзе сустракаюцца таксама своеасаблівыя сэнсавыя адрозненні ад першапачатковага тэксту зводу 1446 г. Так, у апавяданні пра вяртанне ў Смаленск князя Юрыя Святаславіча паведамляецца, што «князь Роман Брянскии в тот час был тут тогды, (и) князь вѣликыи Витовт вѣлел того Романа убити, а намѣстники был свои послал к Смоленску» [194] (сл. 174). У сапраўднасці ж Раман Бранскі якраз і быў намеснікам вялікага літоўскага князя ў Смаленску, а забілі яго смаленскія прыхільнікі князя Юрыя Святаславіча. Пазнейшы летапісец проста адвольна пашырыў няправільна

[193] Тут цытуецца паводле Патрыяршага А. спіса.
[194] У рукапісу: «к Смоленскому».

зразумелае ім паведамленне першага летапісу: «а князь Роман Бряньскии тут бе тогды от Витовта убит нужною смертию» (сл. 98).

Аналагічным чынам быў перакручаны да непазнавальнасці і сэнс апавядання пра вызваленне Свідрыгайлы ў 1418 г. Дзеянні князя Дашко прыпісаны вялікаму князю, і таму атрымалася, быццам сам Вітаўт хадзіў пад Камянец, каб вызваліць з палону свайго ворага, князя Свідрыгайлу. Падобныя недарэчнасці сустракаюцца і ў іншых месцах летапісу Красінскага спіса (гл., напрыклад, пачатак апавядання «О Подольскои земли»). Зусім выпадкова таксама, з-за звычайнай няўважлівасці летапісца аказалася прапушчаным у другім беларуска-літоўскім зводзе і апавяданне пра першае ўзяцце Вітаўтам Смаленска ў 1395 г.

Акрамя адзначаных адрозненняў, у другім летапісу асобныя часткі тэксту, якія мелі выгляд самастойных апавяданняў, атрымалі падзагалоўкі: «О Подольскои земли», «О Швитригаилѣ», «О Жикгимонтѣ, как Литву держал», «О Жикгимонтовои смерти» і інш.

Параўнанне двух беларуска-літоўскіх летапісаў паказвае, што новы рэдактар, за рэдкім выключэннем, не правводзіў мэтанакіраванай сэнсавай апрацоўкі ўсяго тэксту, запазычанага з першага зводу. Ён толькі свядома выправіў лексіку і стыль ранейшага помніка, наблізіўшы іх да норм беларускай літаратурнай мовы XVI ст., якая к гэтаму часу амаль цалкам пазбавілася ўплыву царкоўнаславянскай мовы і яшчэ больш наблізілася да народнай гаворкі. Такім чынам, «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» і суправаджаючыя яго творы былі загадзя падрыхтаваны для злучэння ў новым зводзе з «Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага».

Як вядома, «Летапісец» адкрываецца пералічэннем сыноў князя Гедыміна. Аднак больш-менш сістэматычнае

выкладанне гісторыі Вялікага княства Літоўскага пачынаецца ў гэтым творы з перыяду пасля смерці вялікага князя Альгерда (1377). Значыць, не толькі самая ранняя, першапачатковая гісторыя гэтай дзяржавы (за XIII ст.), але і гісторыя Літвы эпохі Гедыміна і Альгерда засталіся па-за ўвагай ранейшых гістарыёграфаў, а таму і невядомы чытачу. Гэты недахоп павінна была ліквідаваць названая «Хроніка» — твор надзвычай арыгінальны паводле свайго зместу і тэндэнцый.

Аўтар пераносіць нас у глыбокую старажытнасць, у эпоху рымскага імператара Нерона (І ст. н. э.). Сваёй жорсткасцю гэты дэспат навёў такі вялікі жах на рымлян, што многія былі вымушаны ўцякаць з Італіі, ратуючы сваё жыццё і набытак. І вось адзін «княжа» (патрыцый) Палемон, «каторыи же цесару Нерону был кровныи», сабраўшы пяцьсот чалавек сваіх падданых і добраахвотнікаў з сем'ямі і скарбам, адплыў ад берагоў Італіі ў пошуках больш бяспечных зямель. Праз пэўны час рымскія «эмігранты», абагнуўшы Еўропу, увайшлі ў вусце Нёмана, падняліся ўверх па цячэнню да рэчкі Дубісы. Тут знайшлі падарожнікі «горы высокие, и на оных горах ровнины великие и дубровы роскошные, розмаитои офитости наполненых, розного рожаю звереи, то есть, напервеи, туров, зубреи, лосеи, оленеи, серн, рысеи, куниц, лисиц, бѣлок, горнастаев, ласиц», і рэкі, багатыя рыбаю. Упадабаўшы гэты край, пасяліліся тут выхадцы з Рыма і «почали размноживатися». Зямлю гэту назвалі яны Жамойцкай. Паступова нашчадкі Палемона засялілі ўсё ніжняе Панямонне, а затым, выйшаўшы за раку Вілію, асвоілі і новы край — Літву. «И от того часу панство Литовское почалося звати и множити от Жомоити»,— падкрэслівае аўтар.

Неўзабаве Русь падверглася спусташальнаму нападу татарскіх орд Батыя. Даведаўшыся, што «Руская земля

спустела и князи руские розогнаны», пачалі літоўскія князі паступова асвойваць і падпарадкоўваць заходнерускія землі. Прычым паходы літоўцаў на Полацк, Тураў, Пінск і іншыя беларускія гарады, а таксама іх бойкі з татарамі малююцца толькі як перамаганосныя.

Перад чытачом, як ў калейдаскопе, бесперапынна падзея праходзіць за падзеяй, адзін князь змяняецца другім. Так паступова аўтар даводзіць сваё апавяданне па гісторыі Літвы да часоў Гедыміна, пры якім да Вялікага княства Літоўскага былі далучаны і ўкраінскія землі.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» заканчваецца паэтычным апавяданнем пра заснаванне Гедымінам Вільні. Паехаў аднойчы вялікі князь «в ловы от Троков за четыре мили и наиде гору красну над рекою Вилнею, на которои наиде зверя великого тура и убъет его на тои горѣ, где нынѣ зовут Турья гора, и велми было позно до Троков ехати». Прыйшлося заначаваць. І прыснілася Гедыміну, што на Лысай гары «стоить волк железныи велики, а в нем реветь, как бы сто волков выло». Прачнуўся князь і паклікаў свайго галоўнага варажбіта Ліздэйку разгадаць сон. «Княже великии,— сказаў варажбіт,— волк железныи знаменует, (што) город столечныи тут будет, а што в нем унутри реветь, то слава его будет слынути на весь свѣт» [195]. Загадаў Гедымін пабудаваць на гэтым месцы горад, які зрабіў затым сталіцай усёй дзяржавы. Далей гісторыя Вялікага княства Літоўскага выкладаецца фактычна на аснове вядомага «Летапісца» і іншых твораў, што чытаюцца ў арыгінальнай частцы першага беларуска-літоўскага летапісу.

Як бачым, у аснову гэтай «Хронікі» пакладзена леген-

---

[195] Тэкст гэтага апавядання падаецца паводле спіса Археалагічнага таварыства (ПСРЛ, т. XVII, сл. 261), паколькі ў спісе Красінскага канец «Хронікі» не захаваўся.

да аб паходжанні дынастыі літоўскіх князёў ад рымскага патрыцыя Палемона, сваяка імператара Нерона, а літоўскага народа — ад старажытных рымлян. Аўтар гэтага твора шырока карыстаўся Галіцка-Валынскім летапісам. Аднак ён выкарыстаў яго звесткі не як дакладную крыніцу, а як дапаможны матэрыял для канструявання сваёй уласнай гісторыі Літвы. Дадзены факт дае падставы зрабіць вывад, што аўтар «Хронікі» зусім не збіраўся ствараць сапраўдную гісторыю Вялікага княства Літоўскага ранняга перыяду, заснаваную на дакладных гістарычных матэрыялах.

Ствараючы сілай сваёй фантазіі багатую і велічную гісторыю даўняй Літвы, непасрэдна выводзячы княскую дынастыю Вялікага княства Літоўскага ад знатных рымлян, храніст імкнуўся даказаць знатнасць і высакароднасць паходжання літоўскіх князёў, а тым самым узвялічыць і ўславіць іх, сваю дзяржаву, свой народ у вачах суседзяў і ўсёй Еўропы.

Узнікненне легенды аб рымскім паходжанні літоўцаў сягае ў XV ст. Яшчэ славуты Ян Длугаш (памёр у 1480 г.) на старонках сваёй шматтомнай «Гісторыі Польшчы» («Opera omnia») неаднаразова сцвярджаў, што літоўцы і жмудзіны паходзяць ад лацінян (рымлян), і спрабаваў нават абгрунтаваць гэту версію спасылкамі на сугучнасць лацінскай і літоўскай моў [196], на знешняе падабенства язычаскіх звычаяў, абрадаў, багоў у старажытных рымлян і літоўцаў.

Цікава прасачыць, як легенда аб рымскім паходжанні літоўцаў развівалася самім жа Янам Длугашам, як

---

[196] «Мова літоўцаў,— пісаў Ян Длугаш,— гэта лацінская мова з невялікімі толькі адрозненнямі; дзякуючы кантактам з суседнімі народамі яна таксама ўвабрала ў сябе нямала славянізмаў» (J a n  D ł u g o s z. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście, ks. IX—X, s. 446).

яна набывала ад старонкі да старонкі ўсё болей выразную, літаратурна апрацаваную форму. Спачатку храніст два разы ўпамянуў аб рымскім паходжанні літоўскіх князёў як бы між іншым: тлумачачы этымалогію назвы Рамовэ і ў сувязі з апісаннем каранавання Ягайлы на польскі трон.

У іншым месцы сваёй працы храніст гаворыць, што «літвіны і жмудзіны з'яўляюцца пакаленнем лацінян, і калі не ад саміх рымлян, то прынамсі ад якогасьці лацінскага роду паходзяць»[197]. Затым Ян Длугаш спрабуе вытлумачыць, якім жа чынам і калі лаціняне маглі апынуцца на берагах Балтыйскага мора. Ён мяркуе, што, відаць,у часы разбуральных грамадзянскіх войн, якія вяліся паміж Марыем і Сулай, паміж Юліем Цэзарам і Пампеем ці іх наступнікамі, група лацінян разам з сем'ямі пакінула Італію і падалася на поўнач, «у краіны вялікія і незаселеныя». І назву той краіне, дзе пасяліліся, яны далі па імені сваёй прабацькаўшчыны: L'Italia — Літалія — Літва[198].

Літаратурнае афармленне легенды тут яшчэ вельмі агульнае, гіпатэтычнае, зроблены толькі яе першы накід, як бы чарнавы варыянт. Храніст пакуль што толькі будуе здагадкі, мяркуе. Аднак далей, калі Ян Длугаш яшчэ раз звяртаецца да гэтай легенды, ён апавядае ўжо пра паходжанне літоўцаў ад рымлян куды больш дакладна і ўпэўнена, як пра несумненны, сапраўдны гістарычны факт, і сама легенда набывае больш выразную і акрэсленую літаратурную форму. «Літвіны, жмудзіны і яцвягі...— сцвярджае польскі храніст,— былі адным народам, які паходзіць ад рымлян і італаў»[199]. У час грамадзянскай

---

[197] Jan Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście, ks. IX—X, s. 442.

[198] Там жа, стар. 443. На лацінскай мове — Lithuania.

[199] Там жа, стар. 446.

вайны паміж Пампеем і Юліем Цэзарам, працягвае Ян Длугаш, продкі літоўцаў былі на баку першага. І калі Цэзар перамог, яны, баючыся яго помсты, пакінулі сваю Радзіму і рассяліліся на землях паміж Польшчай, Руссю, Прусіяй і Інфляндыяй. Свой галоўны горад яны назвалі Вільняй па імені князя Віллі, пад кіраўніцтвам якога і выйшлі з Італіі.

Як бачым, Ян Длугаш неаднаразова рабіў спробы літаратурна апрацаваць легенду аб рымскім паходжанні літоўцаў і стварыць гістарычна праўдзівае апавяданне. Ён надаў легендзе навуковападобную форму, чым, безумоўна, садзейнічаў яе распаўсюджанню. Не выпадкова пазнейшыя польскія храністы (Мацей Мяхоўскі, Марцін Кромер і інш.) услед за Длугашам прама гавораць аб паходжанні літоўцаў з Італіі. Такім чынам, дзякуючы тагачасным гістарыёграфам гэта выдуманая легенда яшчэ больш умацавалася ў свядомасці адукаваных колаў беларуска-літоўскага і часткова польскага грамадства і зрабілася як бы рэальным гістарычным фактам.

Грунтоўны разгляд прычын узнікнення і развіцця легенды аб рымскім паходжанні літоўцаў не ўваходзіць у планы нашага даследавання. Таму мы адсылаем чытача да прац Я. Якубоўскага [200] і М. Захара-Ваўжынчык [201], у якіх можна знайсці падрабязную інфармацыю па дадзенаму пытанню.

Несумненна, што гэта легенда пэўны час ужо бытавала як вусная версія, перш чым Ян Длугаш занёс яе на старонкі сваёй «Гісторыі Польшчы», і ўзнікла яна ў самой Літве. Яе выклікаў да жыцця цэлы комплекс прычын. Не выключана нават магчымасць і знешняга ўплыву:

---

[200] J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed unią Lubelską. Warszawa, 1912.

[201] M. Zachara-Wawrzyńczyk. Geneza legendy o rzymskim pochodzeniu litwinów. Zeszyty historyczne, t. III, 1963, s. 5—35.

падобнымі генеалагічнымі легендамі была напоўнена сярэдневяковая гістарыяграфія многіх народаў Еўропы. Аднак яе корані глыбока ўваходзілі ў першую чаргу ў сваю мясцовую глебу, адкуль яна чэрпала жыватворчыя сокі. Яна была вельмі надзённай і таму мела пад сабою надзвычай спрыяльны грунт. Аб гэтым сведчыць узнікненне «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», у якой версія аб паходжанні літоўцаў ад старажытных рымлян набыла выгляд стройнай і знешне абгрунтаванай гістарычнай тэорыі і атрымала адпаведную літаратурную форму.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» была выклікана да жыцця надзвычай бурнай і складанай грамадска-палітычнай атмасферай ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе першай палавіны XVI ст. Вялікае княства Літоўскае перажывала цяжкія дні. Неаднароднае, шматнацыянальнае, аслабленае класавым і рэлігійным антаганізмам, а таксама саперніцтвам дзвюх пануючых груповак, магнатаў і шляхты, яно ў XVI ст. ужо не мела дастаткова сіл, каб устаяць перад узрастаючым націскам суседніх дзяржаў.

З аднаго боку, польскія правячыя колы, не хаваючы сваіх агрэсіўных імкненняў на беларускія і ўкраінскія землі, прыкладалі ўсе намаганні, каб як найхутчэй зрабіць рэальным аб'яднанне (унію) дзвюх дзяржаў і такім чынам поўнасцю пазбавіць Вялікае княства Літоўскае ўсякай палітычнай незалежнасці і самастойнасці. З другога боку, рост і ўзмацненне Маскоўскай дзяржавы не маглі таксама не закрануць дзяржаўных інтарэсаў Вялікага княства Літоўскага. Маскоўскія князі, здзяйсняючы палітыку збірання ўсіх рускіх і нярускіх зямель у адну цэнтралізаваную дзяржаву, натуральна, з часам пачалі прэтэндаваць і на заходнія землі старой Русі—беларускія і ўкраінскія. І калі дзяржаўныя межы Літоўскага і Мас-

коўскага княстваў непасрэдна сутыкнуліся (калі былі ліквідаваны прыгранічныя ўдзельныя княствы-буферы), напружанне дасягнула краю. Канфлікт быў непазбежным. У выніку вайны за першыя два дзесяцігоддзі XVI ст. Вялікае княства Літоўскае страціла больш чвэрці сваёй тэрыторыі на Усходзе.

Таму зразумела, што ў такіх умовах перад аўтарам разглядаемай «Хронікі» стаяла задача не толькі паказаць, што Вялікае княства Літоўскае мае не менш даўнюю і слаўную гісторыю, чым Польшча ці Русь, але і абгрунтаваць права сваёй дзяржавы на беларускія і ўкраінскія землі, на якія настойліва пачала выстаўляць свае правы і Маскоўская дзяржава. І гэта тэндэнцыя даволі выразна гучыць у творы. Храніст недвухсэнсоўна імкнецца сцвердзіць, што беларускія і ўкраінскія землі ўключаны ў склад Вялікага княства Літоўскага вельмі даўно працай і намаганнямі літоўскіх князёў, а таму законна належаць гэтай дзяржаве і з'яўляюцца яе неад'емнай часткай. Тым больш, што далучэнне іх да Вялікага княства адбывалася нярэдка, як даводзіць аўтар, паводле жадання мясцовага «рускага» насельніцтва: яно само пераходзіла на бок літоўскіх князёў. Напрыклад, самі валыняне «били челом великому князю Ґгидимину, абы в них повал и государем у них был».

Думаецца, што адным са стымулаў, якія садзейнічалі ўзнікненню «Хронікі», была таксама патрэба даць разгорнуты адказ на вядомую версію аб паходжанні літоўскіх князёў ад канюха Гедыміна, якая абражала нацыянальную годнасць мясцовых патрыётаў[202]. Гэта версія, атрымаўшы шырокае распаўсюджанне ў суседніх краі-

[202] Паказальна, што Віценю, якога Ордэн тэндэнцыйна назваў канюхом («*pferdemarschalk*») Гедыміна, у «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» нададзена годнасць *маршалкі* літоўскага князя Тройдзеня.

нах, у Маскоўскай дзяржаве да таго ж была свядома выкарыстана ў ідэйна-палітычных мэтах, што пацвярджаюць «Пасланне» Спірыдона-Савы і «Сказание о князьях владимирских», помнікі афіцыйнага характару. Таму, зразумела, і «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» мела выразную палітычную накіраванасць.

Усе ідэі і тэндэнцыі яе аўтара ў падтэксце зводзяцца па сутнасці да аднаго імкнення — абгрунтаваць гістарычнае права Вялікага княства Літоўскага і непасрэдна Літвы на самастойнае палітычнае жыццё, а тым самым адкінуць як беспадстаўныя і незаконныя ўсякія спробы суседніх дзяржаў пасягнуць на яго тэрытарыяльную цэласнасць і суверэнітэт.

Аднак канкрэтна палітычная праблематыка не вычэрпвае ўсяго багацця зместу гэтай «Хронікі». Аўтар апавядае не толькі пра Вялікае княства Літоўскае, але і непасрэдна пра Літву і Жамойць, не толькі пра асобных літоўскіх князёў, але і пра літоўскі народ у цэлым. Ён свядома аддзяляе літоўцаў ад «русінаў» (усходніх славян), выразна адмяжоўвае ўласна Літву ад усёй Русі. У той жа час ён не супраць прызнаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага толькі гісторыяй Літвы, а дзяржаву — выключна літоўскай. Храніст сцвярджае, што «панство Литовское почалося звати и множити от Жомоити», і называе гэту дзяржаву Вялікім княствам Літоўскім і Жамойцкім, г. зн. свядома апускае з яго назвы слова «Рускае»[203]. Такі погляд на гісторыю Усходняй Еўропы быў аднабаковым і тэндэнцыйным, ён быў проста супрацьлеглым агульнагістарычнай канцэпцыі ўкладаль-

[203] У поўнай афіцыйнай назве гэтай дзяржавы заўсёды на другім месцы ставілася — Рускае. Напрыклад, Жыгімонт I (1506—1548) тытулаваўся так: «Жикгимонт, божею милостью король Польскии, великии князь Литовскии, Рускии, Прускии, Жомоитскии и иных».

ніка першага беларуска-літоўскага летапісу, які прызнаваў гісторыю Вялікага княства Літоўскага і Рускага неад'емнай, арганічнай часткай гісторыі ўсходніх славян.

Са старонак «Хронікі» выразна гучыць голас мясцовага літоўскага патрыёта, які ўсвядоміў сваё нацыянальнае «я» і горача імкнецца абудзіць нацыянальную самасвядомасць свайго народа. Каб узняць пачуццё нацыянальнай годнасці ў літоўцаў, ён свядома гераізуе і рамантызуе гісторыю іменна Літвы, а не Русі, якая ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, абсалютна не зважаючы на тое, наколькі яго расказ адпавядае гістарычнай сапраўднасці.

Гэта патрыятычнае парыванне храніста добра зразумела ў святле гістарычных умоў таго часу, калі гістарычнаму існаванню літоўскага народа пагражала не толькі страта сваёй палітычнай незалежнасці, але і паступовая нацыянальна-культурная асіміляцыя з боку больш развітых славянскіх народаў; калі большая частка літоўскага пануючага класа была ўжо «зрусіфікавана»; калі дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім служыла не літоўская мова, а беларуская; калі ў самой сталіцы гэтай дзяржавы Вільні, цэнтры этнічнай Літвы, вялікі палачанін Францыск Скарына пачаў друкаваць першыя беларускія, а не літоўскія кнігі і інш.

Узнікненне ў такіх умовах твора, выразна літоўскага па свайму характару, было вельмі надзённым. «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» засведчыла значны ўзрост цікавасці сярод літоўцаў да свайго мінулага і, больш таго,— рост іх нацыянальнай свядомасці ў першай палавіне XVI ст. Ужо не за гарамі быў час выхаду ў свет першай кнігі на літоўскай мове — «Катэхізіса» Мажвідаса (1547). Несумненна, гэта «Хроніка» адыграла пэўную стымулюючую ролю ў падрыхтоўцы літоўскага нацыянальна-культурнага адраджэння.

Якія ж крыніцы выкарыстаў храніст, акрамя ўласнай фантазіі, ствараючы легендарную гісторыю Вялікага княства Літоўскага ад міфічнага Палемона да часоў Гедыміна?

Як мы ўжо адзначалі, у яе аснову была пакладзена легенда аб паходжанні продкаў літоўцаў ад старажытных рымлян, якую храніст напоўніў «плотью и кровью». Аўтар «Хронікі» добра ведаў таксама першы беларуска-літоўскі звод, бо ён давёў гісторыю Вялікага княства Літоўскага якраз да таго перыяду (эпоха Гедыміна), ад якога яна пачыналася ў гэтым помніку. Таму будзе слушным прызнаць адпаведную ролю гэтага летапісу ва ўзнікненні «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага».

Непасрэднай крыніцай для аўтара легендарнай гісторыі Літвы паслужыў Іпацьеўскі летапіс, які ён называе рускай хронікай. У гэтым няцяжка пераканацца, супаставіўшы адпаведныя мясціны названых помнікаў.

| *Іпацьеўскі летапіс* | *«Хроніка»* |
| --- | --- |
| «В лѣто 6778 нача княжити в Литвѣ оканьныи и беза-коньныи, прокляты, немило-стивыи Троиден. Его же бе-законья не могохом писати срама ради, так бо бяшеть безаконьник, яко и Антиох Сурьскыи, Ирод Ерусалим-скыи и Нерон Рымскыи, и на многа злѣиша того беза-конья чиняше» [204] | Троидень «над землями их (рускіх і ляхаў.— *В. Ч.*) силные окрутенства чинил, што ж вышеи опи-суется в рускои кроинице, иж горши был тым зем-лям, нижьли Антиох Сир-скии, и Ирод Ерусалим-скии, и Нерон Римскии, што так был окрутныи а валечныи» [205] |

[204] ПСРЛ, т. II., М., 1962, сл. 869.
[205] ПСРЛ, т. XVII, сл. 238.

З Іпацьеўскага летапісу літоўскі храніст узяў імёны для некаторых сваіх герояў (Шварн, Жывінбуд, Эрдзівіл, Транята, Тройдзень, Раман, Домант і інш.) і запазычыў асобныя сюжэты. Напрыклад, апавяданні пра Рыманта-Лаўрыша і Доманта пабудаваны на аснове адпаведных звестак таго ж летапісу пра літоўскіх князёў Войшалка і Доўманта. Але запазычаны дакладны гістарычны матэрыял храніст адвольна перарабіў. Так, Войшалку ён даў зусім іншае імя, яго бацькам зрабіў Тройдзеня, а першага вялікага літоўскага князя Міндоўга не ўпамянуў зусім.

У Іпацьеўскім летапісу паведамляецца таксама, што князь Міндоўг пасля смерці сваёй папярэдняй жонкі сілай узяў сабе за жонку яе родную сястру, якая была замужам за князем Доўмантам. Апошні арганізаваў змову і забіў Міндоўга. Паводле «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», падзеі адбываліся некалькі інакш: тут Доўмант паквапіўся на чужую жонку (князя Нарымунта) і забіў Тройдзеня, а не Міндоўга. Як бачым, усё пастаўлена з ног на галаву, рэальнае становішча рэчаў поўнасцю парушана. Такі падыход храніста да дакладных гістарычных крыніц тлумачыцца тым, што ён клапаціўся не пра ўзнаўленне сапраўднай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, а пра стварэнне сваёй уласнай, штучна прыдуманай, тэндэнцыйнай гісторыі даўняй Літвы.

Наяўнасць у «Хроніцы» звестак пра полацкую манашку, якая сама перапісвала кнігі, пра князёў Барыса і Глеба, а таксама паведамлення пра палачан, якія «вечом справовалися, яко Великии Новгород и Псков», паказвае, што аўтару былі вядомы некаторыя матэрыялы па гісторыі Полацка.

Аўтар «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» выкарыстаў таксама асобныя гістарычныя па-

данні і легенды (пра барацьбу літоўцаў з татарамі і рускімі князямі, пра заснаванне Гедымінам Вільні і інш.).

Храніст надзвычай добра ведаў язычаскія звычаі і абрады літоўцаў. Ён часта гаворыць пра іх пакланенне балванам (ідалам), свяшчэнным гаям, падрабязна апісвае іх рытуал спальвання нябожчыкаў і г. д. Шмат якія асабовыя імёны аўтар «Хронікі» атрымаў шляхам перанясення некаторых геаграфічных назваў Літвы і Беларусі на людзей: Каўнас — Кунас, Кернава — Кернус, Трабы — Трабус, Эйшышкі — Эйкшыс, Граўжышкі — Граўжыс, Утэна — Утэнус, Гальшаны — Гольша, Юрбарк — Борк, Лаўрышава — Лаўрыш і інш.

Такім чынам, з'яўляючыся ў сваёй аснове легендарнай, выдуманай, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» разам з тым уключае ў сябе нямала каштоўных звестак пра даўнія звычаі літоўскага народа і некаторыя сапраўдныя, хоць і пераасэнсаваныя па-свойму гістарычныя факты, узятыя з дакладных пісьмовых крыніц. Асобныя яе звесткі, безумоўна, маюць навуковую вартасць; гэта датычыцца ў першую чаргу апавяданняў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага эпохі Гедыміна.

Гэты помнік хутчэй за ўсё ўзнік у Вільні пры двары радавітага і ўплывовага літоўскага вяльможы, на што ўказвае не толькі агульная пралітоўская тэндэнцыя ўсёй «Хронікі», але і спробы яе аўтара вывесці генеалогію асобных багатых літоўскіх родаў (Гаштольдаў, Гальшанскіх, Давойнаў і інш.) ад знатных рымлян.

«Здаецца,— пісаў Ян Якубоўскі,— што найвялікшую ролю ва ўзнікненні і распаўсюджанні тэорыі аб рымскіх продках літоўцаў адыгралі Гаштольды. Гэта сям'я на працягу амаль цэлага стагоддзя займала самае высокае становішча ў дзяржаве і заўсёды вызначалася вялікай

датклівасцю, калі справа тычылася літоўскай нацыянальнай годнасці» [206].

Найноўшы польскі даследчык Ежы Ахманьскі, не адмаўляючы сувязі аўтара «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» з Гаштольдамі, адначасова звяртае ўвагу на той факт, што ў гэтым творы на самым відным месцы побач з генеалогіяй роду Калюмнаў, з якога выводзіцца дынастыя Ягелонаў, пададзены і радавод Кітаўрасаў. Кітаўрас жа — герб роду князёў Гальшанскіх. У сувязі з гэтым даследчык лічыць, што хутчэй за ўсё хтосьці з Гальшанскіх, у прыватнасці, магчыма, Павел Гальшанскі, біскуп брэсцкі (з 1522 г.) і віленскі (з 1536 г.), мог заахвоціць каго-небудзь скласці падобную гісторыю даўняй Літвы [207]. Гэта назіранне Е. Ахманьскага ўяўляецца нам вельмі істотным і важным.

Сапраўды, князі Гальшанскія не паходзілі непасрэдна ад Гедымінавічаў, хоць і парадніліся з правячай дынастыяй Ягелонаў па жаночай лініі: з Гальшанскіх была апошняя жонка караля Ягайлы Соф'я, маці вялікага князя літоўскага і польскага караля Казіміра Ягайлавіча. З продкаў князёў Гальшанскіх, наколькі нам вядома з дакладных крыніц, ніхто ніколі не быў вялікім князем. Аўтар жа легендарнай гісторыі Літвы даводзіць, што Гальшанскія таксама паходзяць з пануючай дынастыі. Іх продкі, знатны род Кітаўрасаў, доўгі час княжылі ў Літве і Жамойці і парадніліся з другім пануючым родам Калюмнаў, з якога выйшлі Ягелоны. Паказальна, што Кітаўрасаў, продкаў Гальшанскіх, пры пераліку храніст ставіць на першае месца перад Калюмнамі, продкамі Гаштольдаў і пануючай каралеўскай дынастыі.

---

206 J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 34.

207 J. Ochmański. Nad Kroniką Bychowca. Studia źródłoznawcze. Commentationes. T. XII. Warszawa, 1967, s. 158.

Зразумела, што падобны твор, у якім так прыўзняты род Гальшанскіх, паказана выключная роля іх далёкіх продкаў у гісторыі Літвы, мог напісаць толькі чалавек, самым цесным чынам звязаны з дваром іменна гэтых вяльмож і непасрэдна з біскупам Паўлам Гальшанскім. Апошняе пацвярджаецца адным важкім фактам: змест разглядаемай хронікі, характар асобных яе мясцін выразна ўказваюць на тое, што аўтарам гэтага твора была асоба духоўнага сану, рымска-каталіцкага веравызнання.

Е. Ахманьскі, грунтуючыся на розных пабочных, але даволі пераканаўчых даных, называе 1522—1527 гг. як найбольш верагодны час стварэння першай рэдакцыі легендарнай гісторыі Літвы ад Палемона да Гедыміна [208]. Такую датыроўку разглядаемай «Хронікі» трэба прызнаць цалкам прымальнай.

Іменна з 1522 г. пачынаецца перыяд найбольшага ўзвышэння бадай самага магутнага з роду Гаштольдаў Альбрэхта, канцлера Вялікага княства Літоўскага, якому Павел Гальшанскі даводзіўся сваяком [209]. Відаць, нездарма С. Герберштэйн называў А. Гаштольда намеснікам караля ў Вільні [210].

Пэўнае стымулюючае значэнне ва ўзнікненні «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» магла таксама мець і тая акалічнасць, што ў 1518 г. каралевай Польшчы стала мудрая і энергічная італьянка Бона. Літоўскія правячыя колы, безумоўна, імкнуліся дамагчыся яе прыхільнасці і падтрымкі. Таму літаратурная апрацоўка версіі аб рымскім паходжанні літоўцаў, паводле якой літоўскія князі і магнаты фактычна аб'яўляліся яе

---

[208] Studia źródłoznawcze, t. XII, s. 159.

[209] Маці А. Гаштольда даводзілася роднай цёткай П. Гальшанскаму.

[210] Барон Сигизмунд Герберштейн. Записки о московитских делах. СПб, 1908, стар. 165.

суайчыннікамі і аднапляменнікамі, была ў гэты час вельмі дарэчы.

На 20-я гады як на час узнікнення «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» пераканаўча ўказвае яшчэ адзін бясспрэчны факт. У гэтым творы зусім абыдзена паходжанне Радзівілаў, і наогул іх прозвішча прынцыпова ні разу не ўпамінаецца. Такое свядомае ігнараванне, непавага да аднаго з найбольш магутных літоўскіх родаў здаецца на першы погляд незразумелым. Аднак усё становіцца на сваё месца, калі прыгадаць, што якраз на 20-я гады XVI ст. прыпадае перыяд вельмі нацягнутых, часамі нават варожых узаемаадносін Гаштольдаў з Радзівіламі [211].

Такім чынам, другі беларуска-літоўскі звод, які быў сфарміраваны шляхам адпаведнай рэдактарскай апрацоўкі арыгінальнай часткі першага зводу і наступнага далучэння да яе легендарнай гісторыі Літвы, уключае творы неаднолькавай гістарыяграфічнай каштоўнасці, самыя розныя па свайму характару: «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», у якім выкладзены сапраўдныя факты гісторыі Літвы і Беларусі, і «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», твор пераважна літаратурны, помнік літоўскай грамадска-палітычнай думкі XVI ст. Паколькі гэта «Хроніка» стваралася як арганічнае дапаўненне «Летапісца», то трэба думаць, што яна адразу ж была аб'яднана з апошнім у новым зводзе. Карацей кажучы, узнікненне другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу таксама адносіцца да 20-х гадоў XVI ст.

Першапачатковы тэкст другога зводу за час доўгага бытавання падвергся пэўным зменам. Яго далейшая лі-

---

[211] Пра гэта падрабязна расказаў сам А. Гаштольд у спецыяльным лісце да Боны ў 1525 г. (Acta Tomiciana. T. VII. Kraków, 1924—1925, s. 258—269).

таратурная эвалюцыя адбывалася ў напрамку ўтварэння новых летапісных рэдакцый. На аснове апрацоўкі першай, кароткай рэдакцыі, тыповым прадстаўніком якой з'яўляецца летапіс Красінскага спіса, узнікла другая, пашыраная рэдакцыя другога зводу (Альшэўскі, Археалагічнага таварыства, Патрыяршы Б., Румянцаўскі і Ціханравава спісы).

Пашыраная рэдакцыя другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу ў параўнанні з яго кароткай рэдакцыяй вылучаецца наступнымі характэрнымі асаблівасцямі: дадатковай моўна-стылявой апрацоўкай тэксту; пропускам або скарачэннем ва ўсіх спісах гэтай групы адных і тых жа слоў, выразаў, сказаў і асобных мясцін тэксту [212]; устаўкай паведамлення пра полацкага князя Рагвалода-Васіля і апавядання пра Біруту, жонку князя Кейстута; заменай у легендарнай частцы асобных імён князёў новымі; увядзеннем у тэкст шматлікіх падзагалоўкаў; наяўнасцю ў канцы зводу так званай «Хронічкі» — кароткіх звестак пра падзеі XIV — першай палавіны XVI ст. (пачынаецца: «Вѣра закона рымского установлена в Литвѣ...»). Акрамя таго, два асобныя творы — «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»,—якія ў кароткай рэдакцыі існавалі як дзве зусім самастойныя, выразна аддзеленыя часткі, у пашыранай рэдакцыі былі арганічна аб'яднаны ў адну хроніку, захаваўшы назву першай часткі.

Апошнія агульныя звесткі ўсіх вядомых спісаў пашыранай рэдакцыі адносяцца да 40-х гадоў XVI ст., самы ж ранні яе спіс (Альшэўскі, на польскай мове) мае

---

[212] Напрыклад, у спісах пашыранай рэдакцыі дадаткова скарочаны тэкст «Пахвалы Вітаўту» і звестка пра бітву пад Оршаю (1514).

дакладную дату — 1550 г.[213] Таму мы даволі ўпэўнена адносім узнікненне гэтай рэдакцыі другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу да 40-х гадоў XVI ст.

Папоўненая значнай колькасцю новых звестак пра падзеі канца XV — першай палавіны XVI ст. і месцамі яшчэ раз апрацаваная пашыраная рэдакцыя склала затым поўную. Найбольш тыповы спіс поўнай рэдакцыі другога зводу — Познанскі (Рачынскага). Дадатковымі крыніцамі для яе складальніка паслужылі матэрыялы віленскай велікакняскай канцылярыі, а таксама Хроніка М. Бельскага[214]. Не абмінуў новы рэдактар і першы беларуска-літоўскі летапіс, адкуль запазычыў, напрыклад, звестку пра апошняе ўзяцце князем Вітаўтам Смаленска (1404). У папярэдніх рэдакцыях другога зводу яе не было.

Да поўнай рэдакцыі другога летапіснага зводу належыць і Еўраінаўскі спіс, які мае свае адметныя асаблівасці. Найбольш блізкі па свайму складу да Познанскага, ён разам з тым у асобных месцах выяўляе непасрэднае падабенства да летапісу спіса Красінскага, а некаторыя дадатковыя яго звесткі можна знайсці толькі ў «Хроніцы Быхаўца» (напрыклад, апавяданне пра паход Альгерда на Маскву). Дакладней кажучы, гісторыя паходжання хронікі Еўраінаўскага спіса надзвычай складаная і заблытаная, нават загадкавая, і таму можа быць прадметам спецыяльнага разгляду[215].

---

[213] Kodeks Olszewski Chomińskich. Wielkiego księstwa Litewskiego i Żmódzkiego kronika. Wilno, 1907, s. VII.

[214] M. Jučas. Lietuvos metraštis. Rusų knygos spausdinimo pradžia ir Lietuva. Vilnius, 1966, p. 97—118.

[215] Тэкст легендарнай гісторыі Літвы ў Еўраінаўскім спісе большай сваёй часткай бліжэй да тэксту кароткай рэдакцыі, чым пашыранай і поўнай. Ствараецца ўражанне, што пратограф Еўраінаўскага спіса ўкладзены на аснове злучэння кароткай і поўнай

У самай апошняй звестцы летапісу поўнай рэдакцыі паведамляецца пра смерць у 1548 г. караля Жыгімонта Казіміравіча. Але паколькі аўтар гэтай рэдакцыі выкарыстаў Хроніку М. Бельскага, першае выданне якой выйшла ў 1551 г., а наступнае ў 1554 г., то і з'яўленне поўнай рэдакцыі другога зводу нельга датаваць раней як першай палавінай 50-х гадоў XVI ст.

Беручы пад увагу змест заключнай часткі другога беларуска-літоўскага летапісу, трэба думаць, што і пашыраная і поўная рэдакцыі ўзніклі ў Вільні ў асяроддзі, якое акружала пануючыя вярхі Вялікага княства Літоўскага. Таму можна ў пэўнай ступені гаварыць пра афіцыйны характар гэтага летапіснага зводу.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» (другі беларуска-літоўскі летапісны звод), якая атрымала шырокае распаўсюджанне, мела важнае грамадска-палітычнае значэнне, асабліва ў XVI—XVII стст., у перыяд, калі экспансіяністкія імкненні польскіх феадалаў на літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі дасягнулі свайго апагея. Раскрываючы багатае і велічнае мінулае Літвы і Беларусі, гэты твор сваім зместам аб'ектыўна сцвярджаў поўнае гістарычнае права народаў гэтых краін на самастойнае дзяржаўнае і нацыянальнае развіццё, садзейнічаў уздыму цікавасці літоўскага і беларускага чытача да гісторыі сваёй радзімы, росту іх нацыянальнай самасвядомасці.

У жанравых адносінах другі беларуска-літоўскі лета-

---

рэдакцый другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу. Разам з тым некаторых звестак Еўраінаўскага спіса няма ў Познанскім, а іншыя запісы пра адны і тыя ж падзеі пададзены ў гэтых спісах у розным выкладзе (напрыклад, апавяданне пра караля Жыгімонта Аўгуста і каралеўну Барбару). Магчыма, Еўраінаўскі спіс сведчыць аб існаванні якогасьці асобнага, дакладна невядомага нам варыянта другога летапіснага зводу.

піс прадстаўляе сабою хроніку, вельмі неаднародную па свайму складу. Калі яе ядро, запазычанае з папярэдняга зводу,— гэта гісторыка-літаратурны твор, заснаваны на сапраўдных гістарычных фактах, то ўступная і заключная часткі маюць зусім супрацьлеглы характар. Так, легендарная, міфічная гісторыя Літвы ад Палемона да Гедыміна, поўная аўтарскага вымыслу, фактычна з'яўляецца творам пераважна літаратурным. У той жа час канец хронікі (пагадовыя запісы за першую палавіну XVI ст.) настолькі дакументальны, што месцамі нагадвае звычайны выпіс з актавых кніг.

Увабраўшы ў сябе такі разнародны матэрыял, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» з'яўляецца, такім чынам, як бы жывым люстрам эвалюцыі летапіснага жанру на беларуска-літоўскіх землях. Паступова відазмяняючыся і дыферэнцыруючыся, ён, нарэшце, саступіў месца іншым жанрам, гісторыка-літаратурным творам іншага характару. Але перш чым канчаткова занепасці, агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне дасягнула сваёй самай высокай вяршыні ў апошнім, трэцім летапісным зводзе — «Хроніцы Быхаўца».

## „ХРОНІКА БЫХАЎЦА“

Летапіс, умоўна званы «Хронікай Быхаўца»[216], вядомы толькі ў адным спісе, напісаным на беларускай мове лацінкаю. Упершыню гэту хроніку поўнасцю выдаў у 1846 г. Т. Нарбут[217]. У 1907 г. яна была надрукавана

---

[216] Названа так па імені пана з-пад Ваўкавыска А. Быхаўца, якому ў першай палавіне XIX ст. належаў яе арыгінал (рукапіс), што не захаваўся да нашага часу.

[217] T. Narbutt. Pomniki do dziejów litewskich. Wilno, 1846.

паўторна[218]. Нядаўна «Хроніка Быхаўца» выйшла асобным выданнем у перакладзе на сучасную рускую мову[219].

«Хроніка Быхаўца»[220] — асобны помнік, летапісны звод, у якім гісторыя Вялікага княства Літоўскага выкладзена больш поўна, чым ва ўсіх папярэдніх беларуска-літоўскіх летапісах[221]. Гэта Хроніка завяршае амаль паўтарастагадовы перыяд развіцця агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання і сваім паходжаннем непасрэдна звязана з першым і другім летапіснымі зводамі. Пачатковую частку яе складае легендарная гісторыя Літвы ад Палемона да Гедыміна, вядомая па «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»[222]. Храніст выкарыстаў яе цалкам, не падвяргаючы сур'ёзнай апрацоўцы запазычаны тэкст. Адзіную значную змену ён унёс толькі ў самы ўступ легендарнай гісторыі. У Хроніцы пачатак дзеяння перанесены з I ст. н. э. у V ст. і пададзена зусім іншае тлумачэнне прычын выгнання Палемона і яго суайчыннікаў з Італіі: рымская знаць уцякае з Рыма не ад крывавага тэрору Нерона, яна ратуецца ад караля

---

[218] ПСРЛ, т. XVII, сл. 473—572.

[219] «Хроника Быховца». М., 1966. Прадмова, каментарыі і пераклад М. Улашчыка. У «Прадмове» да выдання, якое зроблена на высокім навуковым узроўні, грунтоўна прааналізаваны папярэднія публікацыі Хронікі і падрабязна выкладзена гісторыя яе вывучэння.

[220] Лічым, што назву гэтай Хронікі абавязкова трэба браць у двукоссе, таму што ў адваротным выпадку ствараецца ўражанне, быццам бы яна напісана Быхаўцом. Параўн.: Хроніка Стрыйкоўскага, але «Аповесці Белкіна».

[221] Думка пра тое, што «Хроніка Быхаўца» — гэта летапісны звод, найбольш поўны паводле складу сярод іншых беларуска-літоўскіх, упершыню была выказана Я. Якубоўскім (J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 87—88).

[222] Спіс Быхаўца дэфектны. Заключная частка Хронікі не захавалася. Пачатак жа ўзнаўляецца паводле Хронікі М. Стрыйкоўскага, які карыстаўся некалькімі спісамі гэтага помніка.

гунаў Атылы, які набліжаецца з войскам да «вечнага» горада [223].

У гэтай замене ёсць элемент крытычнага падыходу аўтара «Хронікі Быхаўца», але не да самой легенды аб рымскім паходжанні літоўцаў, а да яе ранейшага літаратурнага афармлення. Выявіўшы вялікую храналагічную неадпаведнасць пачатку «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» з яе далейшым зместам [224], храніст для большай праўдападобнасці перасунуў час жыцця першага міфічнага князя літоўцаў Палемона з I у V ст., хоць гэта папраўка і не выратавала становішча.

У «Хроніцы Быхаўца» ў параўнанні з «Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» прапушчаны асобныя апавяданні (пра Паяту, пра бітву літоўскіх і рускіх князёў з татарскім ханам Курдасам каля Мазыра і інш.). Аднак верагодней за ўсё гэтыя пропускі — вынік пазнейшай перапіскі арыгінала разглядаемага помніка, чым адзнакі свядомай апрацоўкі і скарачэння яго аўтарам першапачатковага тэксту. У многіх месцах спіса Быхаўца пропускі тэксту — відавочныя дэфекты рукапісу.

Як было адзначана вышэй, аўтар «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», састаўной часткі другога беларуска-літоўскага зводу, выкарыстоўваючы ў якасці сваёй крыніцы летапіс, блізкі да Іпацьеўскага, чамусьці свядома абышоў князёў Міндоўга і Войшалка, а звесткі пра іх выкарыстаў у сваіх апавяданнях пра

---

223 «Roku bożego 401 powstał jest Atila, który zwan jest Bicz Boży»...,— так, паводле М. Стрыйкоўскага, пачынаецца разглядаемая Хроніка.

224 Паводле другога беларуска-літоўскага летапісу, ад часоў Нерона (I ст.) да часоў Батыя (XIII ст.) у Літве паслядоўна змянілася ўсяго тры пакаленні князёў: Палемон — Кунас — Кгінбут — Мантвіл. «И часу пановання Монтвилова повстал цар Батый»,— сцвярджаў аўтар легендарнай гісторыі Літвы.

князёў Доўманта, Тройдзеня і Рыманта-Лаўрыша. Памылку папярэдняга храніста выправіў аўтар «Хронікі Быхаўца», які ўставіў у свой звод узятыя з Іпацьеўскага летапісу звесткі пра названых літоўскіх князёў [225]. Для таго каб гэта ўстаўка арганічна ўвайшла ў новы тэкст, храніст князя Міндоўга зрабіў сынам легендарнага князя Рынгольта, хоць у папярэдняй хроніцы (другім зводзе) сцвярджалася, што апошні «умре без плоду». Такім чынам, аўтар «Хронікі Быхаўца» ўвёў у легендарную генеалогію літоўскіх князёў першага, гістарычна сапраўднага вялікага князя Міндоўга і яго сына Войшалка і звязаў апавяданне пра іх з тэкстам «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага».

Сваё запазычанне з Іпацьеўскага летапісу аўтар «Хронікі Быхаўца» пачаў са звесткі, змешчанай у гэтым летапісу пад 1252 г. (міжусобная барацьба літоўскіх князёў і ўзвышэнне Міндоўга), і прадоўжыў звесткамі за 1262 і 1263 гг. (апавяданні пра хрышчэнне Войшалка, забойства Міндоўга і наступныя падзеі ў Літве). Іх тэкст, як і пачатак запісу за 1264 г. («Woyszełk pacza kniażyty wo wsej zemli Litowskoy, i pocza wrahi swoja izbiwaty...»), храніст выпісаў цалкам і даволі дакладна, блізка следуючы сваёй крыніцы. Наступныя паведамленні пра князя Войшалка (пра яго вайну з ляхамі і вяртанне ў манастыр) выкладзены ўжо аўтарам «Хронікі Быхаўца» сваімі словамі, але таксама на аснове адпаведных звестак таго ж летапісу (за 1268 г.). Апавяданнем пра забойства Войшалка галіцкім князем Львом Данілавічам і заканчваецца ўстаўка, запазычаная з Іпацьеўскага летапісу.

---

[225] Залежнасць асобных частак «Хронікі Быхаўца» ад Галіцка-Валынскага летапісу (у складзе Іпацьеўскага) упершыню адзначыў яшчэ І. Даніловіч (И. Данилович. О литовских летописях ЖМНП, ч. XXVIII. СПб, 1840, стар. 94—95).

Затым аўтар «Хронікі Быхаўца» вярнуўся да сваёй першай крыніцы, «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», па якой і прадоўжыў далейшае выкладанне легендарнай гісторыі Літвы. Аднак дайшоўшы да апісання гістарычна сапраўднай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, ён неўзабаве адышоў ад тэксту гэтай хронікі і звярнуўся непасрэдна да першага беларускалітоўскага летапісу, у чым нас пераконвае параўнанне тэксту ўсіх трох літапісных зводаў.

| *Першы звод* | *Другі звод* | *«Хроніка Быхаўца»* |
|---|---|---|
| «Князь велики Кестути не остави (слова) брата своего, великого князя Олгирда, как до его живота в одинотьстве с ним были, почнеть держати князем великим во Вилни сына его, великого князя Ягаила и почнеть пак приездити ко старым думам, как ко брату приѣзчивал ко стареишему» [226] | «Князь великии Кестутеи, не хотечы шлюбу брата своего зменити, князя великого Олкгирда, и посадить братанича своего на Вилни князем великим, Якгеила Олкгирдовича» [227] | «Kniaż weliki Kestutey, pamiataiuczy na prawdu y na lubow brata swoieho y na odynoctwo, kotoroie s nim do żywota ieho meł, y pocznet derżaty kniazem welikim na Wilni syna ieho, kniazia welikoho Jagoyła, y imet pryieżdżaty ko starym radam, kak y ko bratu starszomu pryieżdżał» [228] |

---

[226] ПСРЛ, т. XVII, сл. 72.
[227] Там жа, сл. 316.
[228] Там жа, сл. 501.

Літоўскія князі «поменуша слово божие, еже рече: в ню же человек меру мерить и отмерится ему, а што сееть, то и пожнеть. Рекоста: «Мы никоего зла (не) сотвориша ему, а он, с нами у докончании буда и преступил крестное целование и докончание, нашю землю воюеть»[229]

«...рекли так: «Боже вышнии, поможы нам над непрыятелми нашими. Мы зла никому не вчынили, а он, з нами в доконаню будучы и в твердои прысязе, и переступил свою прысягу и нашу землю воюеть»[230]

«...pomenusza słowo bożyie, iże recze: w niu że meru meryte, otmiritsia im. I rekosza: «My nikotoroho iemu zła ne sotworyli, a on z nami w dokonczanii buduczy, y perestupił krestnoie cyłowanije i dokonczanije, naszu zemlu wojuiet»[231]

Моўныя і стылявыя асаблівасці гэтай часткі (пра падзеі другой палавіны XIV — першай палавіны XV ст.), а таксама яе склад сведчаць аб тым, что яна заснавана на тэксце першага, а не другога беларуска-літоўскага летапісу. Амаль усе пропускі і скарачэнні ў тэксце першага зводу, зробленыя складальнікам другога зводу і яго пазнейшымі рэдактарамі, у «Хроніцы Быхаўца» адноўлены.

Такім чынам, уся запазычаная частка «Хронікі Быхаўца» выкладзена паводле тэксту двух папярэдніх беларуска-літоўскіх зводаў: з другога спісана легендарная гісторыя Вялікага княства Літоўскага ад Палемона да Гедыміна ўключна, дапоўненая ўстаўкай з Галіцка-Валынскага летапісу, з першага — гісторыя ад Альгерда

---

[229] ПСРЛ, т. XVII, сл. 91.
[230] Там жа, сл. 323.
[231] Там жа, сл. 510.

і Кейстута і да пачатку княжання Казіміра. Апошняй звесткай «Хронікі Быхаўца», агульнай з першым беларуска-літоўскім летапісам, з'яўляецца паведамленне пад 1445 г. аб ваеннай сутычцы «літоўскіх» войск з маскоўскімі пад Смаленскам.

Даволі дакладна можна ўказаць месца, дзе аўтар «Хронікі Быхаўца» перайшоў ад другога летапісу да першага,— гэта пачатак звесткі пра змову князёў Альгерда і Кейстута супраць свайго брата Яўнута. Перад гэтай звесткай у Хроніцы змешчаны апавяданне пра Біруту і паведамленне пра пабудову Вітаўтам у Старых Троках касцёла, якіх у беларуска-літоўскім зводзе 1446 г. няма.

Агульнае вызначэнне крыніц запазычанай часткі «Хронікі Быхаўца», зразумела, не можа нас цалкам задаволіць. Факт існавання асобных рэдакцый першых двух беларуска-літоўскіх летапісаў выклікае неабходнасць больш дакладна выявіць непасрэдную сувязь разглядаемай Хронікі з гэтымі летапіснымі зводамі, а іменна: спісамі якіх рэдакцый карыстаўся ўкладальнік трэцяга зводу.

Непасрэдную крыніцу часткі «Хронікі Быхаўца», запазычанай з першага беларуска-літоўскага летапісу, вызначыць няцяжка; ёю была новая рэдакцыя названага летапісу. У гэтым нас пераконвае агульнасць складу і парадку размяшчэння летапіснага матэрыялу ў абодвух зводах, а таксама агульнасць тэкставых змен (аднолькавыя пропускі, падабенства ў чытанні некаторых характэрных слоў і выразаў і інш.).

Спіс Быхаўца выяўляе самую цесную сувязь іменна са Слуцкім спісам. Шмат якія індывідуальныя чытанні апошняга (нават і памылковыя) паўтараюцца і ў тэксце «Хронікі Быхаўца». Так, у спісе Быхаўца, як і ў Слуцкім, паведамляецца, што Святаслаў Смаленскі ўзяў горад Мсціслаў «па *tretey* nedeli w piatnicu», хоць у іншых спісах

першага летапісу падаецца: «на страснои» або «на крестнои недели». У старэйшай рэдакцыі зводу 1446 г. чытаем: Вітаўт «отпусти *нятца* своего» (князя Глеба Святаславіча), у спісе Быхаўца — «*tystia* swoieho», што ўзыходзіць да «отпусти *тца* своего» Слуцкага спіса. Узнікненне чытанняў «kniaź Fedor Patrykiewicz *Wolski*» і «wojewodu... *Nestana* poymał» (спіс Быхаўца) значна лягчэй вытлумачыць тэкстам Слуцкага спіса («Волоскии» і «Нестака»), чым Супрасльскага («Волыньскыи» і «Нестиса») і інш. Відаць, аўтар «Хронікі Быхаўца» непасрэдна карыстаўся Слуцкім спісам першага беларуска-літоўскага летапісу.

Параўнанне «Хронікі Быхаўца» з летапісам Слуцкага спіса паказвае, што запазычаная частка была ўключана ў новы звод без спецыяльнай рэдактарскай апрацоўкі, калі не лічыць пропуску некаторых звестак (пра вызваленне Свідрыгайлы ў 1418 г., «Пахвалы Вітаўту» і інш.) і асобных новых уставак. Аднак месцамі аўтар «Хронікі Быхаўца» зрабіў свядомую перагрупоўку матэрыялу. Напрыклад, аповесць пра Падолле была значна скарочана ў канцы і ўстаўлена ў самы пачатак запазычанай часткі пад 1351 г., г. зн. усе падзеі, пра якія апавядаецца ў ёй, аднесены да часоў князя Альгерда. У сувязі з гэтым імя князя Вітаўта ў аповесці пра Падолле ўсюды заменена ў «Хроніцы Быхаўца» на імя Альгерда, якому такім чынам аказаліся прыпісанымі ўсе дзеянні Вітаўта па канчатковаму далучэнню гэтай украінскай зямлі да Вялікага княства Літоўскага.

Значна больш складана вызначыць, якой дакладна рэдакцыяй «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» карыстаўся аўтар «Хронікі Быхаўца», апісваючы легендарную гісторыю Літвы ад Палемона да Гедыміна. Бясспрэчна, крыніцай «Хронікі Быхаўца» не мог быць другі звод кароткай рэдакцыі, бо ўсе дапаўненні

і змены, зробленыя ў дадзенай частцы тэксту ўкладальнікам пашыранай рэдакцыі і якія адрозніваюць яе ад папярэдняй рэдакцыі (наяўнасць апавядання пра Біруту і паведамлення пра Рагвалода, замена асобных імён князёў і інш.), унесены і ў трэці беларуска-літоўскі звод. Таму застаецца толькі адзін выбар: пашыраная рэдакцыя або поўная.

Цяжкасць, з якой сутыкаецца даследчык, імкнучыся дакладна ўстанавіць тып другога беларуска-літоўскага летапісу, што паслужыў адной з крыніц «Хронікі Быхаўца», мае свае аб'ектыўныя прычыны. Па-першае, разглядаемая хроніка захавалася толькі ў адным спісе, прычым дэфектным[232]; па-другое, яе аўтар запазычыў з другога летапіснага зводу якраз тую частку, якая сваім тэкстам нічым істотна не адрозніваецца ў пашыранай і поўнай рэдакцыях.

Наяўны матэрыял дае нам самыя супярэчлівыя факты. З аднаго боку, аўтару «Хронікі Быхаўца» засталося невядомым апавяданне пра апошняе ўзяцце Вітаўтам Смаленска ў 1404 г., якое ёсць у поўнай рэдакцыі другога беларуска-літоўскага летапісу. У «Хроніцы Быхаўца» ў частцы за другую палавіну XV — пачатак XVI ст. няма таксама ніводнага запісу, які можна было б лічыць запазычаным з гэтай рэдакцыі.

Аднак ёсць факты, якія сведчаць аб бясспрэчнай сувязі тэксту «Хронікі Быхаўца» з поўнай рэдакцыяй «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». Толькі ў Познанскім, Еўраінаўскім і Быхаўца спісах падаецца пералік сыноў Альгерда. У апошніх двух спісах змешчаны таксама і пералік сыноў Кейстута. Больш таго,

---

232 У спісе Быхаўца не захаваліся звесткі амаль за ўсю першую палавіну XVI ст.: апавяданне храніста раптоўна абрываецца на сярэдзіне сказа пры апісанні падзей, датаваных у творы 1507 г.

у «Хроніцы Быхаўца» ёсць адзін характэрны ўдакладняючы сказ (Палемон узяў з сабою астранома, «kotory znałsia po zwizdach»), які чытаецца толькі ў Познанскім, найбольш тыповым спісе поўнай рэдакцыі другога зводу.

Значыць, акрамя першага беларуска-літоўскага летапісу новай рэдакцыі (Слуцкі спіс) і Іпацьеўскага летапісу, трэцяй пісьмовай крыніцай «Хронікі Быхаўца» паслужыла поўная рэдакцыя «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» (другі беларуска-літоўскі летапісны звод).

Што ж датычыцца апавядання «Хронікі Быхаўца» пра паход Альгерда на Маскву, то яго з'яўленне ў Еўраіпаўскім спісе ўяўляецца нам вельмі загадкавым. Сваёй вобразнай мовай і чыста летапісным стылем яно настолькі істотна адрозніваецца ад сухіх, напісаных канцылярскай мовай заключных запісаў гэтага спіса, што мы ніяк не можам прызнаць яго аўтарам укладальніка поўнай рэдакцыі другога зводу. Магчыма, апавяданне пра паход Альгерда на Маскву напісана аўтарам «Хронікі Быхаўца».

Як бачым, укладальнік трэцяга беларуска-літоўскага зводу не абмежаваўся адной «Хронікай Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», а звярнуўся і да іншых пісьмовых помнікаў, якія выкарыстаў акуратна, беражліва. Ставячыся з павагай да сваіх крыніц, аўтар «Хронікі Быхаўца» аддаваў усё ж перавагу больш старажытным летапісным тэкстам. У такім выкарыстанні пісьмовых помнікаў можна бачыць некаторыя элементы навуковага, хоць яшчэ і не крытычнага падыходу да гістарычных крыніц.

«Хроніка Быхаўца» не мела б для нас такой вялікай каштоўнасці, калі б яна была пабудавана толькі на аснове кампіляцыі ранейшых летапісных помнікаў. Добрую яе палавіну складае зусім арыгінальны тэкст, плён

самастойнай працы новага храніста, у якім выразна выяўляюцца яго сімпатыі і антыпатыі, шырока раскрываюцца яго здольнасці як гістарыёграфа і пісьменніка.

Багацце і разнастайнасць новага матэрыялу ў «Хроніцы Быхаўца» сведчаць аб свядомым імкненні яго аўтара стварыць максімальна поўную, сістэматызаваную гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Ён апісаў найбольш важныя падзеі пасля 1445 г., на якім заканчваліся мясцовыя звесткі першага беларуска-літоўскага летапісу, і значна пашырыў увесь запазычаны з гэтага летапісу тэкст. Многія яго ўстаўкі і дапаўненні маюць выгляд асобных закончаных апавяданняў.

Першымі арыгінальнымі ўстаўкамі ў частцы «Хронікі Быхаўца», агульнай з першым беларуска-літоўскім летапісам, з'яўляюцца апавяданне пра Пятра Гаштольда, які «naypierwey pryniał wiru rymskuiu y do Litwy prynes», і маляўнічае апісанне паходу Альгерда на Маскву. Гэтыя ўстаўкі змешчаны адразу ж пасля апавядання пра Паполле, датаванага 1351 г. У далейшым аб'ём уласнага матэрыялу храніста няспынна павялічваецца. У гэтай частцы «Хронікі Быхаўца» яшчэ варта назваць: апісанне паходу князя Ягайлы на Польшчу з устаўленай легендай пра дрэва святога крыжа, апавяданні пра жаніцьбу караля Ягайлы на Соф'і Гальшанскай, пра паходы Вітаўта на Маскву, Пскоў і Ноўгарад, пра Грунвальдскую бітву [233], надзвычай характэрнае апісанне гісторыі Вітаўтавага каранавання і прыняцця «літоўскімі» панамі польскіх гербаў, а таксама падрабязнае мастацкае апавяданне пра акалічнасці забойства князя Жыгімонта.

У арыгінальнай частцы «Хронікі Быхаўца» (за другую палавіну XV — пачатак XVI ст.) адны перыяды гісторыі Вялікага княства Літоўскага пададзены ўрыўкава, а

[233] У «Хроніцы Быхаўца» памылкова датавана 1412 г.

іншыя больш поўна. Так, за 50—70-я і першую палавіну 80-х гадоў у творы змешчана толькі пяць кароткіх запісаў, датаваных адпаведна 1453, 1454, 1458, 1470 і 1471 гг., прычым тры з іх (за 1454, 1470 і 1471 гг.) датычацца князёў Слуцкіх. У той жа час параўнальна падрабязна апісана палітычная гісторыя Вялікага княства Літоўскага канца XV (пачынаючы з 1486 г.) — пачатку XVI ст.

Гэта нераўнамернасць гістарычнага матэрыялу тлумачыцца тым, што: па-першае, эпоха Казіміра (1440—1492) была храналагічна больш аддаленай ад часу стварэння «Хронікі Быхаўца», чым эпоха Аляксандра (1492—1507); па-другое, 50—80-я гады былі значна бяднейшыя на падзеі вялікай дзяржаўнай важнасці, на ваенныя паходы і бітвы, якія так любіў апісваць храніст, чым наступны перыяд, калі вялася вайна з татарамі і Маскоўскай дзяржавай і ўзнімаў паўстанне князь Міхаіл Глінскі.

Вялікай стратай для беларускай культуры і для навукі ў цэлым з'яўляецца нястача канца «Хронікі Быхаўца». Гэта страта асабліва адчувальная не столькі для гістарыяграфіі, паколькі пераважную большасць яе звестак за першую палавіну XVI ст. можна аднавіць на аснове іншых крыніц, колькі для беларускай літаратуры. Даныя Хронікі М. Стрыйкоўскага, у якую амаль цалкам была ўключана «Хроніка Быхаўца», і «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» поўнай рэдакцыі, даюць падставы прызнаць, што ў рукапісу Быхаўца не захавалася звыш адной чвэрці тэксту даследуемага помніка.

Дзякуючы таму, што Стрыйкоўскі, укладаючы свой твор, даволі шырока і поўна карыстаўся беларуска-літоўскай хронікай, блізкай да «Хронікі Быхаўца», думаецца, на аснове яго твора мы можам атрымаць агульнае ўяўленне аб згубленай частцы нашай Хронікі.

Так, у Хроніцы М. Стрыйкоўскага, пачынаючы ад запісу пра падзеі 1518 г. і да сярэдзіны XVI ст., змешчаны галоўным чынам кароткія паведамленні. Калі б «Хроніка Быхаўца» змяшчала якія-небудзь падрабязныя апісанні падзей гэтага перыяду, то Стрыйкоўскі, напэўна, не прамінуў бы ўключыць іх у сваю Хроніку, таму што вядомая частка гэтага зводу практычна ўся ўвайшла ў яго твор.

Такім чынам, заключная частка «Хронікі Быхаўца» (за 20—40-я гг. XVI ст.) складалася пераважна з кароткіх звестак. Прыблізнае ўяўленне пра змест і склад гэтай страчанай часткі «Хронікі Быхаўца» можна атрымаць на аснове Хронікі Стрыйкоўскага і поўнай рэдакцыі «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», якія і ў заключных частках маюць шмат агульных звестак.

Хроніка М. Стрыйкоўскага дае магчымасць таксама прыблізна рэканструяваць склад «Хронікі Быхаўца» і ў звестках за першыя два дзесяцігоддзі XVI ст. Безумоўна, у нашай хроніцы было змешчана апісанне паўстання князя Міхаіла Глінскага і забойства ім маршалка Яна Забярэзінскага (у Стрыйкоўскага пададзена пад 1507—1508 гг.)[234], бо сам храніст абяцаў напісаць яшчэ пра гэтага князя «mnoho dywnoho»[235].

Зыходзячы з характару звестак «Хронікі Быхаўца» канца XV — пачатку XVI ст., у якіх знайшлі адлюстраванне ўсе значныя ваенна-палітычныя падзеі таго часу, што адбываліся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, можна з упэўненасцю сказаць, што ў гэтым творы былі змешчаны таксама і паведамленне пра перамогу князя Слуцкага над татарамі пад Кіевам у 1511 г.[236], і

---

[234] Maciej Stryjkowski. Kronika..., t. II, s. 342—352.
[235] ПСРЛ, т. XVII, сл. 561.
[236] Maciej Stryjkowski. Kronika..., t. II, s. 362.

апавяданні пра перамогі гетмана К. Астрожскага над татарамі ў 1512 г.[237] і над рускімі пад Оршай у 1514 г.[238], і апісанне ўзяцця маскоўскімі войскамі Смаленска ў тым жа годзе[239] і некаторыя іншыя. На жаль, значэнне Хронікі Стрыйкоўскага для рэканструкцыі канца помніка, блізкага да «Хронікі Быхаўца», сур'ёзна змяншаецца тым, што польскі храніст замест больш-менш дакладнага капіравання тэксту сваіх крыніц нярэдка даваў занадта вольны, у прыватнасці, вершаваны пераказ іх арыгінальных звестак.

Акрамя пісьмовых крыніц, аўтар «Хронікі Быхаўца», бясспрэчна, карыстаўся і вуснай інфармацыяй людзей, якія шмат бачылі і чулі і захоўвалі ў сваёй памяці перададзеныя ад продкаў апавяданні пра падзеі даўніх часоў. Вусныя паданні магнацкіх і княскіх родаў былі адной з асноўных крыніц для храніста. Зразумела, што чым глыбей сягаў у мінулае аўтар, тым менш дакладную інфармацыю аб падзеях мог ён здабыць. Тады на дапамогу прыходзіла ўласная фантазія, тады гістарыёграф станавіўся адначасова і пісьменнікам. Таму па меры аддаленасці тых ці іншых гістарычных падзей ад эпохі, у якой жыў аўтар, як правіла, усё больш і больш літаратурнымі становяцца ў хроніцы і апісанні іх. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца, напрыклад, паэтычнае апісанне паходу вялікага літоўскага князя Альгерда на Маскву.

Скарыстаўшы сапраўдны гістарычны факт[240], беларускі храніст стварыў арыгінальнае мастацкае апавяданне, дынамічнае, вобразнае, дасціпнае. Хоць рэальныя

---

[237] Maciej Stryjkowski. Kronika..., t. II, s. 365—371.

[238] Там жа, стар. 378—385.

[239] Там жа, стар. 374—377.

[240] Як паведамляюць шмат якія рускія летапісы, Альгерд двойчы, у 1368 и 1370 гг., сапраўды стаяў каля самых сцен маскоўскага крамля.

дэталі паходу Альгерда на Маскву і былі невядомы храністу, аднак апісанне манеры дзеянняў літоўскага князя, пададзенае ў «Хроніцы Быхаўца», у цэлым адпавядае гістарычнай сапраўднасці: Альгерд быў дальнабачным і ўмелым палітыкам і ў патрэбны момант дзейнічаў нечакана, рашуча. Нездарма нават маскоўскія летапісцы, як бы ставячы яго ў прыклад сваім князям, адзначалі, што ён «не толма силою, елико умением воеваша». Аўтар робіць экскурс у XIV ст. і як бы прымушае чытача аддацца прыемным успамінам пра слаўнае мінулае сваёй дзяржавы. У воклічы «pamietay to, szto kopije litowskoie stoiało pod Moskwoiu», які ва ўсім апавяданні, выказаны гонар аўтара за былую славу «літоўскай» зброі і разам з тым прыглушана гучыць ужо нейкі сум па тым, што гісторыя не паўтараецца, што сёння, у XVI ст., няма асабліва чым пахваліцца. І сапраўды, веліч і магутнасць Вялікага княства Літоўскага былі ў мінулым. Добра разумеючы гэта, храніст імкнецца прыкладам продкаў узварушыць патрыятычныя пачуцці сваіх чытачоў, натхніць іх на ратныя подзвігі.

Тэма патрыятызму з'яўляецца асноўнай, дамінуючай у «Хроніцы Быхаўца». Аўтарам выразна кіруе жаданне ўславіць і ўзвялічыць гісторыю сваёй Радзімы, паказаць яе ў найбольш станоўчым святле. Ён выбірае такія значныя і яркія моманты з яе мінулага, якія б выклікалі ў яго суайчыннікаў законны гонар за гісторыю свайго народа, сваёй дзяржавы і гэтым самым выхоўвалі б у іх пачуццё патрыятызму. Ён падрабязна апісвае адзін з паспяховых паходаў князя Ягайлы на польскія землі, вынікам якога было ўстанаўленне заходніх межаў Вялікага княства Літоўскага «z lachy po Biełuiu Wodu, to iest po reku Wisłu». Спецыяльна ўстаўляе храніст і апавяданне пра ваенную сутычку ў 1408 г. князя Вітаўта з маскоўскім князем Васіліем Дзімітрыевічам, якая закончылася тым, што па

просьбе апошняга сапернікі «meży soboiu mir wczynili y hranicu zemlam swoim po Uhru reku położyli». Наогул жа аўтар «Хронікі Быхаўца» асабліва падкрэслівае факты рассоўвання межаў Вялікага княства Літоўскага. Ён ухваляе ў цэлым знешнюю палітыку сваіх князёў, у прыватнасці Вітаўта, які расшырыў межы сваёй дзяржавы «od mora y do mora». Іменна пад яго кіраўніцтвам, зазначае храніст, «літоўскае» войска пад Грунвальдам у 1410 г. нанесла сакрушальнае паражэнне Тэўтонскаму Ордэну, а «woyska lackije niczoho im ne pomohali, tolko na to smotreli».

Асобныя старонкі «Хронікі Быхаўца» надзвычай выразна выяўляюць ідэйныя пазіцыі яе аўтара, сацыяльна-палітычныя імкненні пэўных грамадскіх колаў Літвы і Беларусі сярэдзіны XVI ст. і гэтым самым дапамагаюць сёння нам лепей зразумець той бурны, напружаны і пераломны час, калі ўзнік разглядаемы твор.

Так, у апавяданні пра каранацыйны з'езд у Вітаўта храніст сцвярджае больш старажытнае і высакароднае паходжанне літоўскіх паноў, чым польскіх. Феадалы Вялікага княства Літоўскага, падкрэслівае ён,— «starszaia szlachta y predniaia, niż lachowie». З ледзь стрыманым гневам і нянавісцю да кіруючых колаў Польшчы расказвае ён аб тым, як аднойчы пры каралі Казіміры польскія паны задумалі вынішчыць «літоўскіх» паноў, а Вялікае княства Літоўскае далучыць да Кароны. У гэтым выразна праявіліся антыпольскія настроі і самога храніста, і акаляючага яго асяроддзя.

Разам з тым аўтар «Хронікі Быхаўца» лічыць беларуска-літоўскіх князёў і магнатаў галоўнай палітычнай сілай у абароне самастойнасці Вялікага княства Літоўскага, якіх называе сапраўднымі валадарамі гэтай дзяржавы. Дзеючымі асобамі ў заключнай частцы хронікі выстаўляе пераважна прадстаўнікоў радавітай знаці: гет-

манаў, маршалаў, ваявод, князёў і інш. З'яўляючыся гарачым прыхільнікам захавання дзяржаўнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, беларускі храніст бачыў у польскіх правячых колах яго галоўных ворагаў і адначасова з яўнай прыхільнасцю ставіўся да тых прадстаўнікоў пануючага класа сваёй дзяржавы, якія былі, на яго думку, асноўнай апорай гэтай незалежнасці.

У гэтым праявіліся і сіла, і слабасць пазіцыі аўтара «Хронікі Быхаўца». Абмежаваны інтарэсамі свайго класа, храніст, зразумела, не мог выйсці за межы сваіх уяўленняў і тым больш за межы ўяўленняў свайго часу. Ён яўна пераацэньваў ролю прадстаўнікоў мясцовай радавітай знаці ў абароне дзяржаўнага суверэнітэту Вялікага княства Літоўскага. Аднак яго рэзка адмоўныя адносіны да польскай экспансіі, гарачая зацікаўленасць мінулым і будучым сваёй радзімы, шчырае імкненне ўзбудзіць патрыятычныя пачуцці сваіх чытачоў і іншыя факты пераканаўча сведчаць аб тым, што аўтар «Хронікі Быхаўца» належаў да перадавой часткі пануючага класа Вялікага княства Літоўскага.

Аўтарам «Хронікі Быхаўца» хутчэй за ўсё быў прадстаўнік служылага стану, цесна звязаны з беларуска-літоўскімі арыстакратамі. Яго шляхецкае паходжанне выяўляецца ў шмат якіх мясцінах гэтага твора. Ён неаднаразова гаворыць аб шляхце наогул, сацыяльныя інтарэсы якой для яго далёка не абыякавыя. Напрыклад, ён цалкам ухваляе забойства Жыгімонта Кейстутавіча, бо гэты князь, паводле слоў храніста, імкнуўся «weś rożay szlachecki pohubity y krow ich rozlity, a podnesty rożay chłopski, psiu krow». У гэтых словах чуваць голас прадстаўніка шляхецкага саслоўя, якое ўжо выразна выдзелілася як асобны грамадскі стан і вельмі хваравіта рэагавала на ўсякія спробы вышэйшых улад абмежаваць яго палітычныя правы.

Завяршэнне працэсу фарміравання шляхецкага саслоўя ў Вялікім княстве Літоўскім прыпадае на сярэдзіну XVI ст., што і засведчыў Статут 1566 г. На працягу першай палавіны гэтага стагоддзя шляхта вяла ўпартую і даволі паспяховую барацьбу з арыстакратыяй за палітычную гегемонію ў дзяржаве. Аднак прадстаўнікі перадавой часткі шляхты, да якой належаў і аўтар «Хронікі Быхаўца», у гэты час прынамсі ў адным салідарызаваліся з князямі і магнатамі — у абароне агульнадзяржаўных інтарэсаў перад агрэсіўным націскам польскіх феадалаў на літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі. Таму будзе правільным зрабіць вывад, што ў «Хроніцы Быхаўца» адбіліся некаторыя агульныя грамадска-палітычныя погляды і імкненні беларуска-літоўскай арыстакратыі і патрыятычна настроенай часткі шляхты Вялікага княства Літоўскага сярэдзіны XVI ст.

У свой час Ян Якубоўскі выказаў меркаванне, што аўтар «Хронікі Быхаўца» паходзіў з ваколіц Слуцка або Навагрудка і што дзесьці ў гэтым раёне была створана і сама Хроніка[241]. Да аналагічнага вываду прыйшоў і М. Улашчык, пацвярджаючы яго наступнымі аргументамі: 1) у мове хронікі адлюстраваліся лексічныя асаблівасці іменна гэтага раёна Беларусі; 2) храніст выдатна, да драбніц ведаў мясцовасць Случчыны і Навагрудчыны, яе рэльеф, тапаграфічнае размяшчэнне населеных пунктаў і рэк; 3) у творы сустракаюцца асобныя прыватныя, але дакладныя запісы пра князёў Слуцкіх, што сведчыць аб блізкіх сувязях з апошнімі гэтага храніста; 4) аўтар «Хронікі Быхаўца» быў чалавекам праваслаўнага веравызнання[242].

---

[241] J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 42, 90.

[242] Н. Н. Улащик. «Предисловие». «Хроника Быховца», стар. 24—28.

Да гэтага, безумоўна, вельмі пераканаўчага вываду мы далучаем яшчэ адзін немалаважны аргумент. Параўнанне «Хронікі Быхаўца» з тэкстам зводу 1446 г. паказвае, што адной з яе крыніц быў непасрэдна Слуцкі спіс першага беларуска-літоўскага летапісу. Гэты спіс, як вядома, у XVI ст. належаў князям Слуцкім.

Месца і час з'яўлення «Хронікі Быхаўца» нельга вызначыць, папярэдне не прасачыўшы, якім шляхам узнік яе арыгінальны тэкст, а іменна быў ён створаны адным аўтарам ці некалькімі.

Ян Якубоўскі пасля некаторых ваганняў схіліўся да вываду, што «Хроніка Быхаўца» — гэта «адна вялікая аповесць пра падзеі даўніх часоў, якая ўзнікла ў сярэдзіне XVI ст. з мэтай дапоўніць кароткія, лаканічныя запісы ранейшых храністаў» [243]. Блізкае да гэтага вываду меркаванне выказаў і М. Улашчык [244].

Разам з тым нядаўна ў навуковым друку амаль адначасова з'явіліся артыкулы Б. Флоры [245] і Е. Ахманьскага [246], у якіх гэтыя даследчыкі незалежна адзін ад другога абгрунтоўваюць зусім іншы погляд на ўзнікненне «Хронікі Быхаўца». Яны прыйшлі да вываду, што тэкст гэтага помніка складзены ў тры этапы. Адным храністам напісана частка да сярэдзіны XV ст. Яе аўтарам быў літовец, блізкі да Гаштольдаў. Заключная частка «Хронікі Быхаўца» складзена русінам пры двары князёў Слуцкіх. На трэцім этапе гэтыя два творы былі аб'яднаны ў адным летапісным зводзе. Прычым першую частку

---

243 J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 91.

244 «Хроника Быховца», стар. 26.

245 Б. Н. Флоря. О «Летописце Быховца». Источники и историография славянского Средневековья. М., 1967, стар. 135—144.

246 J. Ochmański. Nad Kroniką Bychowca. Studia źródłoznawcze. T. XII. Warszawa, 1967, s. 155—163.

Б. Флора датуе 50—60-мі гадамі XV ст., другую — канцом XV — пачаткам XVI ст.; Е. Ахманьскі — адпаведна 20—30-мі гадамі XVI ст. і 1510—1514 гг.

Вывад Б. Флоры, што новыя ўстаўкі пра падзеі другой палавіны XIV — першай палавіны XV ст. былі ўключаны ў тэкст «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» у 50—60-х гадах XV ст., беспадстаўны. Гэтаму вываду пярэчаць самыя разнастайныя факты.

Шмат якія звесткі гэтай часткі «Хронікі Быхаўца» неверагодныя і не адпавядаюць гістарычнай сапраўднасці. У іх сустракаецца многа розных недарэчнасцей і памылак (блытаніна імён, дат, асобных фактаў і інш.). Нават у апавяданнях пра падзеі другой чвэрці XV ст. няма падрабязнасцей і дэталей, якія б пераканаўча сведчылі, што аўтару былі вядомы дакладныя гістарычныя факты і што ён быў сучаснікам апісваемых падзей. Некаторыя характэрныя выразы («у *wsi tyi hody* za hospodarstwa Kazimira y za żywota toho cara Aczgireja upokoy był» і інш.) таксама паказваюць, што гэтыя запісы адносяцца да значна больш позняга часу.

Асобныя дэталі тэксту дакладна пацвярджаюць думку, што арыгінальная частка «Хронікі Быхаўца» за другую палавіну XIV — першую палавіну XV ст. не магла быць напісана ў XV ст. Так, у апавяданні пра Грунвальдскую бітву паведамляецца, што войска Вітаўта непасрэдна ўзначальвалі два гетманы, Іван Жэдзевід і Ян Гаштольд. Гэтыя самыя высокія вайсковыя пасады ўпершыню былі ўведзены ў Вялікім княстве Літоўскім на пераломе XV і XVI стст. «My szlachta staraja rymskaja», «wy starszaia szlachta y predniaia niż lachowie»,— гаворыцца ў іншым месцы Хронікі. Так упэўнена і з такім акцэнтам аб рымскім паходжанні літоўскіх феадалаў, думаецца, маглі сказаць толькі ў XVI ст., калі гэта легенда стала ўжо шырокавядомай.

Акрамя таго, калі б названая частка «Хронікі Быхаўца» была ўжо напісана ў другой палавіне XV ці хоць бы ў першай чвэрці XVI ст., яе, напэўна, уключылі б у склад адной з трох рэдакцый другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу. Па характару свайго зместу і агульнай накіраванасці гэта частка Хронікі (арыгінальныя звесткі пра падзеі другой палавіны XIV — першай палавіны XV ст.) верагодней за ўсё належыць сярэдзіне XVI ст.

Заключныя запісы «Хронікі Быхаўца» (за другую палавіну XV — пачатак XVI ст.) значна больш падрабязныя, дакладныя і маляўнічыя за папярэднія, аднак і яны зроблены праз пэўны час пасля апісаных у іх падзей. Варта прыгадаць адно характэрнае прызнанне храніста (у канцы звестак 1499 г.), што ён пра князя М. Глінскага яшчэ напіша «mnoho dywnoho», каб пераканацца ў гэтым.

Спроба Е. Ахманьскага абмежаваць час узнікнення заключнай часткі «Хронікі Быхаўца» 1510—1514 гг. не здаецца нам удалай і пераканаўчай. Той факт, што аўтар запісаў канца XV — пачатку XVI ст. месцамі недакладна ўжыў тытулы некаторых высокапастаўленых асоб Вялікага княства Літоўскага, можна тлумачыць па-рознаму. На нашу думку, гэты факт якраз дае падставы лічыць, што заключная частка «Хронікі Быхаўца» напісана пазней, магчыма, таксама ў сярэдзіне XVI ст., калі храніст мог ужо дакладна не помніць, якія дзяржаўныя пасады займаў у розныя гады той ці іншы пан, калі пералічэнне ўсіх тытулаў нябожчыкаў не мела ўжо асаблівага сэнсу.

Усе даследчыкі «Хронікі Быхаўца» адзінагалосны ў тым, што яе заключныя запісы зроблены русінам (беларусам) праваслаўнага веравызнання. Аднак прыналежнасць гэтага храніста да праваслаўя, як пераканаўча паказаў М. Улашчык, выразна выяўляецца таксама і ў

арыгінальных звестках Хронікі пра падзеі другой палавіны XIV — першай палавіны XV ст. Прычым надзвычай паказальна сцверджанне іх аўтара, што Соф'я Гальшанская, чацвёртая жонка караля Ягайлы, была «z pokolenia *ruskoho*». У сапраўднасці ж род Гальшанскіх паходзіў ад карэннага літоўца Альгімунта [247]. Такую свядомую фальсіфікацыю на карысць «рускіх» ніколі не зрабіў бы патрыятычна настроены літоўскі храніст, тым больш калі б ён пісаў свой твор пры двары віленскага біскупа Паўла Гальшанскага (памёр у 1555 г.), як мяркуе М. Ючас [248], ці пры двары канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда (памёр у 1539 г.), вядомага сваёй ярка выражанай пралітоўскай пазіцыяй.

Уся арыгінальная частка «Хронікі Быхаўца» вылучаецца адзінствам сваёй мовы і стылю, вольных ад уплыву польскай мовы і дзелавога стылю беларускай мовы XVI ст., чым выгадна адрозніваецца ад «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», твора, сапраўды напісанага пры двары Гальшанскіх або Гаштольдаў.

Такім чынам, найбольш верагодна, што «Хроніка Быхаўца» створана адным пісьменнікам. Гэты ж храніст, напэўна, аб'яднаў яе арыгінальную частку з папярэднімі беларуска-літоўскімі помнікамі ў новы летапісны звод, час узнікнення якога можна вызначыць толькі прыблізна. У сувязі з тым што адной з крыніц «Хронікі Быхаўца» была поўная рэдакцыя другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу, якая ўзнікла ў першай палавіне 50-х гадоў XVI ст., складанне трэцяга зводу мы адносім да другой палавіны 50-х гадоў гэтага ж стагоддзя.

---

[247] A. B o n i e c k i. Poczet rodów w Wielkiem księstwe Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1883, s. 76—77.

[248] M. J u č a s. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968, p. 105—118.

«Хроніку Быхаўца» яшчэ не ведаў віленскі войт Аўгуст Ратундус, аўтар «Гутаркі паляка з літоўцам» (1564 г.) [249]. Аднак гэта не можа быць дастаткова важкім аргументам, каб адмаўляць магчымасць узнікнення нашай Хронікі раней 1564 г., як думаў Ян Якубоўскі [250]. Патрэбны былі не месяцы, а годы, каб твор, напісаны ў правінцыі, стаў шырока вядомы віленскім чытачам.

Меркаванне Якубоўскага і Улашчыка, што аўтар «Хронікі Быхаўца» паходзіў з ваколіц Слуцка або Навагрудка і што дзесьці ў гэтым раёне яна была напісана, з'яўляецца найбольш абгрунтаваным і самым верагодным. Сапраўды, храніст выявіў надзвычай дакладнае веданне мясцовасці іменна гэтага раёна. Усе падзеі, якія адбываліся ў ваколіцах Навагрудка і Слуцка, апісаны так дэталёва і маляўніча, быццам сам аўтар быў непасрэдным іх сведкам. Ні пра адных мясцовых князёў і магнатаў няма ў «Хроніцы Быхаўца» столькі храналагічна дакладных і прачулых запісаў, як пра князёў Слуцкіх, да якіх храніст, бясспрэчна, пэўны час быў вельмі блізкім. Магчыма, што і «Хроніка Быхаўца» ў цэлым таксама складзена ў Слуцку.

На падставе гэтага было б, аднак, няправільным рабіць паспешлівыя вывады і шукаць у творы непасрэднага адлюстравання поглядаў і імкненняў князёў Слуцкіх, падрабязнай гісторыі іх роду і ратных учынкаў іх продкаў. Аўтар «Хронікі Быхаўца» не быў прыдворным летапісцам. Ён глядзеў на гісторыю Вялікага княства Літоўскага больш шырока, ставячы перад сабою высокапатрыятычныя мэты, абараняючы агульнадзяржаўныя інтарэсы. Яго погляды не былі абмежаваны ні вузкана-

---

[249] Rozmowa polaka z litwinem. W Krakowie, 1890, s. 67—70.

[250] J. Jakubowski. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie..., s. 58.

цыянальнымі, ні веравызнаўчымі рамкамі. У сваім творы ён нямала змясціў звестак пра літоўскіх магнатаў Гаштольдаў, таму што яны сапраўды адыгралі значную ролю ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага [251]. Складаючы максімальна поўнае апісанне мінулага гэтай дзяржавы, беларускі храніст, зразумела, не мог абмінуць і гісторыі распаўсюджання ў Літве хрысціянства каталіцкага абраду. Аднак ён нідзе не супрацьпастаўляе *«ich łatynskuiu»* веру «свайму» праваслаўю, а супрацьпастаўляе хрысціянства ўвогуле язычаству.

Аўтар «Хронікі Быхаўца» — тыповы прадстаўнік патрыятычна настроенай часткі беларуска-літоўскай шляхты сярэдзіны XVI ст., у асяроддзі якой нацыянальныя і веравызнаўчыя адрозненні не мелі істотнага значэння і якая лічыла сваёй дзяржавай, сваёй сапраўднай Радзімай усё Вялікае княства Літоўскае.

«Хроніка Быхаўца» была выклікана да жыцця надзвычай надзённымі, у першую чаргу палітычнымі патрэбамі грамадскага развіцця Літвы і Беларусі сярэдзіны XVI ст., калі было пастаўлена на карту само існаванне Вялікага княства Літоўскага як суверэннай дзяржавы. Поўнае ж падпарадкаванне гэтай дзяржавы шляхецкай Польшчы нясло з сабою дадатковае ўзмацненне сацыяльнага і нацыянальнага ўціску літоўскага, беларускага і ўкраінскага народаў. Таму барацьба супраць уніі з Польшчаю, якую пэўны час вяла перадавая частка пануючага класа Вялікага княства Літоўскага, была гістарычна апраўданай, бо яна аб'ектыўна стрымлівала агрэсіўны націск на літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі польскіх феадалаў. Аднак класавыя інтарэсы аказаліся

---

[251] Дарэчы, Гаштольды даводзіліся сваякамі князям Слуцкім: дачка Яна Гаштольда (памёр у 1458 г.) Марыя была замужам за Сямёнам Алелькавічам (A. Boniecki. Poczet rodów..., s. 57).

вышэй за ўсё. Баючыся страціць свае эканамічныя і палітычныя правы, мясцовыя феадалы ўсё ж паддаліся дамаганням польскіх паноў і пайшлі на супрацоўніцтва з імі. У выніку нацыянальнай здрады сваім народам пануючага класа Літвы і Беларусі сталі рэальна магчымымі і Люблінская (1569) і Брэсцкая (1596) уніі і іх трагічныя вынікі.

«Хроніка Быхаўца» — апошні, завяршаючы этап агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. Яна засведчыла высокі ўзровень грамадска-палітычнай і нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці беларускага і літоўскага народаў у XVI ст., а таксама значны рост апавядальнай культуры беларускіх храністаў таго часу, іх прафесіянальнага майстэрства. Надзвычай багатая сваім зместам, дасканалая ў літаратурных адносінах «Хроніка Быхаўца» і сёння не страціла свайго значэння як помнік гістарыяграфіі і як мастацкі твор.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Даследаванне ўзнікнення і літаратурнай гісторыі беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік XV—XVI стст. дазваляе выявіць цікавую своеасаблівасць сярэдневяковай гістарыяграфіі Беларусі і Літвы. Агульнадзяржаўнае летапісанне Вялікага княства Літоўскага стваралася не шляхам паступовага накаплення пагадовых запісаў, а паэтапна. Спачатку з'яўляліся асобныя гістарычныя аповесці-хронікі, якія затым злучаліся ў летапісныя зводы. Гэтыя помнікі на пэўных этапах папаўняліся новымі творамі і давалі пачатак наступным, больш поўным зводам. Такім чынам, беларуска-літоўскае летапісанне XV—XVI стст. не мела рэгулярнага, сістэматычнага характару, чым вызначалася тагачаснае летапісанне Расіі.

Усе тры летапісныя зводы — агульнадзяржаўныя, беларуска-літоўскія паводле свайго зместу. Разам з тым яны адрозніваюцца адзін ад другога сваёй непаўторнасцю, сваімі спецыфічнымі тэндэнцыямі. Своеасаблівасць кожнага зводу вызначылі не толькі канкрэтныя ідэйна-палітычныя задачы свайго часу, якія стаялі перад іх складальнікамі, але і тое, дзе і ў якім асяроддзі ствараліся гэтыя помнікі.

Так, у першым летапісным зводзе, складзеным у Смаленску пры двары праваслаўнага епіскапа, фактычна праводзіцца ідэя палітычнага і гістарычнага адзінства ўсіх усходнеславянскіх зямель. Гэта ідэя была не літоўскай, а рускай (у старым значэнні гэтага слова) нацыянальнай ідэяй, таксама як і агульнаруская праграма, якая вызначала аснову гістарычнай дзейнасці літоўскіх князёў Альгерда і Вітаўта.

У адрозненне ад агульнарускага па свайму характару першага беларуска-літоўскага летапісу «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» (другі звод), складзеная ў Вільні пры двары радавітага літоўца, вылучаецца сваёй ярка выражанай пралітоўскай накіраванасцю. Толькі бадай у «Хроніцы Быхаўца» няма такой рэзкай перавагі якой-небудзь адной уласна літоўскай ці ўласна «рускай» (беларускай) нацыянальнай тэндэнцыі.

Найбольш складаны па свайму саставу першы летапіс, якім былі закладзены асновы агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання і які паслужыў ядром наступных летапісных зводаў. Вось чаму разгляд гэтага помніка займае галоўнае месца ў нашай працы.

· Зразумела, не ўсе закранутыя пытанні разгледжаны намі дастаткова поўна і дэталёва. Магчыма, асобныя палажэнні ўсебакова не абгрунтаваны. Спадзяёмся, што іншыя вучоныя ўдакладняць і паглыбяць нашы вывады. Аўтар будзе лічыць, што ён дасягнуў сваёй мэты, калі яго сціплая праца павысіць цікавасць даследчыкаў, асабліва беларускіх, да гэтых выдатных помнікаў культуры беларускага і літоўскага народаў і хоць у якойсьці меры будзе садзейнічаць больш грунтоўнаму іх вывучэнню.

Нявырашаных жа пытанняў яшчэ сапраўды шмат. І філолага, і гісторыка, і даследчыка грамадска-палі-

тычнай і філасофскай думкі Беларусі і Літвы эпохі феадалізму чакае тут удзячны матэрыял.

Неабходна дасканала высветліць сувязь узнікнення беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік з ідэйна-палітычнымі імкненнямі пэўных грамадскіх колаў Вялікага княства Літоўскага XV—XVI стст., што дапаможа больш дакладна выявіць прычыны, якія выклікалі да жыцця гэтыя творы, больш глыбока раскрыць некаторыя важныя старонкі гістарычнага мінулага беларускага і літоўскага народаў.

Спецыяльнага даследавання варты і разгляд беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік як гістарычных крыніц. Нягледзячы на даволі шырокае выкарыстанне гэтых помнікаў у асобных працах па гісторыі Літвы, Беларусі і Украіны, грунтоўны, усебаковы аналіз усіх іх звестак з пункту гледжання гістарычнай сапраўднасці ў супастаўленні з данымі іншых дакладных крыніц усё яшчэ не зроблены.

Нам у асноўным вядомы літаратурныя крыніцы ўсіх трох беларуска-літоўскіх летапісных зводаў. Устаноўлена таксама, хоць і не ва ўсіх дэталях, сувязь агульнадзяржаўнага летапісання Беларусі і Літвы XV ст. з традыцыямі ўсходнеславянскага летапісання. Аднак недастаткова яшчэ вывучаны, нягледзячы на асобныя цікавыя спробы, уплыў гэтых летапісаў і хронік на беларускую, літоўскую і польскую гістарыяграфію другой палавіны XVI—XVIII ст. Не даследаваны як належыць і іх гістарычныя рэмінісцэнцыі ў творчасці некаторых польскіх, літоўскіх і беларускіх пісьменнікаў.

Адна з першачарговых задач — даследаванне характару і спецыфікі эвалюцыі летапісання Беларусі на працягу стагоддзяў, раскрыццё ідэйна-мастацкага зместу і літаратурнай формы асобных летапісаў і хронік. Гэта дапаможа больш правільна і аб'ектыўна вызначыць

месца і значэнне цэлага мастацкага жанру ў літаратурным працэсе і такім чынам атрымаць больш глыбокае ўяўленне аб асноўных заканамернасцях і шляхах развіцця ўсёй старажытнай беларускай літаратуры.

Настала таксама пара падрыхтаваць і выдаць больш поўны, палепшаны збор беларуска-літоўскіх і беларускіх летапісаў і хронік XV—XVIII стст., бо выданне 1907 г. (ПСРЛ, т. XVII) і няпоўнае, і ў шмат чым ужо ўстарэла. Да таго ж яно даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю нават для спецыялістаў. Акрамя таго, беларускі чытач справядліва чакае і масавага, навукова-папулярнага выдання найбольш выдатных з гэтых помнікаў— «Хронікі Быхаўца» і Баркулабаўскага летапісу — у перакладзе на сучасную беларускую мову.

Вырашэнне гэтых і рада іншых праблем значна наблізіць нас да таго часу, калі можна будзе непасрэдна прыступіць да стварэння поўнай, сапраўды навуковай гісторыі беларускага летапісання.

# ЗМЕСТ

На белорусском языке

*Вячеслав Антонович Чемерицкий*

**БЕЛОРУССКИЕ ЛЕТОПИСИ
КАК ПАМЯТНИКИ ЛИТЕРАТУРЫ**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар Н. Царова. Мастацкі рэдактар В. Саўчанка. Тэхнічны рэдактар А. Атлас. Карэктары М. Бранько, М. Каляда.

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР

АТ 02199. Здадзена ў набор 27/VI-69 г. Падпісана ў друк 9/IX-69 г. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 2. Друк. арк. 6,0. Ум. друк. арк. 8,4. Уч.-выд. арк. 8,12. Выд. заказ 818. Друк. заказ. 471. Тыраж 1000 экз. Цана 49 кап.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68

